• выдаецца са жніўня 1917 г. БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА • цана 1000 рублёў

6 жніўня 1996 г.
аўторак, №№ 195—196
(22998—22999)





# ЗВЯЗДА

РОЗГАЛАС

ЖНІВО-96

## Выбарачныя праверкі паказалі высокі ўзровень вільготнасці збожжа сёлетняга ўраджаю

Паводле даных, атрыманых карэспандэнтам «Звязды» са штаба па ўборцы пры Міністэрстве сельскай гаспадаркі і прадуктаў харчавання, вільготнасць збожжа сёлетняга ўраджаю зараз даволі высокая. Так, па Гродзенскай вобласці яна складае прыкладна 40—45 працэнтаў, па Мінскай — ад 36 (Старадарожскі раён) да 48 працэнтаў (Вілейскі раён). На Магілёўшчыне вільготнасць збожжа вагаецца ў межах 30—40 працэнтаў. Невялікая яна ў Брэсцкай вобласці — ад 14 да 16 працэнтаў і Гомельскай — 15—18 працэнтаў.

**Мікалай ЛІТВІНАЎ.**

***«ГАРАЧЫ» ТЭЛЕФОН «ЗВЯЗДЫ» —***

## 268-28-72

## «ГРОШЫ ПЛАЦЯЦЬ ЗА ЗРОБЛЕНАЕ, А НЕ ЗА ПРАСТОЙ...»

Сярод уражальных прыкладаў з затрымкай заработнай платы ў апошнія месяцы — славуты БелВАР. Спакваля грошы ўсё ж пачалі выплачваць. Відавочна, сваю ролю тут адыгралі невялікія хваляванні, што адбыліся на прадпрыемстве. Але трэба заўважыць і наступную акалічнасць (і што цікава, выклаў яе не хтосьці з кіраўнікоў, а звычайны радавы рабочы). І вось яе змест: «Грошы плацяць за зробленае, а не за прастой...» Сапраўды, змяншаецца вытворчасць, прадукцыя не знаходзіць пакупніка, а мы ўсё хочам атрымліваць ранейшую стабільную зарплату.

У апошнія дні часта званілі з Мінскага завода аўтаматычных ліній. Былі затрымка з выплатай чэрвеньскай зарплаты. Выдавалі нават пэўную частку (да 30 працэнтаў) заробку. Зараз усё нармальна. Як нам патлумачылі на прадпрыемстве, грошы людзям выплачаны. У тым ліку і тым, хто пайшоў у водпуск. Затрымкі з ліпеньскай зарплатай (днямі пачнецца яе выплата) не павінна быць.

Быў званок і з вёскі Пухавічы, ад рабочага Пухавіцкага прадпрыемства воднай сістэмы. Маўляў, затрымліваюць зарплату за май, толькі што выдалі за красавік. Ізноў жа, як мы высветлілі, сітуацыя нармалізавалася. Даўгі па зарплаце ліквідуюцца. А днямі гэтае адно са старэйшых прадпрыемстваў у сістэме меліярацыі адзначыла свой паўвекавы юбілей. Знайшліся грошы і на каштоўныя падарункі людзям, і на прэміі. Будзем спадзявацца, што справы ў меліяратараў наладзяцца.

Амаль што не турбуе «Звязду» глыбінка — нашы асноўныя чытачы. Мажліва, гарачая пара, жніво не пакідаюць у працаўнікоў часу на званкі. А магчыма... Як паведамілі нам у Міністэрстве сельскай гаспадаркі і харчавання, запазычанасць па зарплаце ў аграпрамысловым комплексе ліквідуецца. Найперш — за кошт грошай, выдзеленых дзяржавай пад будучы ўраджай.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

# Востраў Памяці на рацэ нашых слёз

***У Мінску адбылося адкрыццё храма-помніка воінам-інтэрнацыяналістам, загінуўшым у Афганістане***



Калі метраном адлічвае імгненні смутку, а шэры камень помніка патанае ў кветках, калі ўзгадваеш пра тых, хто змінуў на далёкіх перавалах ці вярнуўся з той вайны калекам, — выразна разумееш, што ўсе мы перад памяццю аднолькавыя, як тыя слязінкі, што набягаюць у гэтую хвіліну.

На шэрым камені надпіс: «Сынам, загінуўшым у Афганістане, узведзены гэты храм-помнік па даручэнню беларускіх маці, якія не жадаюць, каб зло панавала ні на сваёй, ні на чужой зямлі».

Вакол белых сцен храма застылі бронзавыя постаці жанчын — іх нібы сабрала сюды агульная бяда і агульная адказнасць за будучыню.

На адкрыццё помніка з'ехаліся дэлегацыі бацькоў загінуўшых салдат з усёй Беларусі, сябры-аднапалчане, тыя, хто чакаў і не дачакаўся дома. Невялічкі востраў сярод Свіслачы не здолеў умясціць усіх гасцей і гараджан, таму тысячы людзей сабраліся на беразе ракі, непадалёку ад сцен храма-помніка. Усе яны памятаюць тую вайну, якая ўвайшла ў нашу гісторыю цяжкімі стратамі і горкімі наступствамі.

На цырымоніі прысутнічалі старшыня Вярхоўнага Савета Сямён Шарэцкі і яго намеснікі Васіль Новікаў і Генадзь Карпенка, віцэ-прэм'ер Уладзімір Русакевіч, кіраўнікі міністэрстваў і ведамстваў Беларусі, прадстаўнікі дыпламатычнага корпуса, а таксама былы міністр абароны СССР Маршал Савецкага Саюза Сяргей Сакалоў.

«... Гэта вайна ўварвалася ў наша жыццё па волі палітыкаў, змяніўшы лёс цэлага пакалення. Якімі б ні былі палітычныя ацэнкі гэтай вайны, усім сёння зразумела, што салдаты і афіцэры, якія прайшлі дарогамі Афганістана, свой абавязак выканалі сумленна... Я яшчэ раз пацвярджаю, што ні адзін салдат нашай рэспублікі не будзе ваяваць, а гэта значыць і гінуць у чужых краях. Хопіць. Наваяваліся...» — гэта словы з прамовы Прэзідэнта А. Лукашэнкі, сказанай у час адкрыцця помніка. Можна было б прывесці яшчэ шмат чаго, што сказалі тут самі воіны-«афганцы», іх бацькі, маладыя воіны сённяшняй Беларусі, — але ўсе гэтыя словы пра адно і тое ж: пра нашу памяць аб загінуўшых. Амаль трыццаць тысяч грамадзян Беларусі прайшлі праз афганскую вайну, семсот семдзесят адзін воін загінуў на ёй.

Дзевяць гадоў збіралі людзі грошы на будаўніцтва гэтага помніка. Цяжка пералічыць усе цяжкасці, якія ўзнікалі на шляху бацькоў загінуўшых воінаў, аўтара праекта скульптара Ю. Паўлава, усіх добраахвотных памочнікаў увасаблення задумы ўзвесці помнік на востраве сярод ракі.

Сёння шмат робіцца, каб воіны-інтэрнацыяналісты ўсіх мінулых войнаў не былі забыты. Нарэшце з'явіўся ў календары дзень воіна-інтэрнацыяналіста, прынята пастанова аб матэрыяльнай падтрымцы сем'яў загінуўшых, інвалідаў, створана міждзяржаўная комплексная медыка-сацыяльная праграма аховы здароўя і рэабілітацыі воінаў-інтэрнацыяналістаў і членаў іх сем'яў, якая зацверджана Саветам кіраўнікоў урадаў СНД.

**(Заканчэнне на 2-й стар.)**

## ВІНШАВАННІ ПРЭЗІДЭНТА

### *Намесніку прэм'ер-міністра Рэспублікі Беларусь Гаркуну Уладзіміру Гіляравічу*

Паважаны Уладзімір Гіляравіч!

Прыміце мае шчырыя віншаванні са знамянальнай падзеяй у Вашым жыцці — 50-годдзем з дня нараджэння.

Вы прайшлі складаны шлях ад радавога спецыяліста гаспадаркі да буйнога кіраўніка рэспубліканскага маштабу, здабылі заслужаны аўтарытэт і павагу працаўнікоў палёў і фермаў. Вас вызначаюць сапраўды рэдкая працавітасць, высокі прафесіяналізм і талент арганізатара, якія так высока цэняцца ў гэты няпросты час.

Узначальваючы адзін з найбольш адказных участкаў эканомікі — аграпрамысловы комплекс, Вы настойліва і паслядоўна ажыццяўляеце курс на вывад сельскай гаспадаркі з крызісу, яе рэфарміраванне, забеспячэнне выпуску высакаякаснай прадукцыі і забеспячэнне нашага насельніцтва паўнацэннымі прадуктамі харчавання.

У дзень юбілею жадаю Вам, Уладзімір Гіляравіч, моцнага здароўя, сямейнага шчасця, новых працоўных поспехаў на карысць нашай Айчыны.

**З павагай Аляксандр ЛУКАШЭНКА.**

### *Міністру замежных спраў Рэспублікі Беларусь Сянько Уладзіміру Лявонавічу*

Паважаны Уладзімір Лявонавіч!

Сардэчна віншую Вас з 50-гадовым юбілеем. Рад адзначыць, што за час работы міністрам замежных спраў Рэспублікі Беларусь Вы ўнеслі значны ўклад ва ўмацаванне яе міжнародных пазіцый і аўтарытэту. Спадзяюся, што, працягваючы плённа працаваць на гэтай высокай пасадзе, Вы будзеце ініцыятарам многіх добрых спраў у знешняй палітыцы нашай дзяржавы.

Шчыра жадаю Вам, Уладзімір Лявонавіч, моцнага здароўя, многіх гадоў актыўнага жыцця на карысць нашай Айчыны.

**З павагай Аляксандр ЛУКАШЭНКА.**

5 жніўня 1996 г.

## КАЛІ ГАРАЦЬ «КАРАБЛІ ПАЛЁЎ»...

**Не ў прыклад папярэднім гадам, сёлета па стану на 1 жніўня ў гаспадарках краіны падчас уборачных работ не было зарэгістравана ніводнага выпадку ўзгарання камбайнаў.**

Як паведамілі ў Дзяржаўнай інспекцыі па ахове працы, транспартнай і пажарнай бяспецы Мінсельгасхарча, летась на гэты ж перыяд было зарэгістравана 20 выпадкаў узгарання камбайнаў падчас работы, якія скончыліся частковым або поўным знішчэннем тэхнікі. Па словах намесніка начальніка інспекцыі Аляксея Калеснікава, асноўнымі прычынамі пажараў былі няспраўнасць электрычнай праводкі, несвоечасовая ачыстка малацільных механізмаў ад нацёкаў масла і рэштак саломы, а таксама слабая прафесіянальная падрыхтоўка працуючых экіпажаў. Натуральна, што камбайн — надзвычай каштоўная па сённяшнім часе машына, таму, улічваючы даўнюю трывожную статыстыку, сёлета адпаведныя органы нагляду ўдзялілі шмат увагі прафілактыцы ўзгаранняў у гаспадарках як напярэдадні жніва, так і падчас яго. Плён у выглядзе зэканомленых народных сродкаў несумненны. Ці пройдзе ўборка збожжавых цалкам без стратаў тэхнікі?..

**Сяргей РАСОЛЬКА.**




*XXVI ЛЕТНІЯ АЛІМПІЙСКІЯ ГУЛЬНІ*

## ВЫНІКОВАЯ ТАБЛІЦА РАЗМЕРКАВАННЯ 271 КАМПЛЕКТА ЎЗНАГАРОД

| п/п | Краіна | Золата | Серабро | Бронза | Усяго |
|---|---|---|---|---|---|
| **1.** | **ЗША** | **44** | **32** | **25** | **101** |
| **2.** | **Расія** | **26** | **21** | **16** | **63** |
| **3.** | **Германія** | **20** | **18** | **27** | **65** |
| 4. | Кітай | 16 | 22 | 12 | 50 |
| 5. | Францыя | 15 | 7 | 15 | 37 |
| 6. | Італія | 13 | 10 | 12 | 35 |
| 7. | Аўстралія | 9 | 9 | 23 | 41 |
| 8. | Куба | 9 | 8 | 8 | 25 |
| 9. | Украіна | 9 | 2 | 12 | 23 |
| 10. | Паўднёвая Карэя | 7 | 15 | 5 | 27 |
| 11. | Польшча | 7 | 5 | 5 | 17 |
| 12. | Венгрыя | 7 | 4 | 10 | 21 |
| 13. | Іспанія | 5 | 6 | 6 | 17 |
| 14. | Румынія | 4 | 7 | 9 | 20 |
| 15. | Нідэрланды | 4 | 5 | 10 | 19 |
| 16. | Грэцыя | 4 | 4 | 0 | 8 |
| 17. | Чэхія | 4 | 3 | 4 | 11 |
| 18. | Швейцарыя | 4 | 3 | 0 | 7 |
| 19. | Данія | 4 | 1 | 1 | 6 |
| 20. | Турцыя | 4 | 1 | 1 | 6 |
| 21. | Канада | 3 | 11 | 8 | 22 |
| 22. | Балгарыя | 3 | 7 | 5 | 15 |
| 23. | Японія | 3 | 6 | 5 | 14 |
| 24. | Казахстан | 3 | 4 | 4 | 11 |
| 25. | Бразілія | 3 | 3 | 9 | 15 |
| 26. | Новая Зеландыя | 3 | 2 | 1 | 6 |
| 27. | ПАР | 3 | 1 | 1 | 5 |
| 28. | Ірландыя | 3 | 0 | 1 | 4 |
| 29. | Швецыя | 2 | 4 | 2 | 8 |
| 30. | Нарвегія | 2 | 2 | 3 | 7 |
| 31. | Бельгія | 2 | 2 | 2 | 6 |
| 32. | Нігерыя | 2 | 1 | 3 | 6 |
| 33. | КНДР | 2 | 1 | 2 | 5 |
| 34. | Алжыр | 2 | 0 | 1 | 3 |
| 35. | Эфіопія | 2 | 0 | 1 | 3 |
| 36. | Вялікабрытанія | 1 | 8 | 6 | 15 |
| **37.** | **Беларусь** | **1** | **6** | **8** | **15** |
| 38. | Кенія | 1 | 4 | 3 | 8 |
| 39. | Ямайка | 1 | 3 | 2 | 6 |
| 49. | Фінляндыя | 1 | 2 | 1 | 4 |
| 41. | Інданезія | 1 | 1 | 2 | 4 |
| 42. | Югаславія | 1 | 1 | 2 | 4 |
| 43. | Іран | 1 | 1 | 1 | 3 |
| 44. | Славакія | 1 | 1 | 1 | 3 |
| 45. | Арменія | 1 | 1 | 0 | 2 |
| 46. | Харватыя | 1 | 1 | 0 | 2 |
| 47. | Партугалія | 1 | 0 | 1 | 2 |
| 48. | Тайланд | 1 | 0 | 1 | 2 |
| 49. | Бурундзі | 1 | 0 | 0 | 1 |
| 50. | Коста-Рыка | 1 | 0 | 0 | 1 |
| 51. | Эквадор | 1 | 0 | 0 | 1 |
| 52. | Ганконг | 1 | 0 | 0 | 1 |
| 53. | Сірыя | 1 | 0 | 0 | 1 |
| 54. | Аргенціна | 0 | 2 | 1 | 3 |
| 55. | Намібія | 0 | 2 | 0 | 2 |
| 56. | Славенія | 0 | 2 | 0 | 2 |
| 57. | Аўстрыя | 0 | 1 | 2 | 3 |
| 58. | Малайзія | 0 | 1 | 1 | 2 |
| 59. | Малдова | 0 | 1 | 1 | 2 |
| 60. | Узбекістан | 0 | 1 | 1 | 2 |
| 61. | Азербайджан | 0 | 1 | 0 | 1 |
| 62. | Багамскія астравы | 0 | 1 | 0 | 1 |
| 63. | Латвія | 0 | 1 | 0 | 1 |
| 64. | Філіпіны | 0 | 1 | 0 | 1 |
| 65. | Замбія | 0 | 1 | 0 | 1 |
| 66. | Тайвань | 0 | 1 | 0 | 1 |
| 67. | Тонга | 0 | 1 | 0 | 1 |
| 68. | Грузія | 0 | 0 | 2 | 2 |
| 69. | Марока | 0 | 0 | 2 | 2 |
| 70. | Трынідад і Табага | 0 | 0 | 2 | 2 |
| 71. | Індыя | 0 | 0 | 1 | 1 |
| 72. | Ізраіль | 0 | 0 | 1 | 1 |
| 73. | Літва | 0 | 0 | 1 | 1 |
| 74. | Мексіка | 0 | 0 | 1 | 1 |
| 75. | Манголія | 0 | 0 | 1 | 1 |
| 76. | Мазамбік | 0 | 0 | 1 | 1 |
| 77. | Пуэрта-Рыка | 0 | 0 | 1 | 1 |
| 78. | Туніс | 0 | 0 | 1 | 1 |
| 79. | Уганда | 0 | 0 | 1 | 1 |

*(Гляді 4-ю стар.)*

## ПАЛІТЫКІ СВЕТУ ВІТАЮЦЬ НЕЗАЛЕЖНУЮ БЕЛАРУСЬ

Дзень незалежнасці Беларусі, які наша краіна нядаўна адсвяткавала, прадэманстраваў вялікую цікавасць сусветнай грамадскасці да маладой незалежнай дзяржавы. На імя Прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі прыйшлі сотні цёплых прывітанняў і тэлеграм ад кіраўнікоў дзяржаў, міжнародных арганізацый, вядомых палітычных дзеячаў. БЕЛТА працягвае знаёміць чытачоў са святочнай поштай, што паступіла на адрас кіраўніка дзяржавы з нагоды 6-й гадавіны з дня прыняцця Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце.

### БУТРАС ГАЛІ ЖАДАЕ КРАІНЕ ПРАЦВІТАННЯ, А ПАПА РЫМСКІ БЛАГАСЛАЎЛЯЕ БЕЛАРУСКІ НАРОД

Найлепшыя пажаданні з нагоды Дня незалежнасці Рэспублікі Беларусь перадаў генеральны сакратар ААН Бутрас Бутрас Галі. У прывітанні, атрыманым з нью-йоркскай штаб-кватэры Арганізацыі Аб'яднаных Нацый, падкрэслівацца, што «цвёрдая прыхільнасць Рэспублікі Беларусь і іншых краін — членаў ААН да прынцыпаў і духу яе статута, якая была пацверджана іх лідэрамі ў час святкавання 50-й гадавіны ААН, павысіць эфектыўнасць гэтай сусветнай арганізацыі ў якасці інструмента ўмацавання міру, развіцця дэмакратыі і справядлівасці і паляпшэння дабрабыту, да якога імкнуцца людзі ва ўсім свеце».

З цэнтра духоўнага свету Еўропы — Ватыкана — прыйшло віншаванне з нагоды нацыянальнага свята ад папы рымскага Іаана Паўла 11. Кіраўнік каталіцкай царквы пажадаў умацавання дзяржаўных інстытутаў для аб'яднання краіны і пабудовы грамадства салідарнасці і суверэнітэту, павышэння значнасці культурных каштоўнасцей, пасылаў усім жыхарам Беларусі Божае благаславенне.

### КРАІНЫ СНД — ЗА ДРУЖБУ І СУПРАЦОЎНІЦТВА

Ад імя азербайджанскага народа міру, шчасця і працвітання Беларусі пажадаў Прэзідэнт гэтай краіны Гейдар Аліеў. Ён запэўніў свайго беларускага калегу, што вузы дружбы і супрацоўніцтва паміж Азербайджанскай Рэспублікай і Рэспублікай Беларусь будуць і ў далейшым развівацца ў імя працвітання нашых народаў.

***

Свае сардэчныя віншаванні і добрыя пажаданні беларускаму народу выказаў у тэлеграме Прэзідэнт Таджыкістана Эмамалі Рахмонаў. Ён выказаў цвёрдую ўпэўненасць у тым, што таджыкска-беларускія адносіны традыцыйнай брацкай дружбы і ў далейшым будуць паглыбляцца як на двухбаковай аснове, так і ў рамках Садружнасці, напаўняючыся якасна новым зместам.

***

Ад імя народа Казахстана і ад сябе асабіста віншаванне з нацыянальным святам — Днём незалежнасці — накіраваў Прэзідэнту Беларусі кіраўнік рэспублікі Нурсултан Назарбаеў. У яго тэлеграме падкрэсліваецца, што адносіны дружбы і супрацоўніцтва паміж нашымі краінамі, якія ідуць курсам інтэграцыі, будуць і ў далейшым развівацца паспяхова.

***

«З нагоды нацыянальнага свята прыміце ад народа Малдовы пажаданні шчасця і працвітання беларускаму народу», — піша Прэзідэнт краіны Мірча Снегур. Ён таксама выказаў упэўненасць, што малдова-беларускія адносіны, якія характарызуюцца дынамічным развіццём, будуць яшчэ мацнейшымі.

***

З 6-й гадавінай незалежнасці Рэспублікі Беларусь павіншаваў і Сапармурат Ніязаў, Прэзідэнт Туркменістана. Ад імя брацкага туркменскага народа ён пажадаў вялікіх поспехаў, працвітання і дабрабыту нашай краіне.

### ДАЛЁКАЕ ЗАМЕЖЖА СТАНОВІЦЦА БЛІЖЭЙ

Ад імя індыйскага кіраўніцтва і народа гэтай дзяржавы Аляксандра Лукашэнку павіншаваў Прэзідэнт Індыі Шанкар Даял Шарма. У святочнай тэлеграме, у прыватнасці, адзначаецца: «Індыя і Беларусь падтрымліваюць адносіны дружбы і супрацоўніцтва. Мы з нецярпеннем чакаем далейшага паглыблення і пашырэння сувязей на карысць нашых двух народаў».

***

З нагоды нацыянальнага свята — Дня незалежнасці Беларусі — у адрас кіраўніка дзяржавы паступілі таксама прывітанні ад Прэзідэнта Фінляндскай Рэспублікі Марці Ахцісаары, Прэзідэнта Рэспублікі Кіпр Глафкоса Клірыдыса, Прэзідэнта Турэцкай Рэспублікі Паўночнага Кіпра Рауфа Дэнкташа.

З пажаданнямі прагрэсу і міру да Аляксандра Лукашэнкі звярнуліся лідэры шэрага арабскіх краін: рэгент Іарданскага Хашымідскага Каралеўства Эль Хасан Бін Таляль, эмір Дзяржавы Кувейт Джабер аль-Ахмед аль-Джабер ас-Сабах, Прэзідэнт Аб'яднаных Арабскіх Эміратаў Заід бен Султан Аль Нахаян.

Тэлеграмы з пажаданнямі працвітання і шчасця прыслалі на імя Аляксандра Лукашэнкі Прэзідэнт Рэспублікі Харватыя Франье Туджман і Прэзідэнт Чэшскай Рэспублікі Вацлаў Гавел. **БЕЛТА.**

## Востраў Памяці на рацэ нашых слёз





(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)

Сёння ён яшчэ вельмі маленькі, гэты Востраў Памяці. Ці стане ён вартым бязмернага гора, прынесенага афганскаю вайною? Ці стане ён вартым вялікіх урокаў той вайны?

Гэта залежыць ад нас.

**Яўген ПЯСЕЦКІ, фота аўтара.**



## КОЛЬКІ ЛЬГОТНІКАЎ ПЕРАВОЗЯЦЬ ЭЛЕКТРЫЧКІ?

**Не сакрэт, што далёка не адна катэгорыя грамадзян карыстаецца сёння рознага роду льготамі пры паездках у грамадскім транспарце: пенсіянеры, студэнты, супрацоўнікі праваахоўных органаў і інш. Дарэчы, гэта не лічачы звычайных «зайцоў», якіх апошнім часам стала значна больш, чым у папярэднія гады.**

Якую ж колькасць трывіяльных, а таксама «ўзаконеных» безбілетнікаў перавозіць, скажам, Беларуская чыгунка на прыгарадным напрамку сянняў — бадай, адным з самых папулярных па прычыне сваёй таннасці і зручнасці?

Як паведаміў карэспандэнту «Звязды» начальнік вакзала «Станцыя Мінск-Пасажырскі» Уладзімір Грыгаровіч, дакладную лічбу льготнікаў (а тым больш «зайцоў») вызначыць немагчыма. Тым не менш, ускосна яе можна ўстанавіць, прааналізаваўшы колькасць прададзеных за апошні час білетаў. Так, калі ў маі 1993 года (на гэты час прыпаў пік пасажырскіх перавозак на прыгарадным напрамку) праз касы было рэалізавана 919 тысяч білетаў, то ўжо ў маі 1994 года — 771 тысяча. Яшчэ праз год пасажырапаток скараціўся да 648,5 тысячы, а ў маі бягучага года (пасля прадстаўлення прэзідэнцкім указам права бясплатнага праезду пенсіянерам) наогул склаў 531,5 тысячы. Гаварыць аб тым, што пасажыраў адпужвае кошт праезду, не даводзіцца. На сённяшні дзень карыстацца электрычкай (1.200 рублёў за адну зону, або за 10 км) больш выгадна, чым аўтатранспартам. Атрымліваецца, што розніца паміж колькасцю пасажыраў, якія набывалі білеты тры гады таму і зараз, — і ёсць лічба льготнікаў і безбілетнікаў. Прычым прыкладная па мінімуму. Ува што гэтая сітуацыя выліваецца для чыгункі — здагадацца няцяжка. Толькі па аднаму мінскаму аддзяленню чыгункі страты ад прыгарадных перавозак вылічваюцца штомесяц мільярдамі рублёў...

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

## ПРЭС-КАНФЕРЭНЦЫЯ М. МЯСНІКОВІЧА Ў МАСКВЕ

**У мінулую суботу ў памяшканні Інтэрфакса адбылася прэс-канферэнцыя кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь М. Мясніковіча.**

Пачынаючы сустрэчу з журналістамі вядучых расійскіх газет, радыё і тэлебачання, ён паведаміў, што знаходзіўся ў Маскве з рабочым візітам, вынікамі якога цалкам задаволены. У прыватнасці, спадар Мясніковіч сказаў: «Я сустракаўся з прэм'ер-міністрам Расійскай Федэрацыі В. Чарнамырдзіным, кіраўніком Адміністрацыі Прэзідэнта А. Чубайсам, з намеснікамі кіраўніка ўрада і некаторымі міністрамі. Я ўпэўніўся, што для Расіі і яе кіраўніцтва, для ўсяго народа немабыякава, якія працэсы адбываюцца ў Рэспубліцы Беларусь. Мяне радуе тое, што выказана не толькі зацікаўленасць, але і прапанаваны актыўны ўдзел у вырашэнні тых ці іншых задач, як гаворыцца, не толькі словам, але і справай. Гэта датычыцца і рэалізацыі дамовы аб супольнасці і аб механізмах кансультацый, механізмах выпрацоўкі і прыняцця канкрэтных рашэнняў, каб у інтарэсах справы не існаваў ні нейкія парушэнні ў заканадаўстве нашых краін. Нашы дзяржавы суверэнныя, незалежныя, і ўсе пытанні інтэграцыі трэба вырашаць цывілізавана, у рамках закона».

Што датычыцца эканамічных праблем, працягваў М. Мясніковіч, то яны былі прадметам двухгадзіннай размовы з А. Чубайсам. ...Павінны быць сінхранізаваны агульныя крокі і уніфікавана заканадаўчая база. Не выпадкова мы распрацавалі ў сябе спецыяльную праграму з комплексам мераў па эканоміцы на другое паўгоддзе 1996 года і на 1997 год. Гэту праграму і пералік мераў я пакінуў ва ўрадзе Расійскай Федэрацыі. Мы дамовіліся, што ў самыя сціслыя тэрміны атрымаем водгукі вядучых міністэрстваў і спецыялістаў у Маскве, што трэба будзе, на іх погляд, дапоўніць і змяніць у нашых прапановах па рэфармiраванню эканомікі».

На пытанне аб удзеле беларускага Прэзідэнта А. Лукашэнкі ва ўрачыстасцях з нагоды інаўгурацыі Б. Ельцына ў Крамлі Міхаіл Уладзіміравіч праінфармаваў журналістаў, што беларускі Прэзідэнт ужо атрымаў афіцыйнае запрашэнне ад расійскага Прэзідэнта. «Напярэдадні ў прэзідэнтаў запланавана рабочая сустрэча. Яна адбудзецца 8 жніўня. Невядома, колькі яна працягнецца, але гэта будзе не пратакольная сустрэча», — заявіў М. У. Мясніковіч. На прэс-канферэнцыі прысутнічаў пасол Беларусі ў Расійскай Федэрацыі В. Даніленка.

**Леанід ФАДЗЕЕЎ.**

## УКАЗ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ
№ 279

**Аб адстаўцы Г. П. Бадзея**

У адпаведнасці з пунктам 4 часткі першай артыкула 100 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь прыняць адстаўку міністра эканомікі Рэспублікі Беларусь Бадзея Георгія Пятровіча.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. ЛУКАШЭНКА.**

5 жніўня 1996 г. г. Мінск.

## УКАЗ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ
№ 280

**Аб адстаўцы Л. Г. Сініцына**

У адпаведнасці з пунктам 4 часткі першай артыкула 100 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь прыняць адстаўку намесніка прэм'ер-міністра Рэспублікі Беларусь Сініцына Леаніда Георгіевіча.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. ЛУКАШЭНКА.**

5 жніўня 1996 г. г. Мінск.

## СЯМЁН ШАРЭЦКІ ПААБЯЦАЎ АМЕРЫКАНСКІМ ІНВЕСТАРАМ ПАДТРЫМКУ ЗАКАНАДАЎЦАЎ

«Наша маладая суверэнная дзяржава трывала ўзяла курс на развіццё рыначных адносін». Перафразоўваючы вядомыя словы, можна сказаць, што дэмакратыя і рынак прыйшлі ў нашу краіну надоўга і ўсур'ёз», — з такімі словамі да замежных бізнесменаў звярнуўся кіраўнік Вярхоўнага Савета Беларусі Сямён Шарэцкі, які прысутнічаў 1 жніўня на пасяджэнні прадстаўнікоў Амерыканскай гандлёвай палаты ў Мінску.

Спікер беларускага парламента адзначыў, што эканамічныя законы універсальныя і аднолькава дзейнічаюць ва ўсіх краінах свету. Таму, лічыць Сямён Шарэцкі, «нам не трэба прыдумваць веласіпед, а неабходна прыстасаваць рыначныя ідэі да рэалій нашага жыцця».

Звяртаючыся да прадстаўнікоў амерыканскіх кампаній, якія прысутнічалі ў зале, кіраўнік Вярхоўнага Савета запэўніў, што «заканадаўчая ўлада будзе і ў далейшым рабіць усё для таго, каб стварыць спрыяльныя ўмовы для людзей, якія дапамагаюць нашым рэспублікі ўстаць на ногі». Сведчанне гэтаму — шэраг законаў і паправак, прынятых парламентам за апошнія некалькі месяцаў.

Пасля абмену прывітальнымі прамовамі прысутныя пачалі абмеркаванне канкрэтных заканадаўчых актаў, якія, на думку амерыканскіх бізнесменаў, трэба змяніць для таго, каб у замежных інвестараў з'явілася ўпэўненасць у захаванасці капіталаў, укладзеных у беларускую эканоміку. Сямён Шарэцкі выслухаў думку членаў Амерыканскай гандлёвай палаты і пааабяцаў зрабіць канкрэтныя высновы з прведзенай «карыснай і патрэбнай дыскусіі».

**Вадзім МІЛІЦЫН, БЕЛТА.**

## АДНЫМ СКАЗАМ

- Адказны час зараз не толькі ў абітурыентаў: у рэспубліцы **пачалася атэстацыя** старшынь раённых і гарадскіх выканкомаў, іх намеснікаў, **кіраўнікоў** упраўленняў і аддзелаў абласной выканаўчай улады — своеасаблівы экзамен мае на мэце высвеціць узровень адукацыі і культуры, здольнасць працаваць з калектывам, недахопы і, наадварот, «плюсы» кіруючых кадраў.
- Упершыню за апошнія гады на Беларусі **аднаўляецца** рэспубліканскае **спаборніцтва за лепшыя дасягненні на жніве** — у прыватнасці, прысуджаецца 12 першых месцаў механізатарам: камбайнеры, якія атрымаюць самыя высокія намалоты, будуць прэміраваны легкавымі аўтамабілямі, а іх памочнікі — матацыкламі.
- А вось практыка работы студэнцкіх будаўнічых атрадаў аказалася забытай: **на тэрыторыі Беларусі** сёлета **не працуе ні адзін СБА**, затое 450 студэнтаў накіраваліся ў Прыднястроўе, каля 800 — на Стаўраполле, 200 — у Крым.
- 10 жніўня адкрываецца чарговы паляўнічы сезон — за невялікім выключэннем (за дзень палявання не больш як 2 цецеркі і 2 шэрыя курапаткі), астатнюю **дзічыну можна адстрэльваць без нормы**.
- 116 ананімных тэлефанаванняў **аб закладзеных выбуховых устройствах** зафіксавана міліцыяй толькі ў першым паўгоддзі — 21 «жартаўнік» устаноўлены.
- Калі ў 1971 годзе **ў спісе найменш развітых краін свету**, які быў складзены ААН, налічвалася 25 дзяржаў, то зараз ён павялічыўся да 48: найбольшая колькасць людзей, даведзеных да стану крайняй галечы (палова бедных усяго свету) жыве ў Паўднёвай Азіі (Індыя, Бангладэш, Пакістан, Мальдыўскія астравы, Шры-Ланка).
- **Спіс самых багатых людзей свету**, па меркаванню амерыканскага часопіса Forbes, **сёлета ўзначальвае амерыканец Біл Гейтс**, чыя маёмасць ацэньваецца ў 18 млрд. долараў, — гэта на 40 працэнтаў больш, чым было ў яго летась.

*АКТУАЛЬНА*

## ЗНАЧНАГА ПАВЫШЭННЯ ЦЭН НА КАМУНАЛЬНЫЯ ПАСЛУГІ НЕ ЧАКАЕЦЦА

**Існуючы парадак аплаты насельніцтвам камунальных паслуг на працягу бліжэйшага года значна не зменіцца. Аб гэтым Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка заявіў у час сваёй нядаўняй паездкі па Гомельшчыне.**

Паводле слоў кіраўніка дзяржавы, цяпер насельніцтва аплачвае толькі 38 працэнтаў кошту цеплавой энергіі. Магчыма, у бліжэйшы абагравальны сезон гэта лічба павысіцца да 50 працэнтаў, але толькі ў тым выпадку, калі будзе забяспечаны нармальны ўзровень жыцця людзей. За гэты час урад павінен распрацаваць сістэму поўнай аплаты кошту камунальных паслуг насельніцтвам пры ўмове, што людзі атрымаюць поўную кампенсацыю. Аляксандр Лукашэнка падкрэсліў, што такая сістэма можа быць уведзена толькі пасля дэталёвага ўзгаднення з ім, як кіраўніком дзяржавы.

**Эдуард ПІВАВАР, БЕЛТА.**

*НАЗНАЧЭННІ*

## ВЫДАВЕЦТВА «МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА» ЎЗНАЧАЛІЎ НОВЫ ДЫРЭКТАР

**У буйным дзяржаўным выдавецтве па выпуску беларускай мастацкай літаратуры адбылася змена кіруючага саставу. Як паведамілі карэспандэнту БЕЛТА ў прэс-службе Дзяржкамдруку, з 1 жніўня Серафіма Андраюка на пасадзе дырэктара выдавецтва «Мастацкая літаратура» змяніў Георгій Марчук.**

Аўтар папулярных раманаў «Крык на хутары», «Вочы і сон», «Без ангелаў», «Кветкі правінцыі» Георгій Марчук з прыдзірлівым літаратурным крытыкам Серафімам Андраюком будзе працаваць у дуэце, паколькі былы дырэктар заняў кабінет галоўнага рэдактара гэтага ж выдавецтва.

**Вольга ШЧАДРЫНА, БЕЛТА.**

## АЛІМПІЙСКАЕ ЗОЛАТА — ЁСЦЬ! АЛЕ Ў ШКОЛЬНІКАЎ...

**Гучна заявіць пра Беларусь пад сілу не толькі спартсменам. Сведчанне таму — вынікі апошніх міжнародных алімпіяд сярод школьнікаў па хіміі і інфарматыцы.**

Так, зборная нашай краіны па хіміі прывезла з Расіі 3 узнагароды ўсіх вартасцей. Залатым медалём былі ацэнены веды Дзяніса Лянева (г. Мінск), сярэбраным — Віталя Буза (г. Баранавічы) і бронзавым — Андрэя Бекіша (г. Мінск).

Выдатна прадставіла беларускую школу і зборная краіны па інфарматыцы: 2 сярэбраныя (Павел Лангер, Іван Міхневіч); абодва — г. Мінск) і залаты медаль (Віталь Бука, г. Маладзечна).

Такім чынам, два летнія месяцы для беларускіх школьнікаў сталі вельмі «ураджайнымі»: па шасці дысцыплінах імі было заваявана на міжнародных алімпіядах 4 залатыя, 8 сярэбраных і 11 бронзавых медалёў. Безумоўна, спартсменам-алімпійцам ёсць чаму павучыцца ў моладзі.

**Надзея НІКАЛАЕВА.**

## ХОДЗЯЦЬ У ШКОЛУ, ХОДЗЯЦЬ У ШКОЛУ...

**Апошні месяц лета толькі пачаўся, а бацькі школьнікаў усё часцей заглядваюць у крамы, шукаючы неабходныя рэчы дзетак, якім — не паспееш азірнуцца — ісці ў школу. Якія патрэбы ўсхваляваных бацькоў ужо зараз можа задаволіць гандаль?**

Мяркуючы па даных Мінгандлю, сёлета праблем з набыццём школьнай формы не будзе. Швейнымі фабрыкамі з Брэста, Баранавіч, Дзяржынска, Навагрудка ў гандлёвыя прадпрыемствы ўжо накіравана 33,5 тыс. кашуль, 6,5 тыс. касцюмаў, 9 тыс. штаноў для хлопчыкаў, 9,7 тыс. сукенак і школьных камплектаў для дзяўчынак. Не прадбачыцца і колішняга дэфіцыту — сшыткаў. З Добрушскай фабрыкай заключаны дагавор на пастаўку за сезон 40 млн. штук вучнёўскіх сшыткаў. Акрамя таго іх выпуск наладжаны Мінскай фабрыцы каляровага друку.

Аптовымі базамі і рознічнымі гандлёвымі прадпрыемствамі рыхтуюцца гандляваць таварамі школьнага асартыменту на кірмашах «Прывітанне, школа!», якія адбудуцца з 13 па 22 жніўня.

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

## ВОГНЕННУЮ СТЫХІЮ НЕ ПАЛОХАЕ І НАДВОР'Е

**Як паведамілі карэспандэнту «Звязды» ў Галоўным упраўленні ваенізаванай пажарнай службы МУС РБ, за мінулы тыдзень у Беларусі адбылося 309 пажараў, страты ад якіх склалі 1 млрд. 235 млн. рублёў.**

Трэба зазначыць, што сёлетняе лета значна халаднейшае, да таго ж апошнімі днямі ўсё намачылі прайшоўшыя дажджы. І тым не менш, страты ад агню ўсё роўна ўнушальныя. За сем дзён у абласцях краіны было знішчана або пашкоджана 146 будынкаў, 5 галоў жывёлы, 23 адзінкі тэхнікі, 129 тон кармоў. У вогненнай стыхіі загінулі шэсць чалавек. Сёлета, як і ў папярэднія гады, нягледзячы на далёка не спякотнае надвор'е, нагадалі аб сабе лясныя і тарфяныя пажары — толькі за прайшоўшы тыдзень на такія выклікі пажарныя каманды выязджалі 95 разоў.

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

## ГРЫБНОЕ «ПАЛЯВАННЕ» СКОНЧЫЛАСЯ БЯДОЙ

**Толькі цуд ды майстэрства спецыялістаў пажарнай аварыйна-выратавальнай часці г. Паставы выратавалі жыццё 13-гадовага жыхара гэтага раённага цэнтра.**

Удвух з сябрам яны пайшлі ў лес па грыбы. Па дарозе хлопцы зайшлі на пустуючыя склады паліва-змазачных матэрыялаў расфарміраванага авіяцыйнага палка. Адзін з хлопцаў палез у роў, які калісьці выконваў ролю адстойніка. Паўразбураныя канструкцыі трымаліся ненадзейна. Адной з разбураных пліт і прыціснула хлопчыка. Пад пяцітоннай арматурай апынулася ніжняя частка цела. У такім стане ў бруднай вадзе ён правёў каля дзвюх гадзін, пакуль прыбегшыя ваеннаслужачыя рабілі беспаспяховыя спробы аказаць дапамогу. Праз гэты ж час паведамленне аб здарэнні паступіла да пастаўскіх выратавальнікаў. Калі яны прыехалі на месца, спецыялістам на чале з начальнікам змены капітанам унутранай службы Мікалаем Плешкуном давялося праявіць нямала майстэрства і кемлівасці. На пошукі крана для пад'ёму пліты не было часу. Тады выратавальнікі раздрабнілі частку бетоннай канструкцыі, дыэлектрычнымі нажніцамі разрэзалі арматуру і выцягнулі хлопчыка. У бальніцы, куды тэрмінова даставілі пацярпеўшага, урачы канстатавалі пашкоджанне таза і пазваночніка.

**Сяргей КОЧАТАЎ.**

## З НАЖОМ... НА КАНТРАЛЁРА

**Зусім верагодна, што хутка кантралёрам-рэвізорам Беларускай чыгункі запатрабуецца крыху іншая экіпіроўка, напрыклад, бронекамізэлька з каскай.**

Апошнім часам пачасціліся выпадкі пагроз, спроб фізічнай расправы і нават нападаў з боку безбілетных пасажыраў. Гэтымі днямі адбыўся яшчэ адзін падобны інцыдэнт у электрапоездзе Мінск—Барысаў. Кантралёру-рэвізору Мінскага аддзялення Беларускай чыгункі Т. у час праверкі праязных дакументаў, а было гэта каля 23 гадзін вечара, адзін з пасажыраў паказаў нож і пачаў пагражаць расправай. На шчасце, побач аказаўся дзяжурны нарад міліцыі, які суправаджаў электрычку. Вяаўнічым безбілетнікам аказаўся жыхар Жлобіна П., непрацуючы.

**Таццяна СМІРНОВА, БЕЛТА.**

*ПАДРАБЯЗНАСЦІ*

## ПРАБЛЕМУ ЗАПАЗЫЧАНАСЦІ ПА ЗАРАБОТНАЙ ПЛАЦЕ НАСТАЎНІКАЎ НА НАЦЫЯНАЛЬНЫМ САВЕЦЕ ВЫРАШЫЛІ ПРАЗ ЧАРГОВАЕ ВЫДЗЯЛЕННЕ ПАПЕРАДЖАЛЬНЫХ ДАТАЦЫЙ

Праблема тэрміновай выплаты заробку настаўнікам не раз гучала ў выступленнях і Прэзідэнта, і кіраўнікоў урада, і прадстаўнікоў Федэрацыі прафсаюзаў Рэспублікі Беларусь. І вось у чарговы раз яна нядаўна была ўнесена па патрабаванню Рэспубліканскага камітэта Беларускага прафсаюза работнікаў адукацыі і навукі ў спіс пытанняў, якія абмяркоўваліся на пасяджэнні Нацыянальнага савета. Лічбы, што прагучалі тут, уражваюць: на канец ліпеня запазычанасць настаўнікам па заробку склала па рэспубліцы 98,4 мільярда рублёў, у тым ліку за ліпень — 56,134 мільярда. Па-ранейшаму «лідзіруюць» Гомельская — 21,795 мільярда (тут маецца нават запазычанасць за чэрвень у памеры 1,525 мільярда, а за ліпень — 10,251) і Магілёўская — 22,742 (чэрвень — 3,042, ліпень — 12,996 мільярда рублёў запазычанасці) вобласці. У Мінскай недадалі настаўнікам 16,634 мільярда, у Брэсцкай — 15,168. Менш за іншых завінаваціліся Гродзенская — 7,01 і Віцебская — 8,158 мільярда рублёў.

Усе вышэйпрыведзеныя лічбы — толькі прыкладны стан запазычанасці, бо сюды не ўваходзіць пэўная сума за жнівень (адпускныя грошы). Таму крывая не атрыманых настаўнікамі сродкаў, як лічыць намеснік старшыні Рэспубліканскага камітэта Беларускага прафсаюза работнікаў адукацыі і навукі Валянціна Байкова, літаральна праз некалькі дзён можа рэзка пайсці ўверх, нават нягледзячы на тое, што на пасяджэнні Нацыянальнага савета было вырашана да 10 жніўня разлічыцца з ліпеньскай запазычанасцю, а на працягу бягучага месяца — з грашамі на адпачынак. Для гэтых мэтаў было прапанавана выдзеліць пэўную суму папярэдніх папераджальных датацый. Чарговае «затыканне дзірак» дазволіць на нейкі час спыніць рост запазычанасці. А што будзе далей?

**Мікалай ЛІТВІНАЎ.**

*ХОДЗЯЦЬ ЧУТКІ, ШТО...*

## ...БАРАЦЬБЫ З НЕЛЕГАЛЬНЫМІ ГАРЭЛКАЙ І ТЫТУНЁМ НЕ АДБЫЛОСЯ

**Як стала вядома «Звяздзе», адменены загад Міністэрства гандлю, які зацвярджаў парадак продажу наяўных на 1 жніўня 1996 года рэшткаў алкагольных і тытунёвых вырабаў без спецыяльных знакаў, якія б пацвярджалі легальнасць іх вытворчасці на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь.**

Нагадаем, што, згодна з загадам, усе суб'екты гаспадарання незалежна ад формы ўласнасці, якія ажыццяўляюць ва ўстаноўленым парадку аптовую і рознічную рэалізацыю алкагольных і тытунёвых вырабаў айчыннай вытворчасці, а таксама іх захоўванне, павінны былі па стану на 1 жніўня правесці інвентарызацыю, па выніках якой атрымаць дазвол на дапродаж рэшткаў тавараў без спецыяльных знакаў да 1 студзеня 1997 года. Асноўнымі матывамі новаўвядзення была абарона айчыннага рынку. Чаму ж быў дадзены адбой? Як паведамілі з кампетэнтных крыніц, адбылося гэта з-за таго, што не ўсё было як след прадумана. У прыватнасці, да такога павароту падзей не былі гатовы найперш прадпрыемствы (арганізацыя маркіроўкі тавараў, стварэнне іх запасаў і інш.). Такім чынам, можна канстатаваць, што чарговы раунд барацьбы з «нелегаламі» зноў завяршыўся на карысць апошніх. Нягледзячы на ўсе прымаемыя меры, з красавіка мінулага года (калі былі ўведзены акцызныя маркі) колькасць тых жа цыгарэтных «карабейнікаў» не зменшылася, а, наадварот, павялічылася, і нашмат. Пачакаем, што будзе далей?

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

## У МІНСКУ, ЯК І Ў ЛОНДАНЕ, БАЯЦЦА ТЭРАРЫСТАЎ?

Гэтымі выхаднымі, вяртаючыся дамоў ад цешчы, давялося колькі часу правесці на чыгуначным вакзале сталіцы: набыць сёе-тое, вырашыць дробныя праблемы. Ідучы на тралейбусны прыпынак па вуліцы Кірава, узялі з жонкай марожанае. З'елі і пачалі азірацца — куды кінуць упакоўку ад яго. Прайшлі ўсю Прывакзальную плошчу, але так і не сустрэлі ніводнага бака для смецця. Бліскучыя паперкі пад жончына «Ці шмат знойдзецца людзей, якія пакладуць смецце ва ўласную сумку» давялося кінуць у пакет і выкінуць ужо дома. Гэты эпізод, магчыма, і забыўся б, калі б у панядзелак не давялося па шляху на работу зноў трапіць на чыгуначны вакзал. Дакурыўшы цыгарэту перад уваходам у метро, азірнуўся ў пошуках бака для смецця, што раней стаялі тут, і ...кінуў недакурак сабе пад ногі. Тое ж самае, дарэчы, рабілі побач і астатнія людзі, якія ішлі па плошчы або спускаліся ў метро.

Чамусьці прыгадаўся Лондан, які давялося наведаць колькі часу таму, і асабліва адзін эпізод. Неяк, пакурыўшы ў цэнтры горада на Тэмзе, адчуў нязручнасць ад таго, што не мог знайсці месца, куды звычайна курцы адпраўляюць рэшткі свайго «паліва». Кідаць недакурак пад ногі ў цэнтры сусветна вядомай сталіцы падалося ледзь не дзікунствам, таму ўпотай я схаваў яго ў карабок ад запалак. І толькі калі сітуацыя паўтарылася некалькі разоў запар, да таго ж я ўбачыў, як дзелавыя англійскія лэдзі кідаюць аналагічнае смецце прама сабе пад ногі, не спыняючы хады, ціхенька пацікавіўся ў перакладчыцы, у чым тут справа.

Высветлілася, што ў Лондане спецыяльна ўбраны ледзь не ўсе бакі для смецця, таму што яны карыстаюцца папулярнасцю ў ірландскіх тэрарыстаў, якія любяць класці ў іх свае бомбы. Пасля некалькіх выбухаў, калі загінулі людзі, было прынята рашэнне бакі паўбіраць. Зрэшты, гэта не азначае, што Лондан завалілі смеццем: бытавыя адходы складваюць у вялікія чорныя пакеты на тратуары і іх вечарам забіраюць машыны, невялічкія ж машыны — «пыласосы» чысцяць вуліцы ўвесь час, снуючы сярод патоку машын.

Да чаго я ўсё гэта? Можна, вядома, параіць усім курцам хаваць уласныя недакуркі ў кішэню, але куды падзеліся бакі для смецця ў беларускай сталіцы? Ці ўлады настолькі літаральна ўспрынялі барацьбу за чысціню? А мо выбухі ў Маскве прымусілі пайсці на гэтую меру? Думаецца, усё больш проста, і справа тут у звычайнай нядбайнасці камунальных службаў. Калі так, то выбух будзе — у выглядзе засмечанага вакзала, які заўсёды лічыўся тварам любога горада.

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

## КОЛЬКІ Б ВЯРОВАЧЦЫ НІ ВІЦЦА...

**Карэспандэнту БЕЛТА сталі вядомы новыя падрабязнасці разбойнага нападу на жыхароў Жытомірскай вобласці каля вёскі Сітня Калінкавіцкага раёна.**

Як паведамлялася ўжо, 30 ліпеня невядомыя спынілі «КамАЗ», што накіроўваўся з Кіева ў Санкт-Пецярбург, і, прымяніўшы фізічнае насілле, завалодалі аўтамашынай і грузам. Адзін з вадзіцеляў загінуў, а другі з цяжкімі нажавымі раненнямі знаходзіцца ў Калінкавіцкай раённай бальніцы.

У выніку аператыўных мераў, прынятых работнікамі праваахоўных органаў, спачатку ў раёне Мазыра быў знойдзены ўгнаны аўтамабіль, а цяпер і груз, які знаходзіўся ў ім, — 25 тон мукі. З'явілася ўпэўненасць, што ў бліжэйшы час аператыўнікі змогуць выйсці на след саміх злачынцаў.

**Віктар КОТАЎ, БЕЛТА.**

## ЦІ НАСТАНЕ Ў ГЭТЫМ ГОДЗЕ Ў ТАМАТАЎ «СЕЗОН»?

**Рознічныя цэны на харчовыя тавары на Камароўскім рынку на 04.07.96 г.**

| | |
|---|---|
| **Мяса (кг):** | |
| свініна | 33—60 |
| ялавічына | 30—55 |
| бараніна | 30—60 |
| цяляціна | 30—65 |
| куры | 29—30. |
| Сала свежае | 24—33 |
| Сала салёнае | 25—45 |
| **Малочныя прадукты:** | |
| малако (л) | 6—8 |
| тварог (кг) | 18—30 |
| смятана | 24—28 |
| масла | 40—45. |
| Яйкі птушкафабрыкі | 10,5—11 |
| Яйкі хатнія | 16—18 |
| Алей | 13—15 |
| Цукар | 8,4—9,5 |
| Мёд | 70—80 |
| **Агародніна (кг):** | |
| капуста свежая | 6—7 |
| морква | 6—9 |
| агуркі свежыя | 5—7 |
| таматы | 16—20 |
| перац салодкі | 15—45 |
| радыска | 10—12 |
| баклажаны | 20—30 |
| часнок свежы | 20—40 |
| цыбуля рэпчатая | 6—9. |
| **Садавіна (кг):** | |
| чарніцы | 9—11 |
| чырвоныя парэчкі | 6—8 |
| чорныя парэчкі | 13—15 |
| вішні | 15 |
| слівы | 10—12 |
| маліна | 11—12 |
| абрыкосы | 15—18 |
| персікі | 17—40 |
| вінаград | 40—70 |
| кавуны | 7—8 |
| дыні | 25—30 |
| апельсіны | 12—16 |
| лімоны | 27—30 |
| бананы | 12—13. |
| **Кветкі (шт.):** | |
| ружы | 3—30 |
| гваздзікі | 4—8. |

Самая прыемная навіна харчовага рынку сталіцы: на апошнім тыдні нарэшце застылі цэны на мясную прадукцыю. Затое прадаўжаюць паціху паўзці ўверх цэны на смятану (на 2 тыс. рублёў), яйкі птушкафабрыкі (на 1,5—2 тыс. рублёў), цукар (на 1 тыс. рублёў). Патаннелі за гэты час парэчкі (на 4 тыс. руб.) і маліна (на 3 тыс. руб). Затое чарніцы пачалі даражэць. А пакупнікоў відавочна цікавіць той факт, што цэны на таматы ў самы сезон не толькі не збіраюцца здаваць свае пазіцыі, але нават маюць тэндэнцыю да росту (павышэнне кошту ў сярэднім на 3 тыс. рублёў).

**Надзея НІКАЛАЕВА.**

*ПАМЯЦЬ*

## АДГУКНІЦЕСЯ ЎСЕ, КАМУ ДАРАГА ДУХОЎНАЕ АДРАДЖЭННЕ!

У кожнага з нас недзе пахаваны нашы продкі, самыя родныя і блізкія нам людзі. На могілках вёскі Кунаса Нясвіжскага раёна таксама спачываюць вечным сном бацькі, дзеці, сваякі, сябры, знаёмыя многіх.

Дзеля іх светлай і незабыўнай памяці мы звяртаемся да вас, людзі добрыя, з просьбай прыняць удзел у аднаўленні тут царквы, якая адчыніць свае дзверы ўжо ў сёлетнім годзе. Гэта будзе цудоўны духоўны цэнтр.

Выказваем надзею, што ўсе, каму дарагі духоўнае адраджэнне, святасць душы, адгукнуцца на наш заклік. Гэта патрэбна не толькі мёртвым, але і жывым.

Свае ахвяраванні вы можаце ўнесці ў любым аддзяленні «Ашчадбанка» на рахунак Свята-Благавешчанскай царквы в. Кунаса № 3015201930013 у АПБ г. Нясвіжа.

Ніколі не збяднее рука таго, хто ахвяруе на святую і высакародную справу.

**Мікалай НАСЯКАЙЛА, старшыня прыходскага савета Свята-Благавешчанскай царквы; Алена БАГДАНОВІЧ, Мікалай ДАШКО, члены гэтага савета.**

## ПЕЛЕНГ-НАВІНЫ

**РАСІЙСКІ БОК ГАТОВЫ СПЫНІЦЬ АГОНЬ**

Прэзідэнт Чачэнскай Рэспублікі Ічкерыя Яндарбіеў абвінаваціў расійскае кіраўніцтва ў цынізме, зазначыўшы, што Крэмль прапануе аднавіць мірныя перамовы, адначасова пашыраючы маштаб ваенных дзеянняў. У інтэрв'ю агенцтву Інтэрфакс Яндарбіеў сказаў, што кіраўніцтва Ічкерыі пакідае за сабой права на ўсе неабходныя меры па абароне цывільнага насельніцтва. Па яго словах, за апошнія суткі на поўдні Чачні былі забіты сем мірных жыхароў і больш як дзесяць атрымалі раненні. Тым часам расійскі бок аб'явіў аб гатоўнасці спыніць агонь на тэрыторыі Чачэнскай Рэспублікі яшчэ да сустрэчы з лідэрамі апалчэнцаў.

**У ВАГОНЕ МЕТРО ЗНОЙДЗЕНА ГРАНАТА**

У нядзелю вечарам на станцыі ВДНГ маскоўскага метро пад сядзеннем у адным з вагонаў была знойдзена граната. Сапёры, якіх выклікалі на месца здарэння, абясшкодзілі яе. Ніякіх падрабязнасцей гэтай справы не паведамлялася.

**БАЕВІКІ «ХЭЗБАЛАХ» ЧАКАЦЬ ВЫВАДУ ІЗРАІЛЬСКІХ ВОЙСКАЎ НЕ МАЮЦЬ НАМЕРУ**

Два ізраільскія вайскоўцы атрымалі ўчора раненні на поўдні Лівана, калі раніцай баевікі групоўкі «Хэзбалах» абстралялі адзін з кантрольна-прапускных пунктаў. Абстрэл з кулямётаў і мінамётаў працягваўся каля 15 хвілін. Ізраільскія вайскоўцы вялі агонь у адказ. Пра страты баевікоў інфармацыя не паступала.

**ЭКС-ПРЭЗІДЭНТАЎ ЧАКАЕ САМАЕ ЖОРСТКАЕ ПАКАРАННЕ**

Абвінаваўцы на судовым працэсе ў Паўднёвай Карэі запатрабавалі смяротнага пакарання для былога прэзідэнта краіны Чон Ду Хвана, якога абвінавачваюць у здрадзе і карупцыі. Чон Ду Хвана прызналі арганізатарам узброенага перавароту ў 1979 годзе і вінаватым у забойстве 200 дэманстрантаў, а таксама ў гвалтоўным удушэнні дэмакратычнага руху ў краіне. Абвінаваўцы таксама запатрабавалі пажыццёвага зняволення для пераемніка Чон Ду Хвана — былога прэзідэнта Ро Дэ У, які быў прызнаны ключавой фігурай у здзяйсненні перавароту і атрыманні мільённых хабараў падчас свайго прэзідэнцтва. Абодва абвінавачаныя не прызнаюць сваёй віны. Суд вынесе канчатковы прысуд праз два тыдні.

**У ШРЫ-ЛАНЦЫ ЗНОЎ ЛЬЕЦЦА КРОЎ**

У Шры-Ланцы ўрадавыя войскі актывізавалі сваю дзейнасць і намагаюцца адбіць у паўстанцаў адзін з гарадоў на поўначы краіны. Афіцыйны бок паведамляе, што страты баевікоў склалі каля 200 чалавек, страты ўрадавых вайскоўцаў — 14 чалавек. Паводле інфармацыі «тамільскіх тыграў», на іх рахунку больш за 100 забітых урадавых вайскоўцаў. Аб'ектыўнай інфармацыі пакуль няма.

**НЕТАНІЯГУ ВЯДЗЕ ПЕРАМОВЫ З ХУСЕЙНАМ**

Прэм'ер-міністр Ізраіля Нетаніягу знаходзіцца ў Іарданіі з афіцыйным візітам, дзе праводзіць перамовы з каралём Хусейнам. Асноўная мэта візіту — аднаўленне мірнага працэсу на Блізкім Усходзе. У гэтай сітуацыі кароль Іарданіі выступае пасрэднікам у мірным працэсе. Карэспандэнт Бі-бі-сі паведамляе, што Хусейну трэба знайсці далікатны спосаб кантактаў з Ізраілем, бо Іарданія знаходзіцца ў вельмі рызыкоўным становішчы і можа апынуцца ізаляванай у арабскім свеце ў выпадку ўстанаўлення шчыльных кантактаў з Ізраілем. Тым часам усе арабскія дзяржавы, асабліва Сірыя, расцэньваюць урад Нетаніягу як пагрозу мірнаму працэсу на Блізкім Усходзе.

**Радыё «Свабода», «Голас Амерыкі», Радыё 101,2 і «Радыё-РОКС» слухаў Сяргей ПРОТАС.**

## ІНФАРМ-КАКТЭЙЛЬ

Як вы думаеце, колькі разоў чалавек можа ажаніцца на працягу свайго жыцця? Адказ на гэта пытанне дае егіпцянін Халед Ашта. За свае 28 гадоў ён паспеў ажаніцца ні больш, ні менш — 60 разоў! Упершыню ён закахаўся, калі яму было 17 гадоў, але жонка і сын загінулі. З таго часу яго жонкамі (улічваючы першую) былі 17 суайчынніц і 43 іншаземкі 28 нацыянальнасцей. Пры ўсім тым найменшы час яго шлюбу складае 48 гадзін, а самы доўгі — 3 гады. Цікава, што кожная новая жонка ведала аб сваіх папярэдніцах і, тым не менш, усё роўна ішла пад вянец. Халед жа ў сваю чаргу, нягледзячы на тое, што страціў на шлюбах і разводах каля 300 тысяч долараў, збіраецца ажаніцца ў 61-ы раз.

**Егіпецкі часопіс «Шабаб».**

Мытнікі Германіі затрымалі злачынца, у якога канфіскавалі больш за 200 грэчаскіх і каля 100 сербскіх чарапах. Справа ў тым, што ў Сербіі адна чарапаха каштуе 1,5 маркі, а ў Германіі — ад 60 да 500 марак. Больш рэдкія віды наогул каштуюць звыш тысячы. Кантрабандыст ужо паспеў зарабіць на сваім «тавары» 500 тысяч марак. Яго абвінавацілі ў парушэнні закона аб знешнім гандлі і закона аб ахове жывёл, занесеных у «Чырвоную кнігу». Цяпер няўдаламу прадпрымальніку «свеціць» як мінімум два гады турмы.

**«Известия».**

Адным з падазраваемых у арганізацыі выбуху ў парку Стагоддзя Алімпіяд з'яўляецца супрацоўнік службы бяспекі па прозвішчу Джуэл. Гэта ён знайшоў сумку з выбуховым устройствам. Джуэл, дарэчы, раней быў памочнікам шэрыфа і ўмее працаваць з такімі рэчамі, да таго ж ён быў звольнены з папярэдняй работы за празмерную жорсткасць. Падазрэнне пакуль не пацвярджаецца, але і не абвяргаецца, аднак некаторыя сведкі гавораць, што бачылі супрацоўніка з гэтай сумкай, а дома ў яго знайшлі скрынку з цвікамі, падобнымі на тыя, што былі выкарыстаны пры выбуху.

**«Известия».**

## УХВАЛЕННЕ ХЛЕБА

З трэцяга жніўня ў Гданьску пачаўся І фестываль Хлеба. Гэтае надзвычай цёплае і шчырае відовішча распачалося адкрыццём этнаграфічнай выстаўкі «Хлеб наш...» А затым на вуліцах, у крамах, у тэатрах і кінатэатрах сапраўдным гаспадаром стаў Пан Хлеб. У гонар яго спявалі песні, яго славілі вершамі, пра яго паказвалі кінафільмы. І, вядома ж, кожны мог пачаставацца самымі смачнымі, самай неверагоднай колькасці і канфігурацыі, вырабамі з мукі. Само сабой зразумела, што ўслаўлялі тут і яго вялікасць Хлебароба.

Фестываль будзе доўжыцца да 10 жніўня. За гэты час людзі шмат даведаюцца і пра гісторыю хлебаробства ў Гданьскім ваяводстве, і пра саму гісторыю Гданьска, якому ў будучым годзе споўніцца тысяча гадоў.

### СЁННЯ

**СОНЦА**

| | Усход | Захад | Даўжыня дня |
|---|---|---|---|
| Мінск – | 5.30 | 21.00 | 15.30 |
| Віцебск – | 5.15 | 20.55 | 15.40 |
| Магілёў – | 5.19 | 20.49 | 15.30 |
| Гомель – | 5.24 | 20.38 | 15.14 |
| Гродна – | 5.48 | 21.12 | 15.24 |
| Брэст – | 5.53 | 21.08 | 15.15 |

**МЕСЯЦ**

Апошняя квадра, 6 жніўня.

**ІМЯНІНЫ**

Пр. Хрысціны, Барыса, Глеба, Георгія

К. Перамяненне Гасподняе, Славы

**НАДВОР'Е**

Сёння ўдзень па рэспубліцы захаваецца воблачнае з праясненнямі надвор'е, па поўдню дажджы, месцамі навальніцы. Тэмпература паветра ў Гомелі — 17—19, Мінску, Брэсце — 18—20, Магілёве — 19—21, Гродне, Віцебску — 20—22 градусы.

У наступныя двое сутак чакаецца пераменная воблачнасць, пераважна без ападкаў, толькі 7 жніўня па паўднёваму ўсходу рэспублікі пройдуць дажджы, месцамі навальніцы. Тэмпература ўначы — 7—12, удзень — 18—23 градусы цяпла.

*XXVI ЛЕТНІЯ АЛІМПІЙСКІЯ ГУЛЬНІ*




# АЛІМПІЙСКІ АГОНЬ ПАГАШАНЫ: КАГОСЬЦІ ЁН АШЧАСЛІВІЎ СВАІМ ГАРЭННЕМ, А КАГОСЬЦІ НАВЁЎ НА СУМНЫЯ РАЗВАЖАННІ

**Неяк вельмі ж ужо хутка прамільгнулі два алімпійскія тыдні і настаў час развітання з XXVI летнімі Гульнямі ў Атланце, якія пазаўчора ўжо сталі набыткам гісторыі, як, дарэчы, і ўсе іх вынікі. Безумоўна, асобным радком у алімпійскую кнігу будуць упісаны імёны чэмпіёнаў і прызёраў турніру. На жаль, для беларускай каманды спіс залатых лаўрэатаў аказаўся надта кароткім. Ён абмежаваўся толькі дасягненнем вясляркі-адзіночкі Кацярыны Хадатовіч. Можна, вядома, ганарыцца агульнай колькасцю завяваных узнагарод — 15 медалёў. Мы сярод першых дваццаці краін свету. Аднак, палажыўшы руку на сэрца, трэба ўсё ж прызнаць, што агульнае ўражанне ад выступленняў нашых спартсменаў засталося нейкім змазаным. Мякка кажучы, чакалі большага, і для гэтага былі ўсе падставы: у саставе каманды за акіян адправіліся 11 чэмпіёнаў, 6 прызёраў і 15 удзельнікаў папярэдніх Алімпіяд. А калі ўлічыць, што многія з іх былі чэмпіёнамі па некалькі разоў, то балельшчыкі з поўным правам маглі спадзявацца ну хоць бы на 5-6 залатых узнагарод. Да таго ж у шэрагах зборнай змагаліся два дзесяткі «чыстых» чэмпіёнаў свету!**

**Відавочна, што адно «золата» на такую колькасць «зорак» — гэта амаль нішто. Нават калі параўнаць нашы поспехі з суседняй Украінай, у якой 9 залатых, Казахстанам (3) і з КНДР, спартыўная дэлегацыя якой складалася з 6 чалавек, але былі заваяваны 2 залатыя ўзнагароды, то крыўдна. Суадносіны, як бачна, 1:3, а ў нас 1:158.**

**Спадзяёмся, што выступленні нашых спартсменаў у Атланце ў бліжэйшых нумарах газеты будуць пракаменціраваны спецыялістамі.**

**А пакуль мы прапануем чытачам імёны чэмпіёнаў і прызёраў за тры апошнія дні Алімпіяды.**

**2 жніўня**
**(разыграны 21 камплект медалёў)**

**● ГІМНАСТЫКА МАСТАЦКАЯ**
1. Іспанія
2. Балгарыя
3. Расія.
*6. Беларусь*

**● ВЕТРАЗЕВЫ СПОРТ**
**Клас «Солінг»**
1. Германія
2. Расія
3. ЗША

**● СТРАЛЬБА З ЛУКА**
**Каманднае спаборніцтва. Жанчыны.**
1. Паўднёвая Карэя
2. Германія
3. Польшча

**Каманднае спаборніцтва. Мужчыны.**
1. ЗША
2. Паўднёвая Карэя
3. Італія

**● ТЭНІС**
**Адзіночны разрад. Жанчыны.**
1. Ліндсей Дэвенпорт (ЗША)
2. Аранта Санчэс Вікарыя (Іспанія)
3. Яна Навотна (Чэхія)

**Парны разрад. Мужчыны.**
1. Тод Вудбрыдж і Марк Вудфорд (Аўстралія)
2. Ніл Брод і Цім Хэнмен (Вялікабрытанія)
3. Марк-Кевін Гельнер і Давід Прынасіл (Германія)

**● ВОЛЬНАЯ БАРАЦЬБА**
**Вагавая катэгорыя да 52 кг.**
1. Валянцін Йарданаў (Балгарыя)
2. Намік Абдулаеў (Азербайджан)
3. Маўлен Мамыраў (Казахстан)

**Вагавая катэгорыя да 62 кг.**
1. Том Брэндз (ЗША)
2. Ян Йе-Сунг (Паўднёвая Карэя)
3. Эльбрус Тэдэеў (Украіна)
*5. Сяргей Смаль (Беларусь)*

**Вагавая катэгорыя да 74 кг.**
1. Бувайса Сайціеў (Расія)
2. Пак Янг-Сун (Паўднёвая Карэя)
3. Такуя Ота (Японія)

**Вагавая катэгорыя да 90 кг.**
1. Расул Хадэм (Іран)
2. Махарбек Хадарцоў (Расія)
3. Эльдары Куртанідзе (Грузія)

**Вагавая катэгорыя да 130 кг.**
1. Махмуд Дэмір (Турцыя)
*2. Аляксей Мядзведзеў (Беларусь)*
3. Брус Баўмгартнер (ЗША)

**● СІНХРОННАЕ ПЛАВАННЕ**
**Камандныя спаборніцтвы**
1. ЗША
2. Канада
3. Японія

**● ЛЁГКАЯ АТЛЕТЫКА**
**Ядро. Жанчыны.**
1. Астрыд Кумбернус (Германія)
2. Суй Сіньмэй (Кітай)
3. Ірына Хударожкіна (Расія)

**Скачкі ў даўжыню. Жанчыны.**
1. Чыома Аджунва (Нігерыя)
2. Фіёна Мэй (Італія)
3. Джэкі Джойнер-Керсі (ЗША)

**Бег. 10.000 м. Жанчыны.**
1. Фернанда Рыбейру (Партугалія)
2. Ван Цзюнься (Кітай)
3. Гетэ Вамі (Эфіопія)

**Хадзьба (50 км). Мужчыны.**
1. Роберт Кажанеўскі (Польшча)
2. Міхаіл Шчэннікаў (Расія)
3. Валянцін Масана (Іспанія)

**Бег (3000 м з перашкодамі). Мужчыны.**
1. Джозэф Кетэр (Кенія)
2. Мозэс Кіптануі (Кенія)
3. Алесандра Ламбрускіні (Італія)

**Скачкі з шастом. Мужчыны.**
1. Жан Галфьён (Францыя)
2. Ігар Трандзянкоў (Расія)
3. Андрэй Цівончык (Германія)
*6. Дзмітрый Маркаў (Беларусь)*

**● БЕЙСБОЛ**
1. Куба
2. Японія
3. ЗША

**● ХАКЕЙ НА ТРАВЕ**
**Мужчыны.**
1. Нідэрланды
2. Іспанія
3. Аўстралія

**● СКАЧКІ Ў ВАДУ**
**Вышка. Мужчыны.**
1. Дзмітрый Сауцін (Расія)
2. Ян Хэмпель (Германія)
3. Сяо Хайлян (Кітай)

**3 жніўня**
**(разыграна 30 комплектаў узнагарод)**

**● ВЕСЛАВАННЕ НА БАЙДАРКАХ І КАНОЭ**
**Байдарка-чацвёрка (500 м). Жанчыны.**
1. Германія
2. Швейцарыя
3. Швецыя

**Байдарка-адзіночка (1000 м). Мужчыны.**
1. Кнут Холман (Нарвегія)
2. Беніяміна Баномі (Італія)
3. Клінт Рабінсон (Аўстралія)

**Байдарка-двойка (1000 м). Мужчыны.**
1. Антонія Россі і Даніэль Скарпа (Італія)
2. Ай Блюм і Торстэн Гутшэ (Германія)
3. Андрыян Душаў і Мілка Касанаў (Балгарыя)

**Байдарка-чацвёрка (1000 м). Мужчыны.**
1. Германія
2. Венгрыя
3. Расія

**Каноэ-адзіночка (1000 м). Мужчыны.**
1. Марцін Доктар (Чэхія)
2. Іван Кляменцьеў (Латвія)
3. Дзьёрдзь Зала (Венгрыя)

**Каноэ-двойка (1000 м). Мужчыны.**
1. Андрэас Дзітмер і Гунар Кірхбах (Германія)
2. Марсель Главан і Антонел Борсан (Румынія)
3. Дзьёрдзь Калоніч і Чаба Хорват (Венгрыя)

**● КОННЫ СПОРТ**
**Выездка. Асабістыя спаборніцтвы.**
1. Ісабель Верт (Германія)
2. Анкі ван Грюнсвен (Нідэрланды)
3. Свен Ротэнбергер (Нідэрланды)

**● ВЕЛАСПОРТ**
**Шаша. Індывідуальная гонка з раздзельным стартам. Мужчыны.**
1. Мігель Індурайн (Іспанія)
2. Абраам Алана (Іспанія)
3. Крыс Бордмен (Вялікабрытанія)

**Шаша. Індывідуальная гонка з раздзельным стартам. Жанчыны.**
1. Зульфія Забірава (Расія)
2. Жанні Лонга (Францыя)
3. Клара Х'юз (Канада)

**● ФУТБОЛ**
**Мужчыны.**
1. Нігерыя
2. Аргенціна
3. Бразілія

**● ЛЁГКАЯ АТЛЕТЫКА**
**Эстафета (4 х 100 м). Жанчыны.**
1. ЗША
2. Багамскія астравы
3. Ямайка

**Бег 1500 м. Жанчыны.**
1. Святлана Масцяркова (Расія)
2. Габрыэла Саба (Румынія)
3. Тэрэзія Кісль (Аўстрыя)

**Скачкі ў вышыню. Жанчыны.**
1. Стэфка Кастадзінава (Балгарыя)
2. Нікі Бакаяні (Грэцыя)
3. Інга Бабакова (Украіна)

**Эстафета (4 х 400 м). Жанчыны.**
1. ЗША
2. Нігерыя
3. Германія

**Эстафета (4 х 100 м). Мужчыны.**
1. Канада
2. ЗША
3. Бразілія

**Бег на 1500 м. Мужчыны.**
1. Нурэддзін Марсэлі (Алжыр)
2. Фермін Кача (Іспанія)
3. Стэфэн Кіпкорыр (Кенія)

**Бег на 5000 м. Мужчыны.**
1. Венустэ Ніонгаба (Бурундзі)
2. Пол Бітак (Кенія)
3. Халід Буламі (Марока)

**Эстафета (4 х 400 м). Мужчыны.**
1. ЗША
2. Вялікабрытанія
3. Ямайка

**Кап'ё. Мужчыны.**
1. Ян Жалезны (Чэхія)
2. Сціў Баклі (Вялікабрытанія)
3. Сэпа Рэці (Фінляндыя)

**● БАСКЕТБОЛ.**
**Мужчыны.**
1. ЗША
2. Югаславія
3. Літва

**● БОКС**
**Вагавая катэгорыя да 48 кг.**
1. Даніэль Петраў (Балгарыя)
2. Мансуэта Веласка (Філіпіны)
3. Алег Кірухін (Украіна) і Рафаэль Ласана (Іспанія)

**Вагавая катэгорыя да 54 кг.**
1. Іштван Ковач (Венгрыя)
2. Арнальда Меса (Куба)
3. Раімкуль Малахбекаў (Расія) і Вічайрачанан Кхадра (Тайланд)

**Вагавая катэгорыя да 60 кг.**
1. Хасін Салтані (Алжыр)
2. Тонча Тончаў (Балгарыя)
3. Тэрэс Коцін (ЗША) і Леанард Дарафтэй (Румынія)

**Вагавая катэгорыя да 67 кг.**
1. Алег Саітаў (Расія)
2. Хуан Эрнандэс (Куба)
3. Марыян Сіміон (Румынія) і Даніэль Сантас (Пуэрта-Рыка)

**Вагавая катэгорыя да 75 кг.**
1. Арыэль Эрнандэс (Куба)
2. Малік Бейлероглу (Турцыя)
3. Махамед Бахары (Алжыр) і Рашыі Уэлз (ЗША)

**Вагавая катэгорыя да 91 кг.**
1. Фелікс Савон (Куба)
2. Дэвід Дэфіягбон (Канада)
3. Луан Краснікі (Германія) і Тэйт Джонс (ЗША)

**● ВАЛЕЙБОЛ**
**Жанчыны.**
1. Куба
2. Кітай
3. Бразілія

**● ГАНДБОЛ**
**Жанчыны.**
1. Данія
2. Паўднёвая Карэя
3. Венгрыя

**● ТЭНІС**
**Парны разрад. Жанчыны.**
1. Джыджы Фернандэс і Мары-Джо Фернандэс (ЗША)
2. Яна Навотна і Хелена Сукава (Чэхія)
3. Канчыта Марцінес і Аранта Санчэс-Вікарыа (Іспанія)

**Адзіночны разрад. Мужчыны.**
1. Андрэ Агасі (ЗША)
2. Серхі Бругера (Іспанія)
3. Леандэр Паэс (Індыя)

**4 жніўня.**
**Заключны дзень Алімпіяды**
**(разыграна 18 камплектаў узнагарод)**

**● ВЕСЛАВАННЕ НА БАЙДАРКАХ І КАНОЭ**
**Байдарка-адзіночка (500 м). Жанчыны.**
1. Рыта Кобан (Венгрыя)
2. Кэралайн Брунэ (Канада)
3. Джазэфа Ідэм (Італія)

**Байдарка-двойка (500 м). Жанчыны.**
1. Агнета Андэрсан і Сусанэ Гунарсан (Швецыя)
2. Рамона Партвіх і Біргіт Фішэр (Германія)
3. Катрын Борчэрт і Анна Вуд (Аўстралія)

**Байдарка-адзіночка (500 м). Мужчыны.**
1. Антонія Росі (Італія)
2. Кнут Холман (Нарвегія)
3. Пётр Маркевіч (Польшча)

**Байдарка-двойка (500 м). Мужчыны.**
1. Ай Блюм і Торстэн Гутшэ (Германія)
2. Беніяміна Баномі і Даніэле Скарпа (Італія)
3. Дані Колінз і Эндру Трым (Аўстралія)
*9. Дзмітрый Даўгалёнак і Аляксандр Масяйкоў (Беларусь)*

**Каноэ-адзіночка (500 м). Мужчыны.**
1. Марцін Доктар (Чэхія)
2. Славамір Кназавіцкі (Славакія)
3. Імрэ Пулай (Венгрыя)

**Каноэ-двойка (500 м). Мужчыны.**
1. Чаба Хорват і Дзьёрдзь Калоніч (Венгрыя)
2. Мікалай Жураўскі і Віктар Рэнэйскі (Малдова)
3. Георге Андрыеў і Грыгорэ Абрэжа (Румынія)

**● ЛЁГКАЯ АТЛЕТЫКА**
**Марафон. Мужчыны.**
1. Джозіо Тугване (ПАР)
2. Лі Бун-Джу (Паўднёвая Карэя)
3. Эрык Вайнайна (Кенія)

**● ГАНДБОЛ. Мужчыны.**
1. Харватыя
2. Швецыя
3. Іспанія

**● ГІМНАСТЫКА МАСТАЦКАЯ**
**Асабістыя спаборніцтвы**
1. Кацярына Серабранская (Украіна)
2. Яна Батыршына (Расія)
3. Алена Вітрычэнка (Украіна)
*7. Ларыса Лук'яненка (Беларусь)*
*8. Таццяна Агрызка (Беларусь)*

**● КОННЫ СПОРТ**
**Канкур. Асабістыя спаборніцтвы.**
1. Ульрых Кірххоф (Германія)
2. Вілі Мелінгер (Швейцарыя)
3. Аляксандра Ледэрман (Францыя)

**● БОКС**
**Вагавая катэгорыя да 51 кг.**
1. Майкра Рамера (Куба)
2. Булат Джумадзілаў (Казахстан)
3. Альберт Пакееў (Расія) і Золтан Лунка (Германія)

**Вагавая катэгорыя да 57 кг.**
1. Самдук Камсінг (Тайланд)
2. Серафім Тодараў (Балгарыя)
3. Пабла Чакон (Аргенціна) і Флойд Мэйўэтэр (ЗША)

**Вагавая катэгорыя да 63,5 кг.**
1. Гектар Вінэнт (Куба)
2. Актай Уркал (Германія)
3. Булат Ніязымбетаў (Казахстан) і Фахці Місаўі (Туніс)

**Вагавая катэгорыя да 71 кг.**
1. Дэйвід Рыд (ЗША)
2. Альфрэда Дуверхель (Куба)
3. Карым Тулаганаў (Узбекістан) і Эзмухан Ібраімаў (Казахстан)

**Вагавая катэгорыя да 81 кг.**
1. Васіль Жыраў (Казахстан)
2. Лі Сеунг-Бэ (Паўднёвая Карэя)
3. Томас Ульрых (Германія) і Антоніо Тарвер (ЗША)

**Вагавая катэгорыя звыш 91 кг.**
1. Уладзімір Клічко (Украіна)
2. Паза Вольфграм (Тонга)
3. Аляксей Лезін (Расія) і Дункан Даківары (Нігерыя)

**● ВАЛЕЙБОЛ. Мужчыны.**
1. Нідэрланды
2. Італія
3. Югаславія

**● БАСКЕТБОЛ**
**Жанчыны.**
1. ЗША
2. Бразілія
3. Аўстралія

XXVII летнія Алімпійскія гульні пройдуць у 2000 годзе ў аўстралійскім горадзе Сіднеі.

**Уладзімір ЗДАНОВІЧ.**

# КІРМАШ

**ШТОТЫДНЁВЫ РЭКЛАМНЫ ВЫПУСК**

**№ 29 (48)**












## РОЗНАЕ

- электрычны ацяпляльна-воданагравальны аўтаматычны комплекс для ацяплення і гарачага водазабеспячэння жылых памяшканняў. Магчымы варыянты выканання (душ Шарко і г. д.). Выканаем і ўстановім у любым пункце Беларусі. *Тэл. у Мінску 290-91-84.*
- мяняю альбо прадам у г. Кіраўску Магілёўскай вобл. дом з участкам (маецца тэлефон, падвал) у кватэру (дом) Гродне. Тэл. (8-02237) 22-3-87.
- шукаю фірму альбо прыватную асобу, якія купяць корань жэньшэню. *231813, Гродзенская вобл. Слонімскі раён, в. Ашнаровічы. Жукоўскаму. Тэл. (8-262) 73-2-06.*
- аўдытарскія паслугі. *Тэл. у Мінску 227-94-46.*
- мяняю аднапакаёвую кватэру у пасёлку Сосны пад Мінскам, (агульная плошча 36 кв.м) на аднапакаёвую ў любым раёне г. Мінска (акрамя Заводскага) з даплатай. *Тэл. у Мінску 248-44-30.*
- мужчына, 29 гадоў, з дакументамі п/п, замеж. пашпартам і легкавым аўтамабілем шукае работу. *Тэл. у Мінску 246-10-34.*
- прапаную работу па месцы пражывання ў вольны час. Канверт са з/а. *222160, г. Жодзіна, а/с 181.*
- куплю дзверы да халадзільніка «Мінск-5» у добрым стане. *Тэл. (8-276) 42-3-78.*
- мяняю 3-пакаёвую кватэру у г. Дуброўна на 1-пакаёвую у Оршы, Віцебску, Магілёве або прадам. *Тэл. у Дуброўне 22-4-80.*

## ПРАДАЕЦЦА

- дача ў Дзяржынскім раёне, маецца электрычнасць, вада ў Дзяржынскім раёне, станцыя электрычкі Мезінаўка. *Тэл. (8-216)4-62-57*
- антыкварная ваза з керамікі (XIX стагоддзе). *Звяртацца:231775, Гродзенская вобл., Бераставіцкі раён, в. Ятаўты тэл. 31-6-53.*
- колы ў зборы, (4 шт.) да матацыкла «Урал», новыя, вілка пярэдняя. *Тэл. у Мінску 248-39-35.*
- бухта латуніраванага дроту (0,6 т) дыям. 1,7 мм. *Тэл. у Жлобіне 2-70-42.*
- дача у курортнай зоне санаторыя «Лясное» на беразе возера. *Тэл. (8-02157) 27-9-51.*
- новы дом у Івянцы (60 км ад Мінска) з мансардай (без унутраных работ), побач лес, рака, участак 8 сотак. *Тэл. (8-293) 34-4-52 вечарам.*
- бульдозер ДТ-75 89 г. в. у добрым стане. *Тэл. у Мінску 235-45-03.*
- дзве дойныя маладыя казы, узрост 1,5 года, нядорага. *Звяртацца: Мінская вобл., Смалявіцкі раён, п.Жажэлка, вул. Савецкая, 12.*
- драўляны дом у добрым стане ў Мядзельскім раёне (в. Ельніца), маецца склеп, студня, участак 15 сотак, побач лес. *Тэл. (8-297) 58-3-91, 58-6-54.*
- двухпакаёвая кватэра ў цэнтры г. Ружаны Брэсцкай вобласці, 46-32-14 кв. м. нядорага. *Тэл. у Баранавічах 7-07-00.*
- драўляны дом у цэнтры г. Паставы Віцебскай вобласці, маецца сад, агарод 15 сотак. *Тэл. у Маладзечне (8-273) 6-76-04.*
- каляска інвалідная, складная, новая, запчасткі. *Тэл. у Мінску 234-43-02.*
- тэрмінова, нядорага дом з прысядзібным участкам у в. Кашчэлічы. *Звяртацца у Валожын, вул. Пушкіна, дом 47.*
- дом у в. Кленнік Смалявіцкага раёна, участак 25 сотак. *Тэл. у Жодзіне 4-38-24.*
- аўтамашына «Урал-375» (ЯМЗ-236) у г. Лунінцы. *Тэл. (8-247) 2-22-47.*
- дом у Брэсце, нядорага, п/а Гяршоны, в. Кацельня-Баярская. *тэл. 96-37-50, або ў Ганцавічах 2-32-85.*
- дом у г. Дуброўна Віцебскай вобл., агарод, сад, нядорага. *Тэл. (017) 240-28-12.*
- дом у Нясвіжскім раёне Мінскай вобл. в. Альбянка. *Тэл. (8-293) 42-6-47.*
- «Жыгулі» ВАЗ- 2103, 75 г.в. у добрым стане.(газ-бензін) 2200 долараў. *Тэл. (8-218) 55-7-05.*
- кватэра 2-пакаёвая (32 кв.м) у Буда-Кашалёве Гомельскай вобл. альбо мяняю на кватэру ў Светлагорску. *Тэл. (8-02342) 23-6-10.*
- электрабрытвы розныя, харкаўскія. *Лельчыцкі раён, тэл. (8-256) 3-25-34, Анатоль.*
- сядзіба (дом, хлеў, склеп, калодзеж) у Навагрудскім раёне. *Звяртацца па тэл. у Баранавічах 4-16-52.*
- зруб 8х10 з трысценам. *Звяртацца: Віцебская вобл., Глыбоцкі раён, в. Галубічы. Тэл. (8-02156) 3-49-23.*
- карова трэцяга ацёлу. *Валожынскі раён, в. Яцкова, Сыктым Ф. Д. Тэл. 42-2-21.*
- дом драўляны, шаляваны, з верандай 8х7, хлеў 6х12, патрабуецца дах. *Звяртацца па тэл. у г. Салігорску 5-03-08.*
- Расада буйнаплодных садовых суніц. *Звяртацца: 211350, Віцебская вобл., г. Бешанковічы, вул. Гагарына, 24. Куц Н. І.*
- вышлю па пошце перадаплатай набор цюльпанаў (чырвоныя) 3 цыбулькі і 10 дзетак — 11.000 руб; хатні жэньшэнь (2 шт. — 10.000 руб.). *Звяртацца: 231231, Гродзенская вобл., Астравецкі раён, в. Жукайкі, 28, Вайцяховіч.*

## «РАСІЯНАЧКА» — І ЁСЦЬ ТОЙ МАЛЫ БІЗНЕС

**Крэдыт у 50 мільёнаў рублёў выдзеліў Беларускі фонд фінансавай падтрымкі прадпрымальнікаў прыватнаму прадпрымальніку з Мінска пенсіянерцы Вользе Івановай.**

Сума не такая ўжо і вялікая, але без гэтых грошай не змагла б дзелавая жанчына адкрыць міні-еўрапейскае кафэ «Расіяначка» на перакрыжаванні Партызанскага праспекта і вуліцы Алега Кашавога. Ды і ўласныя сродкі, першапачаткова ўкладзеныя ў праект, маглі прапасці.

— Гэта ўжо 218-я інвестыцыйная лінія дзяржаўнага фонду, накіраваная на развіццё малога бізнесу ў рэспубліцы, — сказаў карэспандэнту БЕЛТА прэзідэнт Беларускага саюза прадпрымальнікаў Уладзімір Карагін. — Крэдыт выдадзены тэрмінам на адзін год пад 60 працэнтаў гадавых.

Такая фінансавая падтрымка, на думку Уладзіміра Карагіна, выгадная ўсім — і дзяржаве, і бізнесмену, які не толькі сам сабе знайшоў справу, але і стварыў новыя рабочыя месцы. У «хуткім» кафэ «Расіяначка» будуць працаваць шэсць чалавек. А ў перспектыве, падзялілася сваімі намерамі гаспадыня малога прадпрыемства, разам з пунктам харчавання будзе пабудаваны акварыум і арганізаваны продаж жывой рыбы.

**Тэрэза ХАЮЦІНА.**

## ВІНШАВАННІ

Віншую з днём нараджэння **Сяргея Мікалаевіча ПАЎЛЮКОВА**. Жадаю шчасця, радасці, здароўя.

***Сястра Валя.***

Сардэчна віншуем з днём нараджэння дачушку **Святлану ГАРБУНОВУ**. Жадаем моцнага здароўя, шчасця і радасці ў жыцці.

***Мама і тата, г. Слонім.***

Ад усёй душы і шчырага сэрца віншуем дарагога, любімага мужа і бацьку **Віктара Арцёмавіча КІНЦЭВІЧА** з днём нараджэння.

*Желаем счастья и добра*
*Здоровья крепкого всегда*
*Прожить ещё до сотни лет*
*Не зная горести и бед.*

***Ларыса і сын Арцём.***

Віншую з днём нараджэння дарагую **жонку Ларысачку**. Жадаю яснага сонейка, светлай радасці і шчаслівага жыцця.

***Сяргей Высоцкі, г. Салігорск.***

Сардэчна віншуем з днём нараджэння **Валянціну Іванаўну МЯЦЕЛЬСКУЮ**. Жадаем шчасця, здароўя, доўгіх-доўгіх гадоў жыцця і ўсяго самага найлепшага.

***В. Свяцілавічы, Мяцельскія.***

З нараджэннем сына віншуем **Іну ПАКУШ** і **Андрэя КАВАЛЁВА**.

***Суседзі Касцюкевічы, г. Светлагорск.***

Сардэчна віншую з днём нараджэння дарагую матулю **Ніну Пятроўну ХАЛДЗЕЕВУ**. Жадаю доўгіх гадоў жыцця і моцнага здароўя.

***Сын Ігар.***

## Шаноўныя чытачы!

Наша газета ўважліва ставіцца да кожнага купона на бясплатную аб'яву, які прыходзіць у рэдакцыю. На вялікі жаль, не ўсё, што змешчана ў гэтым купоне, можна надрукаваць. Звароты з прапановамі пошуку кліентаў для правядзення лячэбных сеансаў, прапановамі «азалаціць» усяго за адзін дзень і іншыя, дзе патрабуецца дзяржаўны дазвол (ліцэнзія) на від дзейнасці, і надалей будуць пакідацца намі без увагі. Наша газета дае вам унікальную магчымасць павіншаваць родных, блізкіх, знаёмых са знамянальнымі падзеямі ў жыцці. Афармляючы свае аб'явы, будзьце ўважлівыя. Памятайце, што ў людзей, да якіх вы звяртаецеся, ёсць не толькі імя.

Пазначце ў віншаваннях прозвішча чалавека, яго месца жыхарства (месца працы). Краіна наша вялікая, і людзей з аднолькавымі імёнамі і прозвішчамі сустракаецца шмат. Таму дакладнасці, якія мы раім пісаць, пойдуць на карысць і радасць тым, каго віншуеце. Спадзяёмся, што нашы заўвагі дапамогуць вам выкарыстаць магчымасці газеты больш эфектыўна.

***Рэдакцыя.***

| Наименование | Цена | Организация | Телефон |
|---|---|---|---|
| **ТУРИЗМ И ОТДЫХ** | | | |
| Египет: 8, 11, 15 дней авиа «Боинг» | от 525 $. 4-5-звездный отель | Техно-стар | тел./факс 268-47-14 тел. 268-56-69. |

**ЗВЯЗДА**

**Купон для бясплатнай прыватнай аб'явы**

**для тых, хто падпісаўся на нашу газету.**

**Выражце, запоўніце разборліва і вышліце на адрас рэдакцыі**

**Звесткі не для друку: ваша прозвішча, адрас, хатні тэлефон.**


**Адрас рэдакцыі: 220013, Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10 А.**
**Тэлефон для даведак 68-28-77.**

СУМЕСНАЕ БЕЛАРУСКА-АМЕРЫКАНСКАЕ ПРАДПРЫЕМСТВА «САТУРН-ІНФО»: КОМПЛЕКСНАЕ ВЫРАШЭННЕ ПРАБЛЕМ БЯСПЕКІ

S info

*Уладзіслаў РАЧКЕВІЧ, дырэктар СП «Сатурн-Інфо»*

# «НАШЫ СІСТЭМЫ БЯСПЕКІ — ГЭТА ГАРАНТЫІ ЎПЭЎНЕНАСЦІ Ў ЗАЎТРАШНІМ ДНІ»

***Праблема бяспекі, бадай, заўсёды хвалявала кожнага чалавека. З гэтай нагоды былі вынайдзены розныя спосабы, каб засцерагчы сябе, сваё жыллё ад замаху звонку. Звычайнымі рэаліямі сённяшняга дня сталі целаахоўнікі, розныя службы бяспекі, а неад'емнай атрыбутыкай нашых кватэр, дач — жалезныя дзверы, масіўныя ўрэзныя і навясныя замкі, кватэрныя ланцужкі і шмат чаго іншага. Хоць і сцвярджаюць, што ідэальных сродкаў аховы не існуе, аднак у процівагу яму можна прывесці яшчэ адну аксіёму — «сцеражонага Бог сцеражэ».***

***Праўда, і ўсявышні не заўсёды ў сілах забяспечыць бяспеку грамадзян, іх уласнасці. І тады на дапамогу ім прыходзяць розныя фірмы дзяржаўнай і недзяржаўнай уласнасці, якія прапануюць жадаючым шматлікія паслугі па забеспячэнню недатыкальнасці.***

***Сёння на рынку Беларусі з'явіліся дзесяткі арганізацый, задача якіх — прынесці ў ваш дом спакой. Адна з іх, якая ўваходзіць у лік лідэраў у галіне забеспячэння бяспекі, — сумеснае беларуска-амерыканскае прадпрыемства «Сатурн-Інфо».***

***Аб тым, што сабой уяўляе гэтае СП, якія ставіць задачы і шмат пра што іншае — наша размова з яго дырэктарам Уладзіславам Рачкевічам.***

**— Уладзіслаў Станіслававіч, пагадзіцеся, што мы з вамі жывём у няпросты час. Тэрарызм, насілле, грабяжы сталі нашай штодзённай рэчаіснасцю. Свабода мець уласнасць абярнулася для многіх верагоднасцю падвергнуцца насіллю. Людзі ў асноўным аказваюцца бездапаможнымі перад добра ўзброеным і аснашчаным злодзеям. Узнікае заканамернае пытанне: як абараніць сябе ў гэтых умовах?**

— Адназначна адказаць на гэтае пытанне немагчыма. Аднак процістаявіць злодзею добра спланаваную і адладжаную сістэму бяспекі ўсё ж такі можна. У немалой ступені вам дапамогуць у гэтым тэхнічныя сродкі, якія ўвабралі ў сябе апошнія дасягненні навукова-тэхнічнай думкі.

**— Трэба меркаваць, што прапанаваць іх можа СП «Сатурн-Інфо»?**

— Безумоўна. Як кажуць, са склада і пад заказ прафесіянальныя сістэмы аховы і відэаназірання вядучых фірмаў-вытворцаў: C&K (ЗША), DIGIT (Бельгія), SIDEP (Францыя), GARRETT (ЗША), SCANMATIC (Швейцарыя).

**— Уладзіслаў Станіслававіч, шчыра кажучы, далёка не кожнае СП можа пахваліцца спісам такіх вядомых партнёраў. Цікава, як вы знайшлі сябе на айчынным рынку аказання паслуг і чаму ваша дзейнасць заснавана менавіта на прафесіянальнай сістэме аховы, а не на продажы мэблі ці, прабачце, на гандлі нейкім шырспажывам...**

— Думаю, што продаж шырспажыву ці шакаладных батончыкаў «Snickers» — гэта не для нашай фірмы. У нас увесь персанал з вышэйшай адукацыяй, пераважна фізікі.

Хоць, што граху таіць, крыху больш, чым тры гады таму, калі мы сталі на шлях прадпрымальніцтва, як і большасць пачаткоўцаў у бізнесе, канкрэтна не ведалі, якім відам дзейнасці зоймемся. Праўда, рашэння доўга шукаць не прыйшлося, паколькі яно ляжала на паверхні.

Выбар у многім быў вызначаны папярэднім вопытам.

Мы даволі хутка пралічылі магчымыя нішы на рынку Беларусі і зарыентаваліся ў першую чаргу на работу ўнутры рэспублікі. Да таго ж лічу, што нам пашанцавала з партнёрамі. Гэта, скажам так, першая прычына паспяховага развіцця. А другая заключаецца ў тым, што мне да таго часу давялося папрацаваць у галіне кансалтынгу, не перапыняючы дзейнасці ў навукова-даследчым інстытуце БДУ.

Як эксперт еўрапейскага супольніцтва я ўдзельнічаў у падрыхтоўцы шэрага праектаў, адзін з якіх — канверсія на Беларускім оптыка-механічным аб'яднанні.

**— На чым канкрэтна быў зроблены акцэнт?**

— Няцяжка было прадбачыць, што рэзкае змяненне сацыяльна-эканамічных умоў жыцця, узрастанне ролі прыватнай уласнасці непазбежна прывядзе да проста драматычных змяненняў на рынку, у выніку чаго рэзка зменяцца і адносіны да пытанняў бяспекі, хоць раней да SECURITY цікавасці было няшмат.

**— Гэта, мабыць, тлумачылася проста. Ледзь не кожны з нас быў прадстаўніком сусветнага пралетарыяту. А яму, як вядома, не было чаго губляць, акрамя сваіх ланцугоў.**

— Груба кажучы, так, хоць упэўнены, што людзі непакоіліся за сваю бяспеку і ўласную маёмасць столькі часу, колькі налічвае яго гісторыя. Усё гэта актуальна, асабліва сёння. Калі ў чалавека з'яўляецца ўласнасць, адначасова прыходзіць і галаўны боль, як захаваць нажытае.

І вось гэтай праблемай павінны ўжо займацца прафесіяналы.

На шчасце, у час нашага станаўлення на ногі месца на рынку яшчэ было свабоднае і мы яго з поспехам занялі.

Тры гады таму наша фірма паставіла перад сабою простую мэту: забяспечыць беларускага спажыўца надзейным ахоўным абсталяваннем па даступнай цане. І сёння СП «Сатурн-Інфо» прапануе практычна ўвесь спектр паслуг, уключаючы продаж, сервіснае абслугоўванне, мантаж, састаўленне праектна-каштарыснай дакументацыі ахоўнага абсталявання — ад самага простага пасіўнага інфрачырвонага датчыка да найскладанейшых бесправодных сістэм аховы аб'екта. Мінскі метрапалітэн, Сакратарыят СНД, буйнейшыя банкі, магазіны і офісы могуць пацвердзіць бездакорную рэпутацыю нашай фірмы і высокую якасць пастаўляемага намі абсталявання.

Нашы партнёры — гэта сусветныя лідэры ў галіне вытворчасці прафесіянальнага ахоўнага абсталявання, сістэм відэаназірання, дэтэктараў металаў і іншых спецыяльных сродкаў абароны. А кваліфікаваны персанал заўсёды гатовы прапанаваць вам аптымальны комплекс мерапрыемстваў і сродкаў аховы. А ўвогуле нашы сістэмы бяспекі — гэта гарантыя ўпэўненасці ў заўтрашнім дні.

**— Уладзіслаў Станіслававіч, зыходзячы з уласнага вопыту, якімі крытэрыямі падбору вы кіраваліся пры выбары партнёраў?**

— Скажу адразу, што іх некалькі. Па-першае, фірма павінна быць саліднай, з добрым імем. Па-другое, партнёр павінен быць гатовым да супрацоўніцтва з лакальным вытворцам ці спажыўцом, у дадзеным выпадку — з дзяржаўным аб'яднаннем «Ахова». Дарэчы, зусім хутка, 26 верасня, у Мінску, сумесна з кампаніяй C&K і аб'яднаннем «Ахова» мы праводзім семінар, на які запрашаем усе зацікаўленыя бакі. Па-трэцяе, фірма павінна мець дастатковы капітал, каб быць гатовай інвесціраваць у рэспубліку грошы ці тэхналогіі.

На мой погляд, толькі пры наяўнасці гэтых трох складаных можна ўпэўнена гаварыць, што праект можа атрымацца і ён будзе выгадны як для партнёра, так і для рэспублікі ў цэлым.

**— Уліванні замежных інвестыцый у эканоміку Рэспублікі ў многім залежаць ад дзяржаўнай палітыкі як да прадпрымальніцтва ў цэлым, так і да сярэдняга і ніжняга звяна, да якога і належаць шматлікія СП, у прыватнасці.**

— Намёк зразумеў. Думаю, што сёння дзяржава тварам паварочваецца да прыватнага бізнесу. Пацвярджэнне таму — нядаўні з'езд дзелавых колаў, на якім выступіў Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка і было ўтворана Міністэрства па інвестыцыях.

**— Прабачце, але ж у нас не надта любяць тыя фірмы, якія займаюцца не вытворчасцю тавараў, а гандлёва-пасрэдніцкай дзейнасцю, ці працуюць па схеме «купі — прадай». Ваша прадпрыемства, наколькі я зразумеў, бліжэй да разраду апошніх. У такім разе, як будуць далей развівацца дзейнасць «Сатурн-Інфо» і адносіны ўладаў да такога бізнесу?**

— На жаль, гэта вельмі складанае пытанне, у якім не надта проста разабрацца. Давайце пачнём з таго, што ў сувязі з сацыяльна-эканамічнымі змяненнямі ў рэспубліцы з'явіліся людзі, якія пачалі ствараць сваю справу — наладжваць малы і сярэдні бізнес, які ва ўсім цывілізаваным свеце з'яўляецца лакаматывам усяго прадпрымальніцтва.

Адразу ж паўстае пытанне: дзе той стартавы капітал і абаротныя сродкі, неабходныя для таго, каб «раскруціцца»? Рэальна зарабіць сумленна можна толькі на бізнесе, які дае хуткую аддачу. Гэта ці гандлёва-пасрэдніцкая дзейнасць, ці нейкія фінансавыя аперацыі. Іншых шляхоў няма.

У нас такіх магчымасцей хутка разбагацець не было, аднак мы ніколі не з'яўляліся чыста пасрэднікамі, таму што разам з продажам ахоўнай тэхнікі мы прапануем кліентам праектаванне, мантаж, устаноўку абсталявання, што патрабуе абсалютна дакладных ведаў, якія немагчыма атрымаць за дзень-два ці нават за год.

І тым не менш, у хуткім часе ад продажу і аказання паслуг мы перайшлі да вытворчасці. У Беларусі ўжо ёсць канвеер па зборцы з камплектуючых, якія пастаўляюць партнёры гатовай прадукцыі. А гэта дадатковыя рабочыя месцы. Ведаеце, нішто ў свеце, асабліва ў сферы бізнесу, не адбываецца імгненна ці па ўказу зверху. Усё падпарадкоўваецца нейкім законам...

**— Уладзіслаў Станіслававіч, прадпрымальніцтва, як аказваецца, такая складаная штука, што не ўсё ў ім залежыць ад партнёраў і падтрымкі дзяржавы. Ёсць яшчэ такое паняцце, як канкурэнцыя. Ці вам яно незнаёмае?**

— Ды дзе там! Канкурэнцыя зараз ёсць, і яна вельмі моцна нарастае. Аднак мы прыйшлі працаваць на беларускі рынак усур'ёз і надоўга, таму не збіраемся пасаваць перад сапернікамі па бізнесу. Дарэчы, канкурэнцыя ў любой справе — рэч непазбежная і патрэбная, таму што «на тое і шчупак у моры, каб карась не драмаў». Яна падганяе нас, прымушае ісці наперад і пераадольваць яе.

**— У вас ёсць універсальныя метады барацьбы з канкурэнтамі?**

— У сваёй рабоце прытрымліваюся некалькіх прынцыпаў:

— усё павінна быць падпарадкавана жаданню кліента;

— гібкасць і аператыўнасць прыняцця рашэння і рэагавання на змяненні рынку;

— падбор высокакваліфікаваных і адукаваных супрацоўнікаў.

Ну і, вядома, добразычлівасць партнёраў і разуменне імі нашых праблем — таксама залог поспеху.

**— Вы маглі б больш падрабязна спыніцца на кожным з іх і даць нейкую характарыстыку?**

— Вядома, і зраблю гэта з задавальненнем.

**C&K Systems inc** — сусветны лідэр у вытворчасці кампанентаў прафесіянальных сістэм ахоўнай пажарнай сігналізацыі. Піянер у распрацоўцы і вырабе датчыкаў руху серыі **DualTec** — камбінацыі інфрачырвонага і мікрахвалевага прынцыпаў выяўлення пранікнення ў памяшканні, якія ахоўваюцца, што забяспечвае вельмі высокую адчувальнасць і перашкодаўстойлівасць. Мікрапрацэсарныя панелі кіравання, датчыкі руху і разбівання шкла, магнітныя кантакты і многае іншае. Навінка кампаніі — бесправодная сістэма **«Spread Net»,** вызначальнай рысай якой з'яўляецца перадача сігналу па сотнях радыёчастот адначасова.

**BURLE** — вядучы вытворца апаратуры відэаназірання прапануе высакаякасныя сістэмы — ад самай простай манахроннай камеры і манітора да найскладанейшых і дарагіх сістэм, што «бачаць» практычна ў поўнай цемры, мультыплексараў, квадратараў, світчэраў, манітораў рознага ўзроўню адрознівання, якія дазваляюць весці назіранне з мноства пунктаў устаноўкі адначасова, відэамагнітафонаў з магчымасцю пакадравага запісу працягласцю да 960 гадзін і іншага прафесіянальнага абсталявання і аксесуараў для прымянення ў самых экстрэмальных умовах навакольнага асяроддзя.

**GARRETT *ELECTRONICS INC*** — імя, якое стала сінонімам паняцця «дэтэктаванне металаў». Сёння цяжка сабе ўявіць аэрапорт, салідную фінансавую ўстанову ці любое іншае месца вялікага скаплення людзей, дзе існуе неабходнасць выяўлення металічных прадметаў, такіх як агнястрэльная ці халодная зброя, выбуховыя прыстасаванні, кантрабандны тавар, без знаёмых арачных збудаванняў стацыянарных дэтэктараў металаў. Кампанія таксама прапануе вялікі асартымент апаратуры для пошуку фераўтрымліваючых і іншых металічных аб'ектаў пад зямлёй, вадой, снегам (на гэта варта звярнуць увагу нашым камунальным службам, каб не капаць вялікія траншэі і катлаваны для пошуку аварыі ў сістэме цеплатрасы ці водазабеспячэння), а таксама ручныя дэтэктары і аксесуары.

**DIGIT** — сістэма доступу: кантактныя і бескантактныя счытвальныя прыстасаванні. Вялікі выбар сістэмных блокаў і праграмнае забеспячэнне даюць магчымасць гібкага размежавання доступу, дзе гэта неабходна.

**SIDEP/SCANMATIC** — несуцяшальная статыстыка такая: сёння з агульнай колькасці крадзяжоў на прадпрыемствах рознічнага гандлю каля 70—80 працэнтаў тавараў бесперашкодна выносіцца. Аб'ектам раскраданняў у асноўным становяцца алкагольныя напоі, фасаваныя каўбасныя, а таксама кандытарскія вырабы. Надзейна абараніць вашу прадукцыю ад несанкцыяніраванага выносу дапаможа абсталяванне фірмаў, якія прапануюць надзвычай шырокі спектр электрамагнітных і радыёчастотных метак і ярлыкоў, замкоў і аксесуараў, якія дазваляюць эфектыўна папярэджваць і выяўляць спробы выносу тавараў.

**— Скажыце, калі, не закранаючы тэмы банкаўскай аховы буйных супермаркетаў і офісаў, звярнуцца да звычайнай кватэры ці дачы, наколькі рэальна простаму чалавеку даверыцца вашай фірме?**

— Як кажуць, ніякіх праблем. Хоць працаваць з буйнымі кліентамі куды больш выгадна ў фінансавым плане. Аднак любы кліент у нас — жаданы госць. Пры гэтым мы захоўваем канфідэнцыяльнасць, і без яго згоды ніхто не даведаецца, хто да нас прыходзіць, якую пажадаў набыць ахоўную тэхніку. Ведаеце, жадаючых пакваліцца на чужое дабро хапае, аднак інфармацыйны канал для такіх у нас закрыты. І яшчэ. Мы, як і сапёры, не маем права памыліцца, бо з-за гэтага чалавек можа страціць вельмі многае. Таму наша фірма гарантуе выдатную работу ахоўнага абсталявання. Можна сказаць, адказвае за яго работу і да ўстаноўкі, і пасля.

**— Уладзіслаў Станіслававіч, сёння многія лічаць грошы, і, перш чым нешта купіць, чалавек дзесяць разоў падумае. Уявіце сабе, што людзі, уласнікі нейкай маёмасці ці жылля, замест ахоўнай тэхнікі будуць аддаваць перавагу вартавым сабакам.**

— Нічога не маю супраць.

Аднак давайце вернемся да сабакі-вартаўніка, які можа быць сябрам, членам сям'і і прыносіць шмат станоўчага, што прыносяць чалавеку зносіны з жывёламі, і паглядзім на яго як на інструмент аховы. Калі мы адкінем рамантыку і пяройдзем на прозу, то бачна, што рэчы маюць канкрэтную цану. Напрыклад, пародзістыя аўчарка ці дог у цэлым значна даражэй абыдзецца чалавеку (купля шчаняці, расходы на прывіўкі і корм, дадайце сюды штодзённы догляд), чым устаноўка ахоўнай тэхнікі. Вось і мяркуйце, што тут лепш.

Усё ж мне не хацелася б тут прапаноўваць нейкі альтэрнатыўны варыянт. Калі чалавек завёў сабаку, зразумела, не такога, які свабодна змяшчаецца ў кішэнь, то, безумоўна, ён на яго спадзяецца і як на сябра, і як на ахоўніка. Але ж у дадзеным выпадку аўчарка ці дог могуць быць выдатнымі вартаўнікамі толькі ў комплексе з іншымі метадамі, напрыклад з ахоўнай тэхнікай, якую прапануе «Сатурн-Інфо». Яна адносна недарагая, фізічна не старэе і дастаткова надзейная. А значыць, будзе служыць вам вечна.

**Гутарыў Уладзімір ЗДАНОВІЧ.**
**Фота Мікалая АМЕЛЬЧАНКІ.**

**Сумеснае беларуска-амерыканскае прадпрыемства «Сатурн-Інфо» ўваходзіць ў састаў холдынгавай групы, якая аб'ядноўвае шэраг беларускіх і расійскіх кампаній. Імклівыя змяненні кан'юктуры рынку і далейшае пашырэнне сфер дзейнасці камерцыйных структур на тэрыторыі СНД прывялі да стварэння магутнай шматгаліновай арганізацыі, якая займае адно з першых месцаў у гандлі, інвестыцыйнай дзейнасці, прадастаўленні самых разнастайных пасрэдніцкіх і кансалтынгавых паслуг. Пастаянная патрэбнасць у самафінансаванні прывяла да стварэння інвестыцыйнага фонду і акцыянерна-камерцыйнага банка са статутным капіталам звыш 2.000.000 ЭКЮ. Актыўная дзейнасць СП «Сатурн-Інфо» ў галіне Security прыметна ўзмацніла пазіцыі холдынгавай групы, стварыла рэпутацыю надзейнага партнёра ў розных сферах бізнесу.**

S info

# НАВАТАРСТВА ЦІ ФАЛЬСІФІКАЦЫЯ?

Беларускае рэспубліканскае аб'яднанне «Гістарычныя веды» з вялікай увагай і надзеяй вывучала апошнія выданні «Беларускай Энцыклапедыі». На жаль, нашы надзеі не спраўдзіліся. Для некаторых з гэтых выданняў аказалася характэрнай вядомая трыяда цяперашняй фальсіфікацыі гісторыі Беларусі: антысаветызм, нацыяналізм і русафобія. Гэта, у прыватнасці, датычыць першых двух тамоў «Энцыклапедыі гісторыі Беларусі» (апублікаваныя ў 1993—1994 гг.), што прымусіла групу нашых аўтараў напісаць на першыя два тамы крытычны артыкул.

У гэтай сувязі члены аб'яднання «Гістарычныя веды» не могуць заставацца абыякавымі да ліста ў «Звязду» (ад 18 мая 1996 г.) дзевяці былых членаў рэдакцыйнай калегіі першых тамоў «Энцыклапедыі гісторыі Беларусі»: М. Біча, А. Грыцкевіча, М. Ермаловіча, М. Касцюка, Г. Кісялёва, У. Конана, А. Мальдзіса, В. Скалабана, Г. Штыхава. У дадзеным выпадку нас перш за ўсё і галоўным чынам цікавяць не прэтэнзіі аўтараў ліста да новага кіраўніцтва выдавецтва «Беларуская энцыклапедыя», а змест тых выданняў, да якіх мелі дачыненне аўтары ліста.

У лісце яго аўтары называюць асноўныя прынцыпы (падыходы), якімі яны кіраваліся ў сваёй рабоце пры падрыхтоўцы першых тамоў «Энцыклапедыі гісторыі Беларусі» (ЭГБ). Мы хочам, каб чытачы «Звязды» ведалі, які адмоўны ўплыў зрабілі гэтыя «прынцыпы» на два першыя апублікаваныя тамы.

**Нацыянальна-дзяржаўны падыход да асвятлення гісторыі.** Ажыццяўляючы гэты падыход, стваральнікі першых двух тамоў паклапаціліся аб тым, каб як мага далей пашырыць межы Вялікага княства Літоўскага (яго яны лічаць беларускім гаспадарствам) за кошт захопленых чужых зямель, якія толькі часова ўваходзілі ў састаў ВКЛ. Але ж усходнія межы ВКЛ у XIV стагоддзі ад р. Угра (прыток Акі) і вярхоўяў Дона — гэта з пунктаў гледжання гістарычнай логікі па сутнасці тое самае, што межы Германіі ў 1942 г. да Волгі і Каўказскіх гор. Аднак па свойму разумеючы «нацыянальна-дзяржаўны падыход», А. Грыцкевіч і М. Ермаловіч (аўтары артыкулаў) лічаць, быццам паходамі на Маскву і ўстанаўленнем мяжы на р. Угра (паблізу Калугі) літоўскія князі змагаліся за беларускія землі (т. 2, с. 305, 389, 390).

Гэта вымушае нас нагадаць карту Беларусі, якую ў Празе стварыў белаэмігрант, антысаветчык Васіль Русак і якая цяпер знаходзіцца ў Брытанскім музеі. Апагеем яго вар'яцкіх трызненняў стала пашырэнне межаў Беларусі праз Пскоў, побач з Ноўгарадам да Фінскага заліва. Заява ў ЭГБ (т. 2, с. 389) аб спробе князя Альгерда падпарадкаваць Пскоў і Ноўгарад (таксама дзеля аб'яднання беларускіх зямель) сведчыць аб тым, што сучасныя праваднікі нацыянальна-дзяржаўнага падыходу размахнуліся яшчэ шырэй, чымся Васіль Русак.

**Нацыянальная свядомасць.** На зайздрасць складальнікам сусветна вядомага двухтомнага «Дыялекталагічнага атласа беларускай мовы» М. Ермаловіч лічыць, быццам «мяжа пашырэння беларускіх гаворак» на ўсходзе ў пачатку XV ст. якраз і пралягала па рацэ Угра (т. 2, с. 305). Аднак факты гісторыі сведчаць аб тым, што нацыянальная свядомасць беларусаў ні раней, ні цяпер ніколі не дазваляла сабе пашырыць межы сваёй народнасці і нацыі аж да Калугі, Мцэнска, вярхоўяў Дона. Імправізацыі М. Ермаловіча, падтрыманыя дзевяццю аўтарамі ліста ў «Звязду», не маюць нічога агульнага з сапраўднай нацыянальнай свядомасцю беларускага народа.

**Суверэнітэт краіны.** Падыход стваральнікаў першага тома ЭГБ да праблемы суверэнітэту краіны ніяк нельга лічыць ні абгрунтаваным, ні лагічным. Насуперак гістарычным фактам яны сцвярджаюць, быццам БССР мела толькі няпоўную аўтаномію, а БНР была суверэннай дзяржавай (т. 1, с. 384, 401, 407). Тым часам «суверэнная» БНР ад моманту свайго абвяшчэння існавала пад эгідай германскіх і польскіх акупантаў, а потым яе «ўрад» знаходзіўся на задворках розных буржуазных дзяржаў. «Аўтаномная» ж БССР, уваходзячы ў Саюз Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік, мела свой урад, сваю Акадэмію навук, больш трыццаці вышэйшых навучальных устаноў, высокаразвітую эканоміку, культуру і высокі ўзровень матэрыяльнага забеспячэння насельніцтва.

**Самазахаванне народа.** Як яшчэ можна гаварыць аб яго самазахаванні, калі пад кіраўніцтвам дзевяці аўтараў ліста ўжо ў першым томе ЭГБ усхваляюцца обер-прыслужнікі фашысцкіх акупантаў Францішак Аляхновіч, Наталля Арсеннева і іншыя, якія бачылі «дабрабыт» беларускага народа толькі пад «апекай» Адольфа Гітлера.

**Адраджэнне**. Калі меркаваць па адобранаму рэдкалегіяй артыкулу «Беларускі народны фронт «Адраджэнне», то можна ўбачыць галоўны змест «адраджэння» ў антысаветызме і антыкамунізме. Але гэты шлях прывёў Беларусь да разбурэння яе эканомікі і культуры, да бяспраўя і галечы працоўных мас.

**Пераасэнсаванне гісторыі**. Гэтае «пераасэнсаванне» дзевяць аўтараў ліста бачаць у тым, каб адкінуць усё, што не адпавядае іх «нацыянальна-дзяржаўнаму падыходу». Антысавецкае слуцкае паўстанне 1920 г. (узнятае пры дапамозе польскіх акупантаў) у I томе ЭГБ (с.399) перароблена ў «паўстанне за незалежнасць Беларусі, за інтарэсы сялян». Нават з украінска-беларускай вайны 1648—1654 гадоў пад кіраўніцтвам Багдана Хмяльніцкага супраць Рэчы Паспалітай «пераасэнсоўшчыкі» «выкінулі» нацыянальна-вызваленчы напрамак, назваўшы яе толькі «антыфеадальнай вайной» (т. I, с. 133—135).

Апрача гэтага дзевяць аўтараў ліста заявілі, што яны выступаюць супраць «класавага камуністычна-партыйнага падыходу», які быццам бы «адкіне нашу гістарыяграфію на дзесяцігоддзі назад». У сувязі з гэтым мы вымушаны звярнуць увагу чытачоў на наступнае.

Па-першае, пакуль у сучасным свеце існуюць антаганістычныя класы, яны будуць карыстацца класавым падыходам для аналізу і ацэнкі гістарычнага працэсу. А класавы ж падыход ужываўся яшчэ да з'яўлення марксізму. Яшчэ англійскія эканамісты канца XVII—пачатку XVIII стагоддзяў і французскія гісторыкі першай паловы XIX стагоддзя пісалі пра існаванне класаў, імкнучыся вытлумачыць буржуазныя рэвалюцыі як вынік класавай барацьбы. Савецкая гістарычная навука, заснаваная на ідэалогіі рабочага класа, змагла найбольш аб'ектыўна паказаць працэс развіцця чалавечага грамадства.

Адмаўляюць класавы падыход пры вывучэнні грамадскіх адносінаў толькі буржуазныя гісторыкі для таго, каб замаскіраваць панаванне капіталістаў над працоўнымі масамі.

Па-другое, аўтары ліста баяцца, каб наша гістарыяграфія не была адкінута «на дзесяцігоддзі назад», бо прыйшлося б паказваць выдатныя поспехі БССР пры Савецкай уладзе, асабліва ў саставе Саюза ССР. Тады ж услаўлялі камуністычную партыю і сацыялістычную дзяржаву амаль усе аўтары ліста ў «Звязду».

Так вось выглядаюць «тэзісы» і «антытэзісы», абвешчаныя дзевяццю былымі членамі рэдкалегіі ЭГБ, рэалізацыя якіх у першых двух тамах прывяла да скажэнняў многіх з'яў у гісторыі беларускага народа.

Выступаючы супраць гісторыкаў, якія стаяць на іншых пазіцыях, аўтары ліста ў «Звязду» асабліва апалчыліся на члена-карэспандэнта АНБ П. Ц. Петрыкава і доктара гістарычных навук А. А. Філімонава.

Тым часам не толькі ў колах творчай інтэлігенцыі, але і ў шырокай масе чытачоў добра вядома, што і П. Ц. Петрыкаў і А. А. Філімонаў зрабілі для гістарычнай навукі не менш карыснага, чым тыя, хто імкнецца іх крытыкаваць.

Нягледзячы на неабгрунтаванасць свайго ліста ў «Звязду», дзевяць былых членаў «Энцыклапедыі гісторыі Беларусі» вырашылі зрабіць з яго палітычны трактат і апублікавалі ў выглядзе «Заявы» ў газеце «Голас Радзімы», якую чытаюць беларусы ў іншых краінах. Аднак ад гэтага тэкст не стаў больш пераканаўчым.

***Артыкул абмеркаваны і адобраны на сумесным пасяджэнні бюро Беларускага рэспубліканскага і прэзідыума Мінскага навуковага аб'яднанняў «Гістарычныя веды».***

**Старшыня Беларускага рэспубліканскага аб'яднання «Гістарычныя веды», доктар гістарычных навук, прафесар А. ЗАЛЕСКІ, старшыня Мінскага навуковага аб'яднання «Гістарычныя веды», доктар гістарычных навук, прафесар А. ХАХЛОЎ; члены аб'яднання «Гістарычныя веды»:**

**акадэмік Міжнароднай славянскай акадэміі, член-карэспандэнт АНБ А. ЖУРАЎСКІ,**

**член-карэспандэнт АНБ У. НЯФЁД,**

**дактары гістарычных навук, прафесары: У. ПАЛУЯН, Я. ПРЫМЕРАЎ,**

**кандыдаты гістарычных навук, дацэнты: М. БАГУШЭВІЧ, Б. ДАЛГАТОВІЧ, К. ДАМАРАД, В. ДАЎЖОНАК,**

**выкладчык філасофіі ВНУ І. СЁМКІН,**

**настаўнік гісторыі П. ГЕРАСІМОВІЧ.**

# ДЫК ХТО Ж УСЁ-ТАКІ З'ЯЎЛЯЕЦЦА ФАЛЬСІФІКАТАРАМ?

Нехта сказаў, што нацыю робяць гісторыкі.

У пэўным сэнсе гэта, відаць, сапраўды так. Цяжка ўявіць, скажам, рускую або польскую нацыі без іх слынных гісторыкаў (гэтак жа, мабыць, як і без іх пісьменнікаў, што пісалі на гістарычныя тэмы). І калі гэта так, то прыйдзецца прызнаць, што робяць, ствараюць нацыю толькі тыя гістарыёграфы, якія апраўдваюць сваё грамадскае прызначэнне, інакш кажучы — з павагай і шчырай зацікаўленасцю ставяцца да мінуўшчыны свайго народа, разглядаюць яе як пэўную «рэчаіснасць у яе руху і развіцці», як пэўную «сукупнасць фактаў, падзей і абставінаў» і імкнуцца праўдзіва адлюстраваць іх. Відавочна, з другога боку, што тыя, хто называе сябе гісторыкамі, але насуперак свайму сапраўднаму прызначэнню, маральнаму кодэксу навукоўца, прафесіянальнай этыцы, адвольна абыходзяцца з гістарычнымі фактамі, падтасоўваюць, фальсіфікуюць іх дзеля нейкіх сваіх (карпаратыўных, класавых, ідэалагічных і г. д.) меркаванняў, хто надуманыя хімеры ставіць вышэй за рэальныя інтарэсы, рэальны лёс свайго народа, — тыя, вядома, не робяць, не ствараюць нацыю, а, наадварот, разбураюць яе. (Недарэмна ж Сервантэс сказаў, што фальшывых гісторыкаў трэба караць гэтак жа сурова, як фальшывыманетчыкаў). Беларуская нацыя, можа быць, як ні адна ў свеце, зведала разбуральнае, згубнае ўздзеянне фальсіфікатараў яе гістарычнага мінулага. І вось парадокс, яшчэ адзін наш, беларускі парадокс: якраз тых, творча актыўных, думаючых, патрыятычна настроеных нашых гісторыкаў, якія, верныя свайму навуковаму і грамадзянскаму абавязку, шмат зрабілі ў апошнія гады для таго, каб ачысціць беларускую гістарыяграфію ад завалаў хлусні і падтасовак, ад напластаванняў розных ілжэідэй і псеўдаканцэпцый і вярнуць народу яго гістарычную памяць, якраз гэтых навукоўцаў-гісторыкаў абвінавачваюць у ... фальсіфікацыі гісторыі. А менавіта да такога бязглуздага абвінавачання зводзяцца пафас і змест ліста ў рэдакцыю «Звязды», падпісанага небезвядомым А. Залескім і яго аднадумцамі і прэтэнцыёзна названага «Наватарства ці фальсіфікацыя?»

Прытым аўтары ліста так захапіліся выкрыццём «дзевяці былых членаў рэдкалегіі «Энцыклапедыі гісторыі Беларусі», што не змаглі знайсці ніводнага добрага слова ў адрас такога незвычайнага выдання, стваральнікі якога запланавалі змясціць у 6 яго тамах больш за 15 тысяч артыкулаў і паставілі сабе за мэту» найбольш поўна, на найноўшых дасягненнях навукі адлюстраваць шматвяковы шлях беларусаў ад сівой даўніны да сучаснасці», «асвятліць усе значныя і важныя падзеі, што адбываліся на тэрыторыі Беларусі» (з прадмовы да першага тома «Энцыклапедыі гісторыі Беларусі»), і нават упусцілі з поля зроку наступны відавочны факт: акрамя «падсудных» дзевяці былых членаў рэдкалегіі «Энцыклапедыі...» над ёй працаваў, ствараў яе вялікі калектыў — члены рэдакцыйнай калегіі, навуковыя кансультанты, аўтары, рэдактары і ў тым ліку... некаторыя з аўтараў ліста ў рэдакцыю, а менавіта: А. Жураўскі, У. Палуян, Б. Далгатовіч... Як іх, апошніх, трэба разумець? Чаму, якім чынам аднеслі яны сябе раптам да ліку ненавісных ім «нацыяналістаў» ды «русафобаў»?

Прасякнуты абвінаваўчым пафасам ліст «Наватарства ці фальсіфікацыя»? далёкі, натуральна, ад дзелавой, тым больш навуковай, палемікі. Але я, тым не менш, дзеля карысці справы вырашыў звярнуцца да спецыялістаў — нашых вядомых гісторыкаў. З просьбай выказаць сваё меркаванне. Рэакцыю былога штатнага супрацоўніка энцыклапедычнага выдавецтва, актыўнага аўтара «Энцыклапедыі...», кандыдата гістарычных навук Віталя Скалабана можна выказаць адным словам: абурэнне. Ён абураецца тымі недазволенымі прыёмамі, якімі карыстаюцца А. Залескі і «иже с ним», паказвае, прыводзячы канкрэтныя прыклады, называючы шэраг артыкулаў першых тамоў «Энцыклапедыі...» і прозвішчы іх аўтараў (розных па сваіх падыходах і па сваёй сённяшняй ідэйнай пазіцыі), наколькі далёкія ад ісціны крытыкі выдання з іх недарэчнай «трыядай».

Катэгарычнае непрыманне выклікае ў аўтараў ліста нацыянальна-дзяржаўны падыход у асвятленні гісторыі. А між тым, калі гутарыш з гісторыкамі, у прыватнасці з супрацоўнікамі Інстытута гісторыі АН Беларусі, калі праглядваеш іх адпаведныя выступленні ў друку, то без асаблівых намаганняў прыходзіш да высновы: гэты самы нацыянальна-дзяржаўны падыход з'яўляецца агульнапрынятым у гістарыяграфіі ўсіх цывілізаваных, суверэнных краін свету і ўяўляе сабой не што іншае, як нармальны, канструктыўны, сапраўды навуковы падыход. Вось і ўсё. І, безумоўна, натуральны той факт, што нашы навукоўцы-гісторыкі ўзялі гэты падыход на ўзбраенне. У гутарцы з галоўным рэдактарам часопіса «Беларуская мінуўшчына», гісторыкам Леанідам Лойкам дырэктар Інстытута гісторыі АН, яе член-карэспандэнт Міхась Касцюк заначае: «Калі пачаў знікаць ідэалагічны ўціск і сталі з'яўляцца публікацыі гісторыкаў па раней забароненых сюжэтах, рэзка ўзрасла цікавасць да гэтай іх працы. Прэстыж гістарычных ведаў імкліва пайшоў уверх. Асноўная частка гісторыкаў Беларусі, у тым ліку, а, магчыма, і ў першую чаргу абсалютная большасць супрацоўнікаў Інстытута гісторыі Акадэміі навук Беларусі, не маглі не адклікнуцца на гэтыя магчымасці актыўнай працай. Гістарычныя даследаванні сталі грунтавацца на нацыянальна-дзяржаўнай канцэпцыі, якая была распрацавана, абмеркавана і прынята ў інстытуце. Яна атрымала адабрэнне на Першай усебеларускай канферэнцыі гісторыкаў. У першую чаргу яна зыходзіць з прызнання факта шматвекавога існавання беларускага этнаса як суб'екта гісторыі...» Дыялог М. Касцюк заканчвае словамі пра важнасць і пільную патрэбу гістарычных ведаў. «Нягледзячы на ўсе цяжкасці, — гаворыць ён, — мы з'яўляемся сведкамі таго, як расце разуменне, што без гістарычных ведаў і выкарыстання гістарычнага вопыту нельга паспяхова будаваць незалежную дзяржаву — Рэспубліку Беларусь».

Меў я гутарку з намеснікам дырэктара Інстытута гісторыі, доктарам гістарычных навук Міхасём Бічом. Ён з'яўляецца адным з ініцыятараў распрацоўкі нацыянальнай канцэпцыі гісторыі і гістарычнай адукацыі і выступіў з адпаведнай публікацыяй на старонках «Настаўніцкай газеты» яшчэ ў лістападзе 1991 года. У больш разгорнутым і аргументаваным выглядзе гэтая канцэпцыя была выкладзена ім у першым нумары новага навуковага і навуковаметадычнага выдання «Беларускі гістарычны часопіс» (1993 г.). Міхась Васілавіч нагадаў тыя важнейшыя прынцыпы, на якія, як ён лічыць, павінна абапірацца нацыянальная канцэпцыя гістарычнай навукі і гістарычнай адукацыі ў краіне. Гэта: дэпартызацыя і дэідэалагізацыя гістарыяграфіі як галоўная перадумова яе навуковасці; гуманістычная, агульначалавечая і нацыянальна-дзяржаўная каштоўнасці як крытэрый ісціны і ацэнкі гістарычных падзей, дзеячаў, фактаў; плюралістычная метадалогія, заснаваная на творчым засваенні розных тэорый сусветна-гістарычнага працэсу...

Так выглядае сапраўды навуковатворчая распрацоўка. А што са свайго боку прапануюць актывісты аб'яднання «Гістарычныя веды»? Ды нічога новага, канструктыўнага. Усё тое ж, сталінісцкае, выцягнутае з прапахлага нафталінам ідэалагічнага куфэрка: «Савецкая гістарычная навука, заснаваная на ідэалогіі рабочага класа, змагла найбольш аб'ектыўна паказаць працэс развіцця чалавечага грамадства»(?). Ведаем, якая гэта была аб'ектыўнасць.

— Заўважу, што нашы апаненты блытаюць паняцці, — гаворыць М. Біч, — прызнанне факта існавання класаў — з класавым падыходам да асвятлення гісторыі. Але ж адна справа — прызнаваць існаванне класаў і класавай барацьбы (мы іх не адмаўляем, і гэта знайшло адлюстраванне ў «Энцыклапедыі...»). І другая справа — патрабаваць, каб гісторык разглядаў развіццё грамадства, гістарычны шлях свайго народа з пазіцый аднаго класа, адной партыі.

Пільна шукаючы (не інакш як з пазіцый пралетарскай ідэалогіі), аўтары ліста выявілі «крамолу» ў артыкулах Анатоля Грыцкевіча і Міколы Ермаловіча. Паслухаем каментарыі нашых паважаных гісторыкаў.

— Найперш хочацца адзначыць, — гаворыць Мікола Ермаловіч, — што такая капітальная работа, як 1 і 2 тамы «Энцыклапедыі гісторыі Беларусі», якая ўвабрала ў сябе плён працы шматлікага калектыву аўтараў, патрабуе глыбокага і грунтоўнага разгляду, а не такога вось павярхоўнага, разноснага наскоку, які мы бачым у артыкуле «Наватарства ці фальсіфікацыя?» Ну, ды яго аўтараў само выданне мала цікавіць, яны паставілі сабе іншую мэту — шукаць матэрыял для абвінавачвання нас, для кампраметацыі любой цаной нацыянальна-дзяржаўнага падыходу ў асвятленні мінулага. Вось як выглядае іх закід: «Але ж усходнія межы ВКЛ у XIV стагоддзі да р. Угра (прыток Акі) і вярхоўя Дона — гэта з пункту гледжання гістарычнай логікі па сутнасці тое самае, што межы Германіі ў 1942 г. да Волгі і Каўказскіх гор». Але ж недарэчна параўноўваць тое, што цягнулася некалькі месяцаў, з тым, што доўжылася звыш стагоддзя. Менавіта далучаныя Вітаўтам у перыяд 1395—1408 гг. землі да Угры знаходзіліся ў саставе ВКЛ да 1514 г. Гэта сапраўдны гістарычны факт, ігнараваць які недаравальна, а тым больш — лічыць фальсіфікацыяй.

Далей. Сцвярджэнне аб пашырэнні беларускіх гаворак да р. Угры грунтуецца на падставе «Этнографической карты белорусского племени» Я. Ф. Карскага, змешчанай у вядомым «Дыялекталагічным атласе беларускай мовы». Мы тут атрымліваем таксама доказ таго, што паход Вітаўта на Угру нельга лічыць выпадковасцю. Мушу нагадаць аўтарам артыкула і той факт, што, паводле пастановы I з'езда КП(б)Б аб межах БССР, у састаў апошняй уключаліся Смаленскі, Бельскі, Духаўшчынскі, Дзямідавіцкі, Ельнінскі, Красненскі, Рослаўльскі, Веліжскі, Невельскі, Себежскі, Мглінскі, Старадубскі раёны («Образование СССР», М., 1949).

Незразумела, чаму аўтараў «Энцыклапедыі...» папракаюць у тым, што яны лічаць Вялікае княства Літоўскае беларускай дзяржавай. Гэта тым больш дзіўна, што адзін з аўтараў артыкула, А. Залескі, у свой час пісаў: «Прызнанне дзяржаўнасці Беларусі ў XIV—XVI стст. дасць магчымасць правільна растлумачыць прычыну таго росквіту культуры, якой дасягнула Беларусь за феадальны перыяд» (« На скрыжаванні думак», Мн., 1990, стар. 14). Сапраўды так. Вялікае княства Літоўскае было найперш беларускай дзяржавай, а так званыя літоўскія князі былі фактычна беларускімі князямі і найперш клапаціліся аб інтарэсах беларускіх зямель. Гэтым і вытлумачваецца, чаму ВКЛ як дзяржаўнае ўтварэнне за ўсю сваю гісторыю не прамовіла ніводнага літоўскага слова, а гаварыла толькі па-беларуску.

Гэтак жа доказна, з фактамі і спасылкамі, што называецца, у руках адводзіць абвінавачанні ў свой адрас доктар гістарычных навук, прафесар Анатоль Грыцкевіч.

— Мой артыкул заснаваны толькі на фактах і гістарычных крыніцах, — падкрэслівае гісторык. — Побач з тэкстам змешчана карта В. Л. Насевіча «Вялікае княства Літоўскае ў другой палове XIV—XV ст.», дзе ўсё гэта пазначана. Усё гэта ёсць у гістарычнай літаратуры, у тым ліку ў расійскага гісторыка С. М. Салаўёва (Сочинения, книга 2, История России с древнейших времен, М., 1988). Карл Маркс гаворыць пра гэты перыяд: «Русь тады была падзелена на дзве дзяржавы — Маскву і Літву». Ён разглядае барацьбу паміж Масквой і Вільняй як спробы кожнага боку аб'яднаць усе рускія землі.

Такім чынам, працягвае А. Грыцкевіч, інсінуацыі і палітычныя ярлыкі аўтараў заснаваны на выдумках і падтасоўках.

Наконт слуцкага паўстання. «Антысавецкае слуцкае паўстанне 1920 г. (...) перароблена ў «паўстанне за незалежнасць Беларусі, за інтарэсы сялян», — пішуць аўтары ў «Звязду». Заўвага няслушная. У артыкуле «Беларуская рада Случчыны» даюцца звесткі, узятыя з розных крыніц і літаратуры і выказаныя, на наш погляд, аб'ектыўна. Ацэнка артыкула з партыйна-класавых пазіцый непрымальная. Аднак у адным з аўтарамі ліста можна пагадзіцца. Сапраўды, Слуцкае паўстанне 1920 г. было змаганнем «за незалежнасць Беларусі, за інтарэсы сялян» і таму было антыбальшавіцкім і антысавецкім, што азначала — за БНР.

Увогуле ліст членаў так званага аб'яднання «Гістарычныя веды» напісаны са старых, адкінутых жыццём пазіцый і з'яўляецца спробай нязначнай групы гісторыкаў старэйшага ўзросту навязаць, карыстаючыся палітычнай сітуацыяй, свае погляды ўсім гісторыкам і павярнуць развіццё гістарычнай навукі назад, у мінулае. Калі ж гаварыць пра іх пазіцыю, то сутнасць яе ў тым, што яна — антынацыянальная і антыбеларуская.

Што можна дадаць да гэтых слоў масцітага вучонага? Хіба толькі тое, што наўрад ці можа гісторык быць праўдзівым і будаваць, ствараць нацыю, калі ён займае антынацыянальную пазіцыю.

**Анатоль ВЯРЦІНСКІ.**

# Пастанова Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

## Аб адкрыцці другой сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь трынаццатага склікання

У адпаведнасці з артыкулам 61 Закона Рэспублікі Беларусь «Аб Вярхоўным Савеце Рэспублікі Беларусь» Прэзідыум Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

1. Другую сесію Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь трынаццатага склікання адкрыць 2 верасня 1996 года ў 16 гадзін.

2. Пагадзіцца з пералікам пытанняў, унесеных камісіямі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь на разгляд другой сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь трынаццатага склікання (прыкладаецца).

3. Камісіям Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь забяспечыць падрыхтоўку законапраектаў для разгляду Вярхоўным Савета Рэспублікі Беларусь.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С.ШАРЭЦКІ**

23 ліпеня 1996 г., г.Мінск. № 495-XIII

*Дадатак*

## ПЕРАЛІК

### пытанняў для ўключэння ў парадак дня другой сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь трынаццатага склікання

**ВЕРАСЕНЬ**

1. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб іміграцыі» (першае чытанне).
*Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па міжнародных справах*

2. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб парадку адклікання дэпутата Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь і дэпутата мясцовага Савета дэпутатаў Рэспублікі Беларусь» (першае чытанне).
*Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па дзяржаўнаму будаўніцтву і мясцоваму самакіраванню*

3. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь «Аб статусе дэпутата Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь».
*Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па дзяржаўнаму будаўніцтву і мясцоваму самакіраванню*

4. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб ахове атмасфернага паветра» (першае чытанне).
*Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па экалогіі і прыродакарыстанню*

5. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб ахове і выкарыстанні жывёльнага свету» (другое чытанне).
*Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па экалогіі і прыродакарыстанню*

6. Праект Ляснога кодэкса Рэспублікі Беларусь (другое чытанне).
*Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па экалогіі і прыродакарыстанню*

7. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб нарматыўна-прававых актах Рэспублікі Беларусь» (першае чытанне).
*Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па заканадаўству*

8. Аб праекце Кодэкса Рэспублікі Беларусь аб адміністрацыйных правапарушэннях (першае чытанне).
*Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па заканадаўству*

9. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб музеях і Музейным фондзе Рэспублікі Беларусь» (другое чытанне).
*Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па адукацыі, навуцы і культуры*

10. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь «Аб Узброеных Сілах Рэспублікі Беларусь».
*Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па нацыянальнай бяспецы, абароне і барацьбе са злачыннасцю*

11. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь «Аб абароне».
*Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па нацыянальнай бяспецы, абароне і барацьбе са злачыннасцю*

12. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь «Аб статусе ваеннаслужачых».
*Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па нацыянальнай бяспецы, абароне і барацьбе са злачыннасцю*

13. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь «Аб пенсіённым забеспячэнні ваеннаслужачых, асоб начальніцкага і радавога складу органаў унутраных спраў».
*Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па нацыянальнай бяспецы, абароне і барацьбе са злачыннасцю*

14. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб спрошчанай сістэме падаткаабкладання, уліку і справаздачнасці для суб'ектаў малога прадпрымальніцтва» (першае чытанне).
*Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па эканамічнай палітыцы і рэформах*

15. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб банкруцтве» (другое чытанне).
*Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па эканамічнай палітыцы і рэформах*

16. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб санацыі» (другое чытанне).
*Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па эканамічнай палітыцы і рэформах*

17. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб кіраўніку ў працэдуры банкруцтва» (другое чытанне).
*Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па эканамічнай палітыцы і рэформах*

18. Аб праекце «Правіл этыкі дэпутата Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь» (першае чытанне).
*Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па рэгламенту, мандатах і дэпутацкай этыцы*

19. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб камісіях Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь» (першае чытанне).
*Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па дзяржаўнаму будаўніцтву і мясцоваму самакіраванню*

20. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь «Аб Нацыянальным банку Рэспублікі Беларусь».
*Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па бюджэту, падатках, банках і фінансах*

21. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь «Аб бюджэтнай сістэме Рэспублікі Беларусь».
*Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па бюджэту, падатках, банках і фінансах*

22. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь «Аб унутраным дзяржаўным доўгу Рэспублікі Беларусь».
*Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па бюджэту, падатках, банках і фінансах*

23. Аб праекце Пастановы Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь «Аб інфармацыі Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь аб выкананні рэспубліканскага бюджэту за першае паўгоддзе 1996 года».
*Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па бюджэту, падатках, банках і фінансах*

24. Аб праекце Пастановы Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь «Аб выніках работы Часовай камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па расследаванню падзей, якія мелі месца падчас і пасля 26 красавіка і 30 мая 1996 года ў г.Мінску».
*Часовая камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па расследаванню падзей, якія мелі месца падчас і пасля 26 красавіка і 30 мая 1996 года ў г.Мінску*

25. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб навуковай дзейнасці» (вернуты Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь для паўторнага абмеркавання і галасавання).
*Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па адукацыі, навуцы і культуры*

26. Справаздачы Генеральнага пракурора Рэспублікі Беларусь Капітана В.С., міністра ўнутраных спраў Агальца В.С., старшыні Камітэта дзяржаўнай бяспекі Рэспублікі Беларусь Мацкевіча У.А. аб выніках праведзеных службовых расследаванняў і прынятых мерах па забеспячэнню выканання заканадаўства ў рабоце праваахоўных органаў.
*Часовая камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па расследаванню факта затрымання праваахоўнымі органамі дэпутата Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Знаўца П.К.*

27. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь «Аб падатках і зборах, якія ўносяцца ў бюджэт Рэспублікі Беларусь».
*Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па бюджэту, падатках, банках і фінансах*

28. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь «Аб падатковай інспекцыі Рэспублікі Беларусь».
*Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па бюджэту, падатках, банках і фінансах*

29. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь «Аб народным галасаванні (рэферэндуме) у Рэспубліцы Беларусь».
*Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па правах чалавека, нацыянальных пытаннях, сродках масавай інфармацыі, сувязях з грамадскімі аб'яднаннямі і рэлігійнымі арганізацыямі*

30. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб Цэнтральнай камісіі Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзенню рэспубліканскіх рэферэндумаў» (першае чытанне).
*Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па дзяржаўнаму будаўніцтву і мясцоваму самакіраванню*

31. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Крымінальны і Крымінальна-працэсуальны кодэксы Рэспублікі Беларусь».
*Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па бюджэту, падатках, банках і фінансах*

32. Справаздача старшыні праўлення Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь Віннікавай Т.Д. аб ходзе рэалізацыі «Асноўных напрамкаў грашова-крэдытнай палітыкі Рэспублікі Беларусь на 1996 год».
*Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па бюджэту, падатках, банках і фінансах*

**КАСТРЫЧНІК**

1. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб унясенні змяненняў у Закон Рэспублікі Беларусь «Аб калектыўных дагаворах і пагадненнях».
*Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па сацыяльнай палітыцы і працы*

2. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб унясенні змяненняў у Закон Рэспублікі Беларусь «Аб парадку вырашэння калектыўных працоўных спрэчак (канфліктаў)».
*Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па сацыяльнай палітыцы і працы*

3. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб унясенні змяненняў у Кодэкс законаў аб працы Рэспублікі Беларусь».
*Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па сацыяльнай палітыцы і працы*

4. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб унясенні змяненняў у Закон Рэспублікі Беларусь «Аб індэксацыі даходаў насельніцтва з улікам інфляцыі».
*Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па сацыяльнай палітыцы і працы*

5. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Мытны кодэкс Рэспублікі Беларусь».
*Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па міжнародных справах*

6. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь «Аб мытным тарыфе».
*Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па міжнародных справах*

7. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у некаторыя заканадаўчыя акты Рэспублікі Беларусь» (у сувязі са змяненнем Мытнага кодэкса і Закона «Аб мытным тарыфе»).
*Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па міжнародных справах*

8. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб натарыяце» (першае чытанне).
*Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па заканадаўству*

9. Праект Паветранага кодэкса Рэспублікі Беларусь.
*Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па прамысловасці, транспарту, будаўніцтву, энергетыцы, гандлю і іншых паслугах насельніцтву, сувязі і інфарматыцы*

10. Праект Жыллёвага кодэкса Рэспублікі Беларусь.
*Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па прамысловасці, транспарту, будаўніцтву, энергетыцы, гандлю і іншых паслугах насельніцтву, сувязі і інфарматыцы*

11. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб творчых саюзах» (першае чытанне).
*Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па адукацыі, навуцы і культуры*

12. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб насенні» (першае чытанне).
*Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па аграрных пытаннях і сацыяльнаму развіццю сяла*

13. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб унясенні змяненняў у Закон Рэспублікі Беларусь «Аб сацыяльнай абароне грамадзян, якія пацярпелі ад аварыі на Чарнобыльскай АЭС».
*Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па праблемах чарнобыльскай катастрофы*

14. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб спрошчанай сістэме падаткаабкладання, уліку і справаздачнасці для суб'ектаў малога прадпрымальніцтва» (другое чытанне).
*Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па эканамічнай палітыцы і рэформах*

15. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб стварэнні новых рабочых месцаў і падтрымцы вытворча-гаспадарчай актыўнасці насельніцтва» (другое чытанне).
*Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па эканамічнай палітыцы і рэформах*

16. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь «Аб супрацьдзеянні манапалістычнай дзейнасці і развіцці канкурэнцыі».
*Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па эканамічнай палітыцы і рэформах*

17. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб дзяржаўнай бяспецы» (першае чытанне).
*Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па нацыянальнай бяспецы, абароне і барацьбе са злачыннасцю*

18. Аб праекце Пастановы Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь «Аб зацвярджэнні колькасці ўнутраных войскаў Міністэрства ўнутраных спраў Рэспублікі Беларусь».
*Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па нацыянальнай бяспецы, абароне і барацьбе са злачыннасцю*

19. Аб праекце рэгламенту Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.
*Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па рэгламенту, мандатах і дэпутацкай этыцы*

20. Аб праекце Пастановы Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь «Палажэнне аб Пастаяннай камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па рэгламенту, мандатах і дэпутацкай этыцы».
*Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па рэгламенту, мандатах і дэпутацкай этыцы*

21. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб праве грамадзян Рэспублікі Беларусь на свабоду перамяшчэння і выбар месца жыхарства ў межах Рэспублікі Беларусь» (першае чытанне).
*Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па правах чалавека, нацыянальных пытаннях, сродках масавай інфармацыі, сувязях з грамадскімі аб'яднаннямі і рэлігійнымі арганізацыямі*

22. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб дзяржаўнай статыстыцы» (першае чытанне).
*Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па бюджэту, падатках, банках і фінансах*

23. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб абавязковым страхаванні грамадзянскай адказнасці ўладальнікаў аўтатранспартных сродкаў» (другое чытанне).
*Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па бюджэту, падатках, банках і фінансах*

24. Аб праекце Пастановы Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Статут Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь».
*Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па бюджэту, падатках, банках і фінансах*

25. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь «Аб замежных інвестыцыях на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь».
*Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па міжнародных справах*

26. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб тэлебачанні і радыёвяшчанні» (першае чытанне).
*Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па правах чалавека, нацыянальных пытаннях, сродках масавай інфармацыі, сувязях з грамадскімі аб'яднаннямі і рэлігійнымі арганізацыямі*

27. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб пакрыцці грамадзянам Рэспублікі Беларусь страт ад абясцэнення ўкладаў у Ашчадным банку Рэспублікі Беларусь».
*Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па бюджэту, падатках, банках і фінансах*

**ЛІСТАПАД**

1. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб аплаце працы ў вышэйшых дзяржаўных органах» (другое чытанне).
*Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па сацыяльнай палітыцы і працы*

2. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб унясенні змяненняў у Закон Рэспублікі Беларусь «Аб пенсіённым забеспячэнні».
*Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па заканадаўству*

3. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб унясенні змяненняў у Закон Рэспублікі Беларусь «Аб агульных пачатках дзяржаўнай маладзёжнай палітыкі».
*Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па сацыяльнай палітыцы і працы*

4. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь «Аб міжнародных дагаворах Рэспублікі Беларусь».
*Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па міжнародных справах*

5. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб лекавым забеспячэнні насельніцтва Рэспублікі Беларусь» (першае чытанне).
*Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па ахове здароўя, фізічнай культуры і спорту*

6. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб судовых прыставах і судовых выканаўцах» (першае чытанне).
*Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па заканадаўству*

7. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь «Аб прадпрыемствах у Рэспубліцы Беларусь».
*Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па прамысловасці, транспарту, будаўніцтву, энергетыцы, гандлю і іншых паслугах насельніцтву, сувязі і інфарматыцы*

8. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь «Аб адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь».
*Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па адукацыі, навуцы і культуры*

9. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб адаптацыі сельскагаспадарчых прадпрыемстваў Рэспублікі Беларусь да рыначных умоў» (першае чытанне).
*Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па аграрных пытаннях і сацыяльнаму развіццю сяла*

10. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб радыяцыйнай бяспецы» (другое чытанне).
*Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па праблемах чарнобыльскай катастрофы*

11. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб ацэначнай дзейнасці ў Рэспубліцы Беларусь» (першае чытанне).
*Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па эканамічнай палітыцы і рэформах*

12. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб прадпрыемствах, якія не маюць на мэце атрыманне прыбытку» (першае чытанне).
*Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па эканамічнай палітыцы і рэформах*

13. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб рэкламе» (другое чытанне).
*Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па эканамічнай палітыцы і рэформах*

14. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь «Аб акцыянерных таварыствах, таварыствах з абмежаванай адказнасцю, таварыствах з дадатковай адказнасцю».
*Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па эканамічнай палітыцы і рэформах*

15. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь «Аб міліцыі».
*Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па нацыянальнай бяспецы, абароне і барацьбе са злачыннасцю*

16. Аб праекце Пастановы Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь «Аб зацвярджэнні Ваеннай дактрыны Рэспублікі Беларусь».
*Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па нацыянальнай бяспецы, абароне і барацьбе са злачыннасцю*

17. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь «Аб мясцовым кіраванні і самакіраванні ў Рэспубліцы Беларусь».
*Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па дзяржаўнаму будаўніцтву і мясцоваму самакіраванню*

18. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб адміністрацыйна-тэрытарыяльным уладкаванні Рэспублікі Беларусь» (першае чытанне).
*Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па дзяржаўнаму будаўніцтву і мясцоваму самакіраванню*

19. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб Дзяржаўным бюджэце Рэспублікі Беларусь на 1997 год».
*Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па бюджэту, падатках, банках і фінансах*

20. Аб праекце Пастановы Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь «Аб зацвярджэнні справаздачы аб выкананні рэспубліканскага бюджэту за 1995 год».
*Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па бюджэту, падатках, банках і фінансах*

21. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб валютным рэгуляванні і валютным кантролі» (другое чытанне).
*Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па бюджэту, падатках, банках і фінансах*

**СНЕЖАНЬ**

1. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб унясенні змяненняў у Закон Рэспублікі Беларусь «Аб занятасці насельніцтва Рэспублікі Беларусь».
*Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па сацыяльнай палітыцы і працы*

2. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб турызме» (першае чытанне).
*Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па ахове здароўя, фізічнай культуры і спорту*

3. Аб праекце Пастановы Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь «Аб зацвярджэнні меж Нацыянальнага парку «Браслаўскія азёры».
*Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па экалогіі і прыродакарыстанню*

4. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб ахове атмасфернага паветра» (другое чытанне).
*Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па экалогіі і прыродакарыстанню*

5. Праект Крымінальна-выканаўчага кодэкса Рэспублікі Беларусь (першае чытанне).
*Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па заканадаўству*

6. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб асновах транспартнай дзейнасці» (першае чытанне).
*Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па прамысловасці, транспарту, будаўніцтву, энергетыцы, гандлю і іншых паслугах насельніцтву, сувязі і інфарматыцы*

7. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб унясенні змяненняў у Закон Рэспублікі Беларусь «Аб асновах дзяржаўнай навукова-тэхнічнай палітыкі» (першае чытанне).
*Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па адукацыі, навуцы і культуры*

8. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб нядобрасумленнай канкурэнцыі» (першае чытанне).
*Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па эканамічнай палітыцы і рэформах*

9. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь «Аб уласнасці ў Рэспубліцы Беларусь».
*Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па эканамічнай палітыцы і рэформах*

10. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь «Аб прадпрымальніцтве ў Рэспубліцы Беларусь».
*Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па эканамічнай палітыцы і рэформах*

11. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь «Аб арэндзе».
*Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па эканамічнай палітыцы і рэформах*

12. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у заканадаўчыя акты Рэспублікі Беларусь па пытаннях прыватызацыі».
*Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па эканамічнай палітыцы і рэформах*

13. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб гуманітарнай дапамозе» (другое чытанне).
*Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па праблемах чарнобыльскай катастрофы*

14. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь «Аб прававым рэжыме тэрыторый, якія падвергліся радыеактыўнаму забруджанню ў выніку катастрофы на Чарнобыльскай АЭС».
*Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па праблемах чарнобыльскай катастрофы*

15. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб статусе сталіцы Рэспублікі Беларусь» (другое чытанне).
*Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па дзяржаўнаму будаўніцтву і мясцоваму самакіраванню*

16. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб свабодных эканамічных зонах» (другое чытанне).
*Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па міжнародных справах*

17. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб знешнеэканамічнай дзейнасці» (першае чытанне).
*Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па міжнародных справах*

18. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб экспартным кантролі» (першае чытанне).
*Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па міжнародных справах*

19. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб упаўнаважаным па правах чалавека ў Рэспубліцы Беларусь» (другое чытанне).
*Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па правах чалавека, нацыянальных пытаннях, сродках масавай інфармацыі, сувязях з грамадскімі аб'яднаннямі і рэлігійнымі арганізацыямі*

20. Праект Падатковага кодэкса Рэспублікі Беларусь (першае чытанне).
*Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па бюджэту, падатках, банках і фінансах*

21. Праект Банкаўскага кодэкса Рэспублікі Беларусь (першае чытанне).
*Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па бюджэту, падатках, банках і фінансах*

22. Аб ратыфікацыі міжнародных дагавораў Рэспублікі Беларусь.

23. Кадравыя пытанні.

24. Праекты законаў Рэспублікі Беларусь аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у некаторыя заканадаўчыя акты Рэспублікі Беларусь (суб'екты, якія валодаюць правам заканадаўчай ініцыятывы).

# МЫ, ДЗЕЦІ ALMA MATER...

**Нядаўна мне патэлефанавала далёкая сваячка з маленькага правінцыяльнага гарадка на Гомельшчыне. Голас яе звінеў ад шчасця: паспяхова здала экзамены і паступіла ў сталічны універсітэт на адзін з гуманітарных факультэтаў. Пасля бурнага выказвання яе ўражанняў, пасля маіх крыху менш бурных віншаванняў яна (дзіўная дзяўчына, заўжды «ашарашвае» мяне нечаканымі пытаннямі і сваёй незвычайнай цікаўнасцю да рэчаў, якія здаюцца надзвычай простымі і зразумелымі) спытала раптам: «А што гэта — быць студэнтам?» Канешне, можна было адказаць няпэўнай фразай, накшталт: «Сама хутка даведаешся». Але, па-першае, нашы з ёй адносіны заўсёды складваліся так, што на ўсе свае пытанні яна тут жа атрымлівала мае канкрэтныя адказы, а, па-другое... Божа, колькі раптам успамінаў, асацыяцый, «карцінак» — нібы асобныя выразаныя кадры з фільма, — нахлынула-накінулася на маю бедную, і без таго забітую патрэбным і не вельмі тлумам, галаву... Нешта сціснулася якраз там, у грудзях, дзе, па дзіцячых яшчэ ўяўленнях, — душа...**

*Каб даць сабе час упарадкаваць і «пасартаваць» сумбурныя асабістыя ўспаміны і назіранні і ведаючы, як дорага каштуюць «міжнародныя» хвіліны па тэлефоне (а калі б я пачала гаварыць — ніхто б ужо, напэўна, не спыніў), паабяцала адказаць на яе пытанне па пошце, у лісце. Пісала доўга, нешта адкідваючы, нешта напружана стараючыся прыгадаць... Калі ж, нарэшце, прачытала, што атрымалася, падумалася: сучасныя мемуары. Хаця... Мемуары, бадай, гучна сказана: не прыйшлося зазіраць за далягляд няўмольнага часу, ды і ўспаміны, як ні старалася — як тыя карцінкі з фільма...*

«...Вось я ўяўляю: ты зараз, пэўна, не можаш заснуць, наіўна-шчаслівая, узрушаная, падганяеш хвіліны, каб хутчэй прамільгнуў самы, бадай, няпэўны ў тваім жыцці жнівень, калі кожны дзень будзеш думаць, якім яно будзе, новае жыццё ў верасні, зусім не падобнае на тое, спакойна-школьнае, што было дагэтуль... А твае бацькі таксама не спяць, разважаюць аб тым, як гэта добра, што ты паступіла, і як гэта будзе няпроста — вывучыць студэнтку, калі настаўніца-маці зарабляе столькі, што ледзь хапае на прадукты ды на аплату камунальных паслуг, калі ваш маленькі рамонтны заводзік, на якім працуе бацька, стаіць ужо чацвёрты месяц, калі ў тваёй малодшай сястры, якую таксама трэба адправіць у школу, павылазілі пальцы з чаравікаў, купленых вясной, а сукенка, якую яна насіла летась, стала непрыстойна кароткай...

Не падганяй у радаснай бяссонніцы час: ён і так праляціць на дзіва хутка. Няхай супакояцца твае бацькі: студэнты — народ жывучы і вынаходлівы, таму, калі ў цябе ёсць хоць трохі спачування і шкадавання да іх — ім не прыйдзецца вылузвацца са скуры, каб цябе пракарміць...

Дзіўна, мінула пяць гадоў, а я, і зараз вельмі добра, яскрава помню, якая гэта вялізная радасць, ад якой ажно займае дух, — атрымаць у сярэдзіне жніўня выклік. Здавалася б, ужо даўно вядома, што ты, прайшоўшы па конкурсу, залічана. Але як затрапеча сэрца, калі будзеш трымаць у руках маленькую казённую паперку, самы дарагі для цябе дакумент, у якім раўнадушныя стандартныя літары паведамляюць, што ты — студэнтка. Ты схаваеш гэту паперку... (я нават ведаю куды — у чэрава вялікай акіянскай ракавіны, што стаіць у вас на кніжнай шафе, ты ў дзяцінстве запіхвала туды любімыя фанцікі ад цукерак) і будзеш па некалькі разоў на дзень даставаць яе адтуль, а ноччу, раптам прачнуўшыся, на пальчыках ісці ў вялікі пакой, каб яшчэ раз пры сляпым святле ліхтара ў акно глянуць на яе...

Калі ў гэтай маленькай паперцы будзе напісана, што табе прадастаўляецца інтэрнат, — лічы: пашанцавала. Хаця, я ведаю: будзе спрэчка да хрыпаты ў голасе з маці, якая будзе патрабаваць, каб ты жыла ў цёткі. Я ведаю: ты не згодзішся, бо не любіш быць ад некага залежнай. Маці, сутыкнуўшыся з тваёй упартасцю, саступіць: наняць кватэру, каб забяспечыць табе спакойнае (як хоча яна) і самастойнае (як хочаш ты) жыццё, — занадта вялікая «дзірка» для сямейнага бюджэту...

Маці, упэўнена, у сталіцу цябе не павязе: самой трэба ў школу. Таму і шукаць аўдыторыю, што ўказана ў выкліку як месца агульнага сходу, і засяляцца пасля ў інтэрнат будзеш адна, з зайздрослівай пагардай пазіраючы на некаторых сваіх аднакурснікаў, якія будуць сядзець у холе інтэрната на чамаданах і жаваць дамашнія бутэрброды, а іх матулі і татулі будуць стаяць у доўгай крыклівай чарзе на засяленне, абураючыся нахабствам гэткіх самых, як ты, адзіночак, і молячы Бога, каб ён бараніў іх дзяцей ад такога суседства...

Я з усмешкай уяўляю, як, зайшоўшы нарэшце ў інтэрнацкі пакой, ты сцішана стаіш на парозе, не ведаючы, куды прыткнуць цяжкую сумку, якая ўжо адрывае рукі, спалохана пазіраеш на жалезны вузенькі ложак, на якім табе цяпер давядзецца спаць, і шырока раскрытымі вачамі з жахам назіраеш, як па сцяне павольна, пагаспадарску паўзе нешта такое рудое, тоўстае з доўгімі вусамі. Табе патлумачаць больш дасведчаныя: звычайны прусак... Памятаю, калі мы начавалі ў інтэрнаце першую ноч, закладвалі вушы ватай, баючыся, што туды запаўзе гэта брыдота... Праз месяц ты ўжо будзеш ведаць, што гэтыя істоты не кусаюцца і ў вушы не запаўзаюць. Галоўнае — хаваць ад іх харч. У цэлафанавыя мяшкі ці слоікі. На вопыце ты ўпэўнішся, што атруціць іх немагчыма: з апетытам з'еўшы любую атруту, яны толькі больш тлусцеюць...

Калі цябе паселяць з такімі ж першакурсніцамі, вечарам пачнуцца «агледзіны». Спачатку прыйдзе якая-небудзь пяцікурсніца, сядзе на акно, закурыць і крытычным вокам акідваючы кожную з вас, будзе пасвячаць вас у таямніцы факультэцкага і інтэрнацкага жыцця. Яна, зацягваючыся цыгарэтай, спакойна будзе разважаць аб тым, што праз месяц вы замест акуратных дамашніх халацікаў апранеце спартыўныя касцюмы, праз паўгода паспрабуеце на смак цыгарэту і гарэлку... Вы будзеце спрачацца, што яна выдумвае. Дарэмна: у спартыўныя касцюмы вы пераапранецеся хутка, як толькі ў вокны пакоя падзьме кастрычніцкі вецер. Курыць і піць гарэлку ў інтэрнаце спрабуе бадай што кожны. Я сказала — спрабуе, ці працягваць — асабістая справа кожнага. У адрозненне ад «тусоўкі» падлеткаў, калі ты ў кампаніі будзеш адмаўляцца ад чаркі ці «пакурым», твой аўтарытэт сярод таварышаў зусім не знізіцца. Уласную цвёрдую пазіцыю, якая б яна ні была, студэнты паважаюць.

Я ведаю: табе абавязкова спадабаецца хтонебудзь з хлопцаў-старшакурснікаў, якія таксама прыйдуць «на агледзіны». Яны будуць спяваць пад гітару нячутыя табой дагэтуль песні, расказваць салёныя анекдоты і, паміж справай, кінуць: «А ці ёсць у вас чай і што-небудзь да чаю». Вы, наіўныя, павыцягваеце ўвесь харч, што паклалі вам клапатлівыя матулі...

Хлопцы будуць прыходзіць штовечар. Ты з захапленнем будзеш думаць, што той, хто табе падабаецца, прыходзіць іменна да цябе... Я не буду папярэджваць, што ён з сябрамі ходзіць да вас толькі паесці: ты ўсё роўна не паслухаеш. Ты ўпэўнішся ў гэтым сама, калі аднойчы, выйшаўшы з ліфта, убачыш, як твой абраннік цалуецца на падаконніку са сваёй аднакурсніцай. Упэўнена: з гэтага моманту «сталоўка» ў вашым пакоі закрыецца..

Не перажывай: у цябе яшчэ будзе сваё «інтэрнацкае» каханне. З агульнымі думкамі, пачуццямі, падручнікамі, канспектамі, агульнай смажанай бульбай на патэльні... Звычайна такое каханне хутка заканчваецца: часцей прыяцельскімі, спачатку крыху нацягнутымі, а потым сапраўды шчырымі адносінамі («нібы нічога і не было»), радзей — больш банальна: вяселле летам, жыццё ў сямейным інтэрнацкім пакоі, пастаянныя падлікі грошай... Не ведаю, як каму, мне асабіста больш даспадобы першы варыянт...

Стыпендыі табе хапаць не будзе ніколі. Ты ела калі-небудзь хлеб, паліты маянэзам? Ты скрывіла вусны? Дурніца, ты не ўяўляеш, якая гэта смаката. І танна, і сырдзіта. А яшчэ дамашняе сала... Так, так, бабуліна, якое заўжды ляжыць у вас у халадзільніку і якога ты нават не каштуеш...

Чаму я не пішу пра вучобу? Што ж... З першага дня ты будзеш чуць: «Ад сесіі да сесіі жывуць студэнты весела». Ці трэба кіравацца гэтай ісцінай — залежыць зноў жа толькі ад цябе. Ты можаш днямі праседжваць у бібліятэцы (праўда, сумняваюся, што табе гэта спадабаецца), адказваць на кожным семінары, атрымліваць адзнакі «аўтаматам», не здаючы экзамена. Але хутчэй за ўсё ты будзеш вучыць толькі апошнія суткі перад іспытамі, нахлёбаўшыся ранкам пазычанай у «багатых» суседзяў, зваранай з дапамогай кіпяцільніка, кавы, ісці на факультэт, цягнуць білет, адказваць... На «выдатна»... Ці на «дрэнна»... Экзамен, як і ўсё жыццё, латарэя. Вечная і праверана шматлікімі пакаленнямі ісціна. Як пашанцуе...

За пяць гадоў ты палюбіш горад. І апошняй восенню ты будзеш блукаць па замеценых лісцем сцежках у тваім любімым скверы, з сумам глядзець на мутную ваду Свіслачы, успамінаючы, раптоўна неяк згадваючы, што ўжо мінула пяць гадоў, што гэта ты, іменна ты сядзела ўчора на акне ў пакоі першакурсніц, курыла (а можа і не) і расказвала ім сакрэты інтэрната і факультэта, а яны, у чысценькіх дамашніх халаціках са спалоханым захапленнем цябе слухалі. А вечарам ты будзеш браць гітару і спяваць тыя песні, якія калісьці спяваў той, забыты ўжо, з недасягальнага мінулага, пяцікурснік...

Дзяржэкзамены, дыплом... Яны не такія страшныя, як здаваліся ўсе пяць гадоў. І гэта зусім не нешта грандыёзнае, ад чаго перавернецца ўсё жыццё. Проста звычайнае лагічнае завяршэнне адрэзку жыцця даўжынёю ў пяць гадоў... Усё ў гэтым свеце калі-небудзь прыходзіць да завяршэння.

І будзе апошняя ноч у інтэрнаце. Ты будзеш старацца жартаваць, ці можна загадаць суджанага, калі апошні раз спіш на месцы, а ў горле нешта будзе пяршыць, і вочы будуць па-здрадніцку вільготныя. А назаўтра ты прыйдзеш у інтэрнат забраць сякія-такія рэчы, што засталіся, і дзед на вахце, які ўчора яшчэ прыветліва гаварыў з табой, афіцыйна, нібы не пазнаючы, скажа: «Вашы дакументы...» І толькі тады ўжо не толькі ў розуме тваім, але і ў падсвядомасці замацуецца думка: «Ну, вось і ўсё...»

А пасля... Але ты ж пыталася: «Што такое быць студэнтам?» Значыць, гэта ўжо зусім іншая гісторыя... А пакуль — жыві і радуйся жыццю...»

*Гэты ліст дагэтуль ляжыць у мяне на стале непасланы. Я не ведаю: ці пасылаць яго адрасату наогул. Зрэшты, шкоды ён не наробіць ніякай. Карысці, пэўна, таксама не прынясе. Проста занадта вялікі адказ на вельмі вялікае пытанне... А як яно будзе — гэта зусім не ад яго залежыць...*

**Алена ЛЯЎКОВІЧ.**

СЕМ ЧЫСТЫХ

# ПЁТР ЧААДАЕЎ. «АПАЛОГІЯ ВАР'ЯТА»

Вядомы нямецкі філосаф Шэлінг лічыў Чаадаева «самым разумным з вядомых яму розумаў». Адзін са знаёмых пісаў Чаадаеву: «Вялікі немец вамі трызніць, ловіць усюды рускіх і прагна аб вас распытвае».

Не так даўно я перачытваў выбранае з Чаадаева. Калі б не вытанчаная мова мінулага стагоддзя, не ўсе гэтыя старамодныя абароты, то падумаў бы: гэта дакладна пра нас. Уласна, тое ж кола праблем, тая ж ідэйная накіраванасць, тое, аб чым мы і зараз так горача спрачаемся. 140 гадоў прайшло з моманту смерці філосафа, а ён усё актуальны. Як быццам час спыніўся. А потым аднавіў свой бег, як бы паказваючы: вось, нічога адкрываць не трэба, быў Чаадаеў, вам толькі неабходна пра гэта нагадаць.

* * *

Ніякіх зачэпак у яго біяграфіі знайсці немагчыма. Нарадзіўся 27 мая 1794 года ў дваранскай сям'і. Даволі рана застаўся без бацькоў, выхоўвалі родзічы з боку маці, дачкі гісторыка і публіцыста XVIII стагоддзя М. М. Шчарбатава. Вось толькі занятак дзеда нешта тлумачыць, напрыклад, схільнасць унука да інтэлектуальнай дзейнасці.

Некалькі гадоў вучыўся ў Маскоўскім універсітэце, потым уступіў у гвардыю, прымаў удзел у вайне з Напалеонам. Гераічны арэол, выдатная адукацыя дазволілі хутка рухацца па службовай лесвіцы. Раптам — рэзкая змена дэкарацый, поўная адмова ад кар'еры, затым збліжэнне з дзекабрыстамі, адыход ад іх па ідэйных прычынах.

Многія даследчыкі сыходзяцца ў той думцы, што філосафа ў Чаадаеве абудзіла трохгадовае падарожжа па Еўропе. Еўропа зламала яго сістэму поглядаў і прымусіла па-новаму асэнсаваць гісторыю Расіі і яе месца ў свеце.

Потым было некалькі гадоў адзінокіх роздумаў і, як вынік, першае «Філасафічнае пісьмо», надрукаванае ў «Тэлескопе» ў 1836 годзе.

* * *

«... тусклое и мрачное существование, лишенное силы и энергии, которое ничто не оживляло, кроме злодеяний, ничто не смягчало, кроме рабства. Ни пленительных воспоминаний, ни грациозных образов в памяти народа, ни мощных поучений в его предании. Мы живем одним настоящим, в самых тесных его пределах, без прошедшего и будущего, среди мертвого застоя». (Прашу прабачэння, але мне падалося адзіна правільным захаваць мову арыгінала.)

Нават сёння гэта гучыць крыўдна. Можна ўявіць, як гэта гучала тады.

Перш за ўсё абурылася грамадства. Менавіта грамадства, бо факт, што студэнты Маскоўскага універсітэта(!) з'явіліся да яго апекуна і старшыні маскоўскага цэнзурнага камітэта графа Строганава і заявілі, што гатовы са зброяй у руках заступіцца за пакрыўджаную Расію. Ні больш, ні менш.

Улады дзейнічалі даволі арыгінальна: Чаадаева афіцыйна аб'явілі вар'ятам. Так што прыярытэт у адкрыцці метаду карнай псіхіятрыі належыць не савецкім медыкам, а імператару Мікалаю I, з падачы якога ўсё і было зроблена. Па сутнасці да самай смерці Чаадаеў пражыў




пустэльнікам у сваім маскоўскім доме.

Што ж, гэта нам блізка і добра знаёма. Чалавек, які мае сваё меркаванне, заўсёды быў, ёсць і пакуль што будзе на падазрэнні. Цікава, што гэта датычыць не толькі ўлады, тое ж самае адбываецца ў асяроддзі так званага простага народа.

«То, что у других народов только привычка, инстинкт, то нам приходится вдалбливать в свои головы ударами молота. Наши воспоминания не идут далее вчерашнего дня; мы как бы чужие для себя самих. Мы так удивительно шествуем во времени, что по мере движения вперед пережитое пропадает для нас безвозвратно...»

Я магу дапусціць, што Зянон Пазняк у нечым памыляецца, штосьці не ўлічвае, чагосьці проста не разумее ці не жадае разумець. Гэта нармальна. Я не магу зразумець шчыры беларускі народ, які з такім захапленнем Пазняка ненавідзіць. Словы — яшчэ не дзеянні, намеры — яшчэ не ўчынак. Тут Чаадаевым пахне.

* * *

Мяне вельмі лёгка могуць запісаць у русафілы. Альбо ў нацыянал-радыкалы. Як гаворыцца, што каму бліжэй.

Русафілам могуць зрабіць таму, што я прыязна стаўлюся да Чаадаева, які пісаў: «...польская республика в пору наивысшего своего могущества была государством, состоявшим из нескольких народностей, из них русские в областях, носивших название Белоруссии, Малороссии, составляли главную часть».

Беларусь, звярніце ўвагу, названа вобласцю, якую насялялі рускія. Для нашых нацыяналістаў, безумоўна, гэта вялікая крыўда.

А нацыянал-радыкалам аб'яўяць, калі я скажу, што пры ўсім сваім розуме, шырыні поглядаў Чаадаеў быў прадуктам сваёй эпохі і сваёй краіны. Ён, скажам, лічыў, што малы народ, ці, як ён казаў, народнасць, у складзе вялікага народа зможа атрымаць новы імпульс для развіцця. Імпульс, вядома, мы атрымалі, але катэгорыя «беларускі народ» зараз уяўляецца вельмі туманнай.

«...русские области отделились от республики (Польшчы. — С. Ш.) и соединились с семьей славянских народов, которая приняла название Всеросийской Империи». Як бачым, і гэта актуальна зараз. Праўда, раней беларускія славяне чамусьці не рваліся ў адзіную сям'ю. Зараз карціна зусім іншая.

«Чтобы заставить себя заметить, нам пришлось растянуться от Берингова пролива до Одера...» Гэта таксама Чаадаеў. І тут ён супярэчыць сам сабе. З аднаго боку, разумее небяспеку імперскай каланіяльнай палітыкі, з другога — вітае яе.

Але яму можна дараваць. Ён мог не ведаць, што ў сярэднявеччы менавіта маскоўскія цары знішчылі 2/3 насельніцтва Беларусі, яшчэ нейкую частку насельніцтва, у асноўным кваліфікаваных рамеснікаў, вывезлі. Мог не разумець, што калі б рускія князі пайшлі на саюз з Вялікім княствам Літоўскім, а не знішчалі адзін аднаго ў міжусобіцах з дапамогай татараў, то апошніх даўно б выгналі. Мог высакамерна не браць пад увагу тое, што ВКЛ была нармальнай еўрапейскай дзяржавай з высокім (значна вышэйшым, чым у Маскоўскага царства) узроўнем развіцця.

Але гэтага не ведае большая частка сучасных беларусаў, калі іх можна так назваць. Гэта — даравальна? Даравальна, што і ведаць гэтага яны не хочуць?

«Народы — в такой же мере существа нравственные, как и отдельные личности. Их воспитывают века, как отдельных людей воспитывают годы. Но мы, можно сказать, некоторым образом — народ исключительный. Мы принадлежим к числу тех наций, которые как бы не входят в состав человечества, а существуют лишь для того, чтобы дать миру какой-нибудь важный урок...» Чаадаеў пісаў гэта, зразумела, пра расіян. Аднак што перашкаджае нам перанесці ацэнку філосафа на нас саміх? Два стагоддзі ў складзе імперыі не прайшлі дарэмна...

* * *

Калі ўважліва чытаць Чаадаева, старонка за старонкай, у храналагічнай паслядоўнасці, узнікае ўражанне, што пісалі ўсё гэта два чалавекі. У «Філасафічных пісьмах» — ён прыхільнік Еўропы, нічога «грациозного» ў гісторыі Расіі не знаходзіць.

«Апалогія вар'ята» — вяртанне «да родных дамавін».

«Там неоднократно наблюдалось: едва появится на свет Божий новая идея, тотчас все узкие эгоизмы, все ребяческие тщеславия, вся упрямая партийность, которые копошатся на поверхности общества, набрасываются на нее, овладевают ею, выворачивают ее наизнанку, искажают ее, и минуту спустя, размельченная всеми этими факторами, она уносится в те отвлеченные сферы, где исчезает всякая бесплодная пыль», — так Чаадаеў пісаў пра Еўропу ў «Апалогіі».

Да чаго, да якой ступені ўсё паўтараецца... Праз 140 гадоў мы праходзім чаадаеўскім шляхам, строга дакладна, ні на крок не адступаючы.

Спачатку было нястрымнае пакланенне Захаду, потым — такое ж катэгарычнае непрыманне яго. Нас кідае з боку ў бок і мы не памятаем, што гаварылі ўчора. І не ведаем, што скажам заўтра. І ці скажам увогуле што-небудзь.

Праўда, у Чаадаева супярэчлівасць была арганічнай рысай. Як гаворыцца, заўсёды думаць аднолькава можа толькі дурань. Чаадаеў, у гэтым уся справа, шукаў не праўду, але ісціну. Рэчы, пагадзіцеся, розныя. «Если мы и не всегда были одного мнения о некоторых вещах, мы, может быть, со временем увидим, что разница в наших взглядах была не так глубока, как мы думали. Я любил мою страну по-своему, вот и все, и прослыть за ненавистника Росии было мне тяжелее, нежели я могу вам выразить...»

А што шукаем мы? Ці шукаем увогуле? Ва ўсякім разе, не ісціну. Праўда наша маленькая і да болю прымітыўная: быць сытым і апранутым. У прынцыпе, гэта дастойная ідэя. Але толькі на сённяшні дзень. Я ніколькі не сумняваюся, што калі вельмі захацець, то будзе і ежа, і вопратка, і ўсё астатняе. Скажам так, задача тактычная. Стратэгі з нас дрэнныя.

Магчыма, справа ў разарванасці — паміж Усходам і Захадам — нашай свядомасці? Не ведаю. Ва ўсякім разе, паўтарыць услед за Пушкіным і Чаадаевым: «Россия никогда не имела ничего общего с остальною Европой, история её требует другой мысли, другой формулы» — я не магу.

А можа справа ў тым, што за два стагоддзі мы страцілі свае галоўныя рысы як нацыя і сапраўды амаль поўнасцю асіміляваліся ў суседнім народзе? І тады можна словы Чаадаева аднесці і да нас, і для нас яны будуць справядлівымі: «К тому же в русском народе есть что-то неотвратимо ненарушимое, безнадежно неподвижное, а именно — его полное равнодушие к природе той власти, которая им управляет. Ни один народ мира не понял лучше нас текст Писания: «Нести власти аще не от Бога». Установленная власть для нас священна. Как известно, основой нашего социального строя служит семья, поэтому русский народ ничего другого никогда и не способен усматривать во власти, кроме родительского авторитета, применяемого с большей или меньшей суровостью, и только...» Прашу прабачэння за такую доўгую цытату, але мне здаецца, тут ёсць пажытак для роздуму. Проста азірніцеся вакол, угледзьцеся ў сённяшняе наша жыццё.

* * *

Некалі Чаадаеў рытарычна пытаў: «Где наши мудрецы? Где наши мыслители?» Прайшло не так шмат часу, з'явілася вялікая руская літаратура, з'явіліся мудрацы. Што было потым? Разанаў памёр галоднай смерцю ў 1919 годзе, Фларэнскі трапіў на Салаўкі, астатніх на чале з Бярдзяевым параходам адправілі ў Еўропу. Расіі мудрацы непатрэбны.

Горкая роля — прадказаць усё гэта за сотню гадоў. Расія дала свету ўрок, як не трэба. І, напэўна, дзесяткі мільёнаў загінуўшых у ходзе ўрока не могуць служыць апраўданнем «асаблівасці шляху».

Вось цікавая думка: калі б не катастрофа 1917 года, то руская культура абвергла б выказванні Чаадаева. А так — не паспрачаешся. Ісціна — за ім.

**Сяргей ШАЎЦОЎ.**

# У ПЯТРА БЫЎ САБАКА...

## або Як цяжарная сучка пакусала цяжарную жанчыну і які гэта мела працяг

**ВІДАВОЧНА, няма такога чалавека, на якога калі-небудзь не гаўкнуў бы сабака. І, вядома ж, нягледзячы на тое, што ў кожнага з нас яшчэ змалку ў падсвядомасці назаўсёды адклалася ісціна «сабака — сябар чалавека», апошні пры гэтым гаўканні марыць аб адным, каб той ваўкадаў ростам з цяля ці моська ростам з кацяня не ўчапіўся табе ў лыткі. Непрыемна, балюча, ды яшчэ сорак уколаў могуць пекануць дактары ў адно далікатнае месца, калі, крый Божа, той сябар чалавека па нейкай прычыне ашалеў: ці то ад паўнаты радасных пачуццяў да яго гаспадара, ці то ад катастрафічнай няхваткі іх.**

Як бы там ні было, але гамяльчанка Валянціна (сапраўдныя прозвішчы людзей мы не ўказваем у артыкуле з-за пікантнасці сітуацыі) ні аб чым гэтым не думала па той прычыне, што ёй было добра. У беспрацоўных не ходзіць, а на рабоце нават выдзелілі пуцёўку ў санаторый-прафілакторый. Вось яна і адпачывае тут, папраўляе сваё здароўечка. Хмары яе жыцця, здаецца, ужо рассеяліся, зніклі: яна стала забываць нелады са сваім былым мужам, якія прывялі да скасавання шлюбу. А на гарызонце разгаралася надзея на сямейнае шчасце: яна сустрэла мужчыну, да якога ў яе ўспыхнулі светлыя пачуцці і ад якога яна стала цяжарнай. Усё ішло да таго, што яны праз нейкі час павінны былі наведаць ЗАГС. З якой мэтай — тлумачыць не трэба.

З такімі вось думкамі перад вячэрай у санаторнай сталоўцы Валянціна павольна рухалася па спартыўнай пляцоўцы стадыёна. А якраз у гэты час тут выгульваў сваю любіміцу Крысці адзін начальнік сярэдніх маштабаў Пятро (назавём яго так). Ён толькі што вярнуўся з жонкай з дачы, куды Крысці дарога была заказана: таптаць грады — гэта нібы нож у сэрца.

А трэба сказаць, што Пятрова сучка была, як кажуць, шык-мадэрн: заморскай пароды (рызеншнаўцэр), чорная, нібы смоль, стройная, гонкая, разумная. Месяца паўтара назад яна прайшла ў гарадскім клубе службовага сабакаводства навучанне па агульнаму курсу паслушэнства і паспяхова здала іспыты і, як адзначана ў адпаведнай даведцы клуба, па характару «была спакойная, ураўнаважаная і па тыпу вышэйшай нервовай дзейнасці з'яўлялася сангвінікам».

Крысці, заўважыўшы непадалёку здаравенную аўчарку, ірванула да яе. Воля вольная, адным словам, ні павадка, ні намордніка. Паназіраў трохі за сабакамі Пятро і вырашыў: у кампаніі ім весялей, няхай дурэюць.

Напэўна, нічога дрэннага і не здарылася б, калі б побач не праходзіла Валянціна. Яны, склаўшы вушы, ашчэрыўшы пашчы і разрываючы вячэрнюю цішыню грозным брэхам, куляй панесліся на Валянціну, распаляючы ў сабе спрадвечны інстынкт паляўнічага-забойцы. Жанчына нема закрычала і ад страху кінулася наўцёкі. І тут, падаючы ад моцнага ўдару сабачых лап, яна адчула востры боль у спіне, у раён пазванка якой упіліся вострыя зубы.

Яна чула, як нешта крыкнуў Пятро, бачыла, як ён падбег да месца здарэння, адагнаў сабак, дапамог ёй падняцца. Жанчына ўся дрыжала, нібы ў ліхаманцы, плакала і ад страху і ад болю. Пятро, як мог, пачаў супакойваць яе. Хвалявацца няма прычын, трывогі вашы беспадстаўныя, казаў ён, бо сучка не шалёная. Рана пабаліць трохі — давядзецца пацярпець. А што датычыць раскалашмачанага світэра, дык не бяда: урон кампенсуем. Праз слёзы Валянціна папрасіла гаспадара Крысціны прадаставіць ёй даведку, што ў сучкі няма шаленства, каб не ісці на ўколы ці не рабіць адпаведныя прышчэпкі.

Пятро яшчэ раз папрасіў прабачэння ў пацярпеўшай і паабяцаў прынесці тую даведку заўтра ў вызначанае месца. Аднак туды ён не прыйшоў, і Валянціна, баючыся за сябе, звярнулася да ўрачоў бальніцы хуткай медыцынскай дапамогі. Там, вядома ж, параілі ўзяць даведку, таму што без яе неабходна праходзіць курс спецлячэння. Жанчына пачала шукаць гаспадара чорнай сучкі, якая ўкусіла яе. Знайшла. Аднак атрымала ад варот паварот. Ад ранейшай вінаватасці Пятра і яго абяцанняў не засталося і следу. Больш таго, ён заявіў наступнае: Крысці яе не кусала, а таму да яго, Пятра, ніякіх прэтэнзій быць не можа. Вось так.

Справа набывала ўжо зусім іншы характар, і жанчына, якая перанесла моцнае нервовае ўзрушэнне ад нападу сабак і трывогі за сваё здароўе і здароўе будучага дзіцяці, падала заяву ў міліцыю. Там пачалі выяўляць абставіны справы.

Пятро адразу ж заняў наступную пазіцыю: чаму Валянціна чапляецца да яго? Прычым тут Крысці, калі да жанчыны несліся трое сабак і Крысці бегла апошняй? Ён, Пятро, падаў каманду, і сучка спынілася за тры метры ад Валянціны. А яе, відаць, пакусаў дварняк. Ды ніякага дварняка не было, сцвярджалі Валянціна і двое жанчын-сведак, якія таксама адпачывалі ў санаторыі-прафілакторыі і бачылі гэтую дзікую сцэну. Быў, стаяў на сваім Пятро. Так, я дапамог Валянціне і ніякіх абяцанняў ёй не даваў, бо не магу несці адказнасць за чужых сабак, іх дурныя паводзіны.

Валянціна тым часам траціла дні водпуску без утрымання зарплаты на лячэнне, знаходзячыся пад пільным назіраннем медыкаў, і калі закончыла яго, задумалася: як быць? Нервовае напружанне, страх, уколы могуць (а такое апасенне выказалі і ўрачы) самым негатыўным чынам паўплываць на плод, і, крый Божа, народзіцца якая-небудзь пачвара: такія выпадкі ў медыцынскай практыцы мелі месца. Адным словам, сумненні так грызлі яе душу, такі пасеялі разнабой, што яна не спала начамі. І ў рэшце рэшт рашылася на аборт. Гэты яе ўчынак, як выявілася пазней, выклікаў самы сумны вынік. Любімы мужчына Валянціны, з якім яна спадзявалася звязаць свой далейшы лёс, расцаніў яго наступным чынам. Значыць, шаленства ўсё ж мае месца, і хто яго ведае, як яно скажацца ў далейшым. А калі раптам шаленства тое... перакінецца на яе? Карацей кажучы, ён даў ад сваёй любімай жанчыны цягу.

А Валянціна звярнулася пасля ўсёй гэтай калатнечы ў суд з просьбай спагнаць з гаспадара сучкі кампенсацыю за нанесены ёй маральны і матэрыяльны ўрон. Ведалі б вы, паважаныя чытачы, як выкручваўся на судовых працэсах Пятро! Ігнаруючы рашэнне органаў улады аб тым, што выгул сабак без павадкоў і наморднікаў забаронены, ён імкнуўся даказаць, што стадыён не з'яўляецца грамадскім месцам па той прычыне, што ён рэканструюецца і тут робяць выгул сваіх чатырохногіх сяброў таксама без павадкоў і наморднікаў многія іншыя сабакаводы. Па-другое, дварняк — прычына ўсіх бед. Ён зрабіў напад на Валянціну, таму і ўкус такі нязначны — лёгкія цялесныя пашкоджанні, як значыцца ў даведцы ўрача. А калі б цяпнула Крысці, было б не такое. Яна б вырвала са спіны Валянціны кавалак мяса, бо жым сківіц рызеншнаўцэраў дасягае дзесяці атмасфер і драпінамі і сінякамі, як у Валянціны, тут не абышлося б. Па-трэцяе, сведкі не маглі бачыць ад турнікоў, дзе яны знаходзіліся, як усё было на самай справе.

Дзеля справядлівасці зазначым, што суд ва ўсім разабраўся і вынес такое рашэнне: спагнаць з Пятра на карысць пацярпеўшай звыш шасці мільёнаў рублёў, з чым той катэгарычна не пагадзіўся і падаў касацыйную скаргу ў абласны суд. Але там падтрымалі рашэнне раённага суда, і Пятро павінен будзе раскашэліцца за нетактоўныя паводзіны сваёй элегантнай разумніцы Крысці.

На гэтым і можна было б паставіць кропку, калі б многіх нашых суайчыннікаў не турбавалі шматлікія «сабачыя» пытанні. У нашай газеце яны ўжо ўзнімаліся, таму не будзем паўтарацца, а спынімся толькі на некаторых.

Выйдзіце на двары гарадскіх шматпавярховікаў. Яны да таго забруджаны, напрыклад, у Гомелі, сабачымі нечыстотамі, што там гуляць дзецям небяспечна. І паглядзіце, як у заходніх краінах. Там гаспадар сабакі ў час яго выгулу носіць з сабой пэўныя прадметы, каб не пакідаць нечыстоты на вуліцы, бо ў адваротным выпадку яго чакае сур'ёзнае пакаранне. А праезд у гарадскім транспарце? Так, сабакі там на павадках, але без намордпікаў. Мо таму, што прайшлі курс паслушэнства? І згодна з навукай не могуць траўміраваць чалавека? Лухта ўсё гэта. Бо нават чалавек на ўсе сто працэнтаў не можа прадказаць свае паводзіны ў залежнасці ад той ці іншай сітуацыі, а тут — звер. У Гомелі ў бальніцы вунь і зараз ляжыць мужык, якому яго любімы сабака зубамі ўчапіўся ў падбародак і моцна пакусаў.

Адным словам, сабачыя пытанні можа ўтрасці толькі чалавек. І шкада, што да канца ён гэтага так і не зрабіў.

**Уладзімір ПЕРНІКАЎ.**



Малюнак Леаніда РАЗЛАДАВА.

# БЕЛЫ БІМ БЕЗ ЧОРНАГА ВУХА

**ВЯДОМА, усім нам не раз даводзілася бачыць брудных бяздомных сабак і катоў. Не ведаю, як вам, а мне чамусьці заўсёды здавалася, што ў вачах у такіх чатырохногіх дрыжыць гаручая сляза-крывінка. Іх лісlівы пагляд заўсёды здаецца нямым дакорам свету людзей, якія пакінулі сваіх меншых братоў на волю лёсу: пад масты і ў падвалы, на сметнікі і ў трушчобы. Адным словам — на пагібель. Так, як глядзяць бяздомныя жывёлы, глядзяць толькі дзеці ды сляпыя. Абпальваючы вачыма, быццам кіпенем. Аж да пазногцяў ток прабягае...**

Аднак далёка не ўсіх апаноўваюць такія пачуцці — многія могуць і піхнуць бруднага сабаку ці ката, бляшанку да хваста прывязаць. Нядаўна ўразіў выпадак, калі школьнікі катоў распіналі і скідвалі з верхніх паверхаў шматпавярховых будынкаў. Такія вось «юннаты»! Ну, а хто больш хітры, той ведае просты і дзейсны спосаб пазбавіць родны двор ад сабачак — трэба проста набраць нумар... дыспетчара роднага ЖЭСа. І паскардзіцца на нязручнасці, якія прыносяць бадзяжныя чатырохногія. Вынік атрымаецца імгненны прыедуць змрочныя мужыкі, разгорнуць вялізныя сачкі і пачнуць адлоўліваць гаротнікаў.

Дзейнасць канторы адлову (афіцыйна яна называецца САГ — спецаўтагаспадарка па ачыстцы горада) пакрыта цемрай таямнічасці і жудасці. Дзецюкі-сагаўцы ўяўляюць сабой нейкую караючую руку, якая пазбаўляе Мінск ад рассаднікаў хваробатворных бактэрый. Часам, праўда, трапляюць туды і сабачкі з ашыйнікамі. З-за аднаго такога (мяркуючы па расказах супрацоўнікаў спецаўтагаспадаркі, гэта быў дог) зараз у пункце прыёму бадзяжных жывёл пануе цішыня — шарыкаў і палканаў проста не трымаюць ні дня! «Як так, чаму не трымаюць?» — магчыма, спытаецца цікаўны чытач. Ды ўсё з-за памянёнага вышэй дога, якога выкралі, зламаўшы клетку. І тады доблесныя сагаўцы вырашылі адлоўленых жывёл не пакідаць на ноч без нагляду. «Паклапаціліся!» З усімі прывезенымі чатырохногімі разбіраюцца на працягу дня.

Супрацоўнікі спецаўтагаспадаркі па ачыстцы горада маюць усе атрыбуты канцылярскай установы. Папершае, працоўны дзень — з 9.00 да 17.00 (я бяру ў якасці прыкладу сярэдні час. М. Л.), з абавязковым абедзенным перапынкам з 13.00 да 14.00. Хоць я наогул есці б не стаў пасля такой «працы».

Знаёмыя, якія згубілі сабаку, дзяліліся сваімі ўражаннямі ад наведвання пункта прыёму сагаўцаў, адзначыўшы плямы крыві на рукавах і грудзях уніформаў. Так што — каму бруд, а каму і кроў! Ну і трэцяе, відаць, самае галоўнае — мэта працы. У сагаўцаў яна гучыць прыкладна так: як мага хутчэй адлавіць і ліквідаваць рассаднік хваробатворнага ўздзеяння з боку чатырохногіх. Калі ў пераліку ўсіх атрыбутаў установы заводзіцца план, то тут ужо, браткі, нічога не папішаш — трэба выконваць. І выконваюць! Наколькі мне стала вядома ад кампетэнтных асоб, вышэйпамянёная заяўка ЖЭСа зусім не такая ўжо фікцыя, ды і грамадзян, якія любяць ананімныя званкі і скаргі, не так ужо шмат. А план мае здольнасць «гарэць». Вось і абавязваюць жыллёвыя канторы штотыдзень дасылаць заяўкі ў спецаўтагаспадарку. Ствараецца, як мы бачым, непарушная звязка «ЖЭС—САГ». Цэлая сістэма! Бедныя шарыкі нават і не падазраюць аб тым, якая планамерная работа вядзецца па іх выжыванню, каб прывесці горад у санітарна-бездакорны выгляд. Разавы выезд сагаўцаў каштаваў у кастрычніку мінулага года 38 тысяч «зайчыкаў». Зараз, відаць, даражэй — дзесьці ў межах ста тысяч. Так што місія іх не такая бескарыслівая. Пры адлове самае галоўнае— спрыт, вопыт таксама не пашкодзіць. Ёсць свае «спяцы», якія могуць голымі рукамі заваліць нават сенбернара. І гэта зусім не выдумка. Сагаўцы — дужыя хлопцы, прывучаныя штодзённымі рэйдамі да самых розных сітуацый.

Многія называюць іх проста жывадзёрамі, не здагадваючыся, зразумела, пра тое, што работа спецаўтагаспадаркі мае моцную заканадаўчую базу. Самы характэрны і найбольш поўны фундамент гэтай базы — рашэнне Мінгарвыканкома № 254 ад 13 верасня 1990 года «Аб мерах па прафілактыцы мікраспарыі і шаленства і правілах утрымання хатніх жывёл у горадзе Мінску», дзе агаворваюцца ўмовы ўтрымання хатніх жывёл. Напрыклад, усе «ўладальнікі жывёл абавязаны: рэгістраваць іх на працягу 5 дзён з дня набыцця ў жыллёва-камунальных органах, якія бяруць кватрплату: ЖЭСах, ЖКК, ЖКО, ЖЭУ, ЖСК, ведамасных домакіраўніцтвах і г. д. Абавязковай рэгістрацыі падлягаюць сабакі ўсіх парод (выключаючы службовых) ва ўзросце 2 месяцаў і старэй» (п. 3.1). Калі вы набылі якую-небудзь жывёліну, то абавязаны ў пяцідзённы тэрмін паведаміць у сваю жыллёвую кантору. «Выводзіць сабак (акрамя катоў) у месцы агульнага карыстання неабходна на ланцугу, у намордніку і з нумарным знакам на ашыйніку» (п. 3.3). «Выгульваць сваіх гадаванцаў дазваляецца толькі ў месцах, адведзеных для гэтых мэтаў выканкомамі райсаветаў народных дэпутатаў з 7 да 23 гадзін. Уладальнікам жывёл забараняецца прыводзіць іх у месцы адпачынку людзей» (п. 4.1). Калі ўчытваешся ў тэкст выканкомаўскага рашэння, ствараецца ўражанне, што сабакам і катам дазваляецца ўладамі жыць у глыбокім падполлі. Ну, з хатнімі яшчэ паўбяды — у іх ёсць гаспадары, якія, дарэчы, не вельмі і рвуцца рэгістраваць сваіх сабачак. Таму і прадпісваецца рашэннем выканкома № 675 ад 16 лістапада 1995 года «раённым жыллёвым рамонтна-эксплуатацыйным аб'яднанням сумесна з раённымі аддзеламі ўнутраных спраў праводзіць мэтавыя рэйды-праверкі з мэтай выкрыцця сабак, не зарэгістраваных у кватэрах жылых дамоў» (п. 3).

15 працэнтаў ад сумы збораў з уладальнікаў чатырохногіх пералічваецца спецаўтагаспадарцы па санітарнай уборцы г. Мінска на пакрыццё выдаткаў, звязаных з адловам бадзяжных жывёл (п. 2). У рашэнні 1990 года гаворыцца, што адлову падлягаюць «сабакі і каты, якія знаходзяцца без уладальнікаў у скверах, дварах, садах, парках, бульварах, рынках і месцах агульнага карыстання жылых дамоў» (п. 5). Такім чынам, дзякуючы рашэнням, прынятым Мінгарвыканкомам, мы з вамі дастаткова выразна прасачылі шляхі збліжэння двух непрымірымых аб'ектаў — САГ і бадзяжных ці, як іх называюць афіцыйна, безгаспадарных жывёл.

Набліжаецца крытая машына сагаўцаў — і ўсё ідзе сваім парадкам: сачкі, праследаванне, загрузка. Дзяўчынка, якая шукала свайго сабаку і дзяжурыла некалькі дзён каля пункта прыёму бадзяжных жывёл, расказвала, што сагаўцы часта прывозяць ужо мёртвых сабак.

Што ж датычыцца шаленства, то гэта на самай справе смяротна небяспечнае захворванне: спачатку на працягу 1-2 дзён развіваецца недамаганне, затым з'яўляецца больш у вобласці пакуса, страх. Асноўныя ж сімптомы — гідра- і аэрафобіі, г. зн. калі хворы не ў стане ні папіць, ні прайсціся па вуліцы, апасаючыся самага нязначнага ветрыка. На фоне гэтых сімптомаў развіваецца агульны параліч і чалавек памірае. Медыцына пакуль не ў стане штонебудзь зрабіць і прапануе толькі ўсім прафілактычныя прывіўкі. Таму што ўспрымальнасць да шаленства агульная. У Мінску, дзякуй Богу (прынамсі ў апошні час), не зарэгістравана выпадкаў захворвання. А вось у Смаргонскім раёне нядаўна памёрла жанчына. Справа абстаяла наступным чынам: з забітай лісы здымалі шкуру, звер быў носьбітам вірусу шаленства, а сімптомы праявіліся ў захварэўшай толькі праз паўгода. Як бачым, не толькі сабачкі апасныя ў гэтым плане. Але і яны таксама. Таму баяцца ўкусаў, вядома, трэба. Усё пытанне ў тым, хто кусае: безгаспадарныя ці адкормленыя, дагледжаныя хатнія. У Мінску за мінулы год колькасць пакусаных склала 3590 чалавек, з якіх 1512 — дзеці. За пяць месяцаў бягучага года лічба складае каля 1700 чалавек. А найбольшую «актыўнасць» праяўляюць сабакі ў Віцебскай і Магілёўскай вобласці — дзесьці каля дзвюх тысяч пакусаных. «Асноўная частка людзей (дзесьці каля 80%), звярнуўшыхся ў паліклінікі, пацярпелі ад укусаў хатніх жывёл», — лічыць урач-эпідэміёлаг Рэспубліканскага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі Юрый Пятровіч Буланаў. Ён таксама паведаміў аб адноснай бяскрыўднасці затраўленых бадзяжных сабак. Хоць поўнай упэўненасці ў іх бяскрыўднасці быць, вядома, не можа. Асабліва апасныя зграі безгаспадарчых асобін зімою, калі іх выганяюць з падвалаў і гарышчаў на вуліцу. Я, канешне, не спрачаюся, што з імі неабходна змагацца. Але змагацца так, каб не адчуваць сябе (ды і грамадства ў цэлым) забойцамі нявінных жывёл не адчуваць залітага слязьмі пагляду людзей, якія згубілі, дзякуючы спецаўтагаспадарцы, сваіх любімцаў. Ва ўсім свеце існуюць больш гуманныя метады барацьбы з бадзяжнымі сабакамі і катамі (такія, напрыклад, як арганізацыя пітомнікаў, ці ліквідацыя праз увядзенне ўколаў).

Будзем спадзявацца, што закрыццё Старажоўкі не стане ракавой рысай у адносінах уладаў да братоў нашых меншых. І перанос пункта прыёма бадзяжных жывёл зменіць не толькі знешнія, але і ўнутраныя рысы стаўшай для многіх сімвалам чэрствасці і раўнадушша спецаўтагаспадаркі па санітарнай уборцы.

Будзем дабрэйшымі, бо мы ж людзі, спадары!

**Мікалай ЛІТВІНАЎ.**


**— Раю пастрыгчыся, а то заграбуць на шапку...**

*«Крокодил».*

# НАДЗЁННАЕ

**МІКАЛАЙ ВЫШЫНСКІ:**

## «У адрозненне ад многіх камерцыйных ВНУ Вышэйшы каледж сувязі рыхтуе спецыялістаў не толькі на блізкае заўтра, але і на будучыню...»

***Р**АЗМОВА нашага карэспандэнта з прарэктарам па вучэбнай рабоце Вышэйшага каледжа сувязі Міністэрства сувязі і інфарматыкі Рэспублікі Беларусь Мікалаем Уладзіміравічам Вышынскім супала з «гарачым сезонам» для абітурыентаў: з 1 жніўня пачалася здача ўступных экзаменаў.*

**— Мікалай Уладзіміравіч, перш чым весці размову пра тое, хто, якія спецыялісты выходзяць са сцен каледжа, усё ж хацелася б даведацца, адкуль узялася ваша ўстанова? Раней, прызнацца, ведаў і чуў хіба што толькі пра Мінскі электратэхнікум сувязі...**

— У свой час існавала тры розныя навучальныя ўстановы — Мінскі электратэхнікум сувязі, тэхнікум у Віцебску ды Усесаюзны завочны інстытут сувязі (пазней — філіял Ленінградскага электратэхнічнага інстытута). З развалам Саюза ў нашай краіне разумна вырашылі не раскідвацца набыткамі, а сабраць у адно цэлае існуючыя навучальныя ўстановы. У выніку і ўтварылася новая ВНУ. Дарэчы, тут не трэба атаясамліваць каледж з тэхнікумам. Установы вышэйшай адукацыі маюць некалькі ступеней: акадэмія, універсітэт, інстытут, вышэйшы коледж.

**— І каго ж рыхтуюць у вашых сценах?**

— У Мінску працуе факультэт сярадняй спецыяльнай адукацыі. Два асноўныя накірункі падрыхтоўкі спецыялістаў — тэлекамунікацыйныя сістэмы (спецыялізацыі ж наступныя — аўтаматычныя сістэмы камутацыі, шматканальныя сістэмы тэлекамунікацый, радыёсувязь, радыёвяшчанне і тэлебачанне. Кваліфікацыя — тэхнік па тэлекамунікацыях) і паштовая сувязь (кваліфікацыя — тэхнік паштовай сувязі). У Віцебскім філіяле Вышэйшага каледжа сувязі акрамя згаданых ёсць яшчэ і бухгалтарскі ўлік, аналіз і аўдыт (кваліфікацыя — бухгалтар).

**— А што датычыць вышэйшай адукацыі...**

— Такі факультэт знаходзіцца ў Мінску, дзе вядзецца падрыхтоўка спецыялістаў па тэлекамунікацыйных сістэмах і паштовай сувязі. Але ж кваліфікацыя гэтым разам іншая — інжынер па тэлекамунікацыях і інжынер сувязі. Акрамя таго ёсць кафедра эканомікі і кіравання (яе выпускнікі атрымліваюць спецыяльнасці інжынера-эканаміста і менеджэра). Навучанне на кафедры скіравана на працу ў галіне сувязі.

**— Відавочна, што і на ваш каледж паўплывалі змены ў грамадстве. Сёння ж, мусіць, няма ніводнай камерцыйнай ВНУ, каледжа, дзе б не рыхтавалі бухгалтараў, эканамістаў, менеджэраў, а то яшчэ — менеджэраў-перакладчыкаў у адначассе...**

— Канешне ж, перамены падштурхнулі нас да рэфарміравання такім вось чынам. Але не блытайце Вышэйшы каледж сувязі з недзяржаўнымі навучальнымі ўстановамі. У адрозненне ад многіх камерцыйных ВНУ наш Вышэйшы каледж сувязі не толькі ўяўляе, але і прагназіруе рынак працы, разлічвае падрыхтоўку спецыялістаў не толькі на блізкае заўтра, але і на будучыню. На нас час паўплываў у іншым. Здарылася так, асабліва пры падзеле сувязі на электрычную і паштовую, што ў галіне не хапае высокаадукаваных спецыялістаў. Мы ж для пошты, у прыватнасці, ніколі не рыхтавалі інжынераў. А зараз патрэбны і інжынеры, і выключна паштовыя кіраўнікі самых розных звенняў.

**— Звычайна аб'яднанне ў межах коледжа прадугледжвае нейкую пэўную цэласнасць. У вас жа нават розныя ўзроўні адукацыі...**

— Вы глыбока памыляецеся, мяркуючы, што колішнія тэхнікумы, ранейшы завочны інстытут раз'яднаны паміж сабою. Цэласнасць праяўляецца нават у пераемнасці адукацыі. На факультэце вышэйшай адукацыі з адрывам ад вытворчасці тэрмін навучання роўны 3 гадам 2 месяцам (паштовая сувязь — 2 гады 10 месяцаў). Не спяшайцеся сцвярджаць, што, маўляў, гэта не інстытуцкі тэрмін. На факультэт вышэйшай адукацыі паступаюць тыя, хто мае адпаведную сярэднюю спецыяльную адукацыю.

Адбор праводзіцца па выніках папярэдняй вучобы і выпускных экзаменаў. Да таго ж важную ролю адыгрывае зладжанасць навучальных праграм. Многія элементы закладваюцца ўжо ў сістэме сярэдняй спецыяльнай адукацыі. Дарэчы, у нас ёсць дамова і з Беларускім дзяржаўным універсітэтам інфарматыкі і радыёэлектронікі, што пры ўмове паспяховай здачы выпускных экзаменаў навучэнцы факультэта сярэдняй спецыяльнай адукацыі паступаюць да іх на адну са спецыяльнасцей. Сістэма пераемнасці заключаецца і вось яшчэ ў чым. У Вышэйшы каледж сувязі прыходзяць навучэнцы адпаведных нашаму профілю ПТВ.

**— Мікалай Уладзіміравіч, атрымліваецца, што так вось проста да вас, з вуліцы, скажам, зусім і не патрапіць?..**

— А з вуліцы, калі мець на ўвазе прыблізны выбар будучай прафесіі, у Вышэйшы каледж сувязі я асабіста нікому і не раю ісці. Жыццёвы шлях, спецыяльнасць трэба выбіраць мэтанакіравана і абгрунтавана. Не дзіўна, што шмат у нас вучыцца работнікаў галіны. Людзі ўжо працуюць, прафесіянальныя сакрэты вывучаюць на практыцы, тым не менш цягнуцца да ведаў. Болей таго — ёсць завочнікі, якія вучацца і на платнай аснове (сёння гэта прыблізна 1 мільён 800 тысяч рублёў за год вучобы).

Патрэбу ў адукаваных, граматных спецыялістах асэнсоўваюць і на месцах. Як прыклад — стварэнне ў шэрагу абласных цэнтраў курсаў (людзей вызваляюць ад працы, запрашаюць для іх выкладчыкаў) па падрыхтоўцы да паступлення ў Вышэйшы каледж сувязі. І гэта, падкрэсліваю, ініцыятыва не наша, а мясцовых упраўленняў сувязі.

**— Мікалай Уладзіміравіч, вы пераканаўча даказваеце, што сёння Вышэйшы каледж сувязі — асноўная навучальная ўстанова ў падрыхтоўцы спецыялістаў сувязі. Ніякія камерцыйныя ВНУ не дапамогуць напоўніць рынак працы ў гэтай сферы. Значыць, і дзяржава павінна на гэта адпаведным чынам рэагаваць...**

— На жаль, бюджэтных сродкаў нам хапае хіба што на зарплату і стыпендыю. Праўда, вялікую ўвагу каледжу надае Міністэрства сувязі і інфарматыкі. Вось зараз за грошы міністэрства абсталявалі сучасны камп'ютэрны клас. Шукаем іншыя крыніцы фінансавання.

**Гутарыў Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

# КРЫМІНАЛЬНАЯ РАСІЯ

***С** ПАЧАТКУ некалькі радкоў «чорнай інфармацыі»: сёння на кожныя 10 тысяч расіян прыпадае 75 крымінальных спраў. Амаль палова ўсіх выпадкаў злачыннасці — гэта крадзеж і рабаванне. За імі ідуць наркабізнес, замах на жыццё чалавека. Сярод расійскіх рэгіёнаў «пальма першынства» па колькасці зладзеяў, забойцаў, махінатараў, прайдзісветаў і іншых нячысцікаў належыць Маскве.*

*У сталічным выдавецтве «Цэнтрпаліграф» нядаўна выйшла кніжка маскоўскага журналіста Мікалая Мадэстава «Масква бандыцкая», якая расказвае аб глыбокіх каранях страшэннай сацыяльнай злыбяды — злачыннага нашэсця на масквічоў і ўсіх расіян. Прапаную ўвазе чытачоў урывак з гэтай кнігі ў маім перакладзе.*

***Леанід ФАДЗЕЕЎ.***

Неяк дэпутацыя найбольш магутных маскоўскіх аўтарытэтаў прыйшла да чачэнскіх лідэраў крыміналу. Пасля не вельмі дружалюбнай гаворкі і пагроз з абодвух бакоў слова ўзяў сціплы на выгляд каўказец, які нарадзіўся ў Грозным, а не так даўно абсталяваўся ў Маскве. Тут ён кантраляваў некалькі камерцыйных структур. Акінуўшы позіркам усіх гасцей, ён выняў з кішэні міні-камп'ютэр і прамовіў: «Вы, хлопцы, лічыце нас дзікунамі? А самі паглядзіце, як атрымліваеце «бабкі» — рэкетам «дахі» робіце, дань выбіваеце? Чым, апрача радыётэлефонам, карыстацца ўмееце? — каўказец зрабіў перапынак і раскрыў экран міні-камп'ютэра. — У мяне тут у памяці ёсць не толькі даныя пра вас, але і адрасы жонак, дзяцей, бацькоў, сяброў. Хай з намі што-небудзь здарыцца — мы адразу ўсіх знойдзем, шукаць далёка няма патрэбы. А ў вас што-небудзь падобнае ёсць, паедзеце ў Чачню помсціць?» Пасля гэтага парахманелыя госці паціху пачалі разыходзіцца.

Таму чакаць гангстэрскіх войнаў, выкліканых нацыянальна-патрыятычнымі прычынамі, як мне здаецца, не прыйдзецца.

Сярод аўтарытэтных зладзеяў найбольшая колькасць, вядома, прадстаўнікоў старэйшага пакалення. Шакро-старэйшы (Шакро Какачыя), Хасан Усаян, Савоська (Уладзімір Савоськін), Дато Ташкенцкі (Даціко Цыхелашвілі), Вахо (Вахтанг Чачанідзе) — кожнаму з іх за пяцьдзесят, а некаторым і больш, за плячыма самыя ліхія гады, якія нібы капітал забяспечылі ім сувязі, матэрыяльны дабрабыт. Яны не бываюць героямі аператыўных зводак міліцыі, але займаюць асобнае месца ў іерархіі ценявога свету.

Рэдкая сходка абыходзіцца без іх удзелу — «карануюць» новых саўдзельнікаў, вырашаюць спрэчкі. Шакро-старэйшы любіць бываць ва ўтульным рэстаране «Райскі куток» на вуліцы Куусінена. Паводле аператыўных даных, ён кантралюе Тушына і Шчукінскі рынак. Дзед Хасан — класічны злодзей у законе, якога ведае крымінальная эліта ўсіх пакаленняў, жыве ў гасцініцах, не любіць гастраляваць. Савоська таксама абыходзіцца кватэрай, якую здымае ў Маскве, любіць пасядзець у кафэ «Фіялка», што ў Сакольніках. Апошні раз яго «прымалі» ў 1993 годзе і знайшлі ў кішэнях гранату і пакет «наркаты»...

Дато Ташкенцкі за доўгае жыццё стаў сваім у турмах Масквы. І гасцініца «Масква» яму даспадобы прыйшлася, любіць смачна і многа паесці, пагуляць часам за мяжой. Мяне пераконвалі, што продкі Дато — грузінскія князі... Доўгі час жыў у Германіі Вахо, які захварэў на туберкулёз у гады бадзянняў па турмах. У Маскву яго моцна цягне: купіў вялікую кватэру на Цвятным бульвары і не губляе актыўнасці да гэтай пары. Шакро — малады прадстаўнік «новых» зладзеяў, па аналогіі — «новых рускіх» (што ў асобных выпадках не мае розніцы), актыўна займаецца бізнесам, у тым ліку банкаўскім і нафтавым, а ў аператыўнікаў, якія маюць уяўленне аб раскладзе крымінальных сіл, лічыцца даволі перспектыўнай фігурай.

Раменскі законнік Шышкан малады яшчэ і судзімасць мае не па зладзейству. Ён адбыў тэрмін за забойства. Дзесяць гадоў. Але, як растлумачылі пінкертоны абласнога РОУП, Шышкан узяў на сябе чужую віну, таму што яго саўдзельнікі былі старэйшыя і ім свяціла «вышка». Тэрмін «матаў» у Чыстопалі, дзе паказаў сябе з лепшага боку і перад адміністрацыяй, і перад братвой. «Парушэнняў не дапускаў, у агентурнай сувязі не ўдзельнічаў, ветлівы, спакойны» — такую характарыстыку атрымаў ён у аператыўным аддзеле турмы, дзе Шышкан быў другім чалавекам пасля Алега Асеціна. Пасля вяртання дадому




Шышкан умацаваў свой аўтарытэт і ў 1992 годзе па ініцыятыве Валерыя Глобуса атрымаў «хрышчэнне» як Алег Мардоўскі, або Алег Раменскі. Праўда, за ім так і дасталася мянушка Шышкан.

Асаблівай размовы заслугоўвае малады злодзей у законе Сібірак. Аб паходзе, арганізаваным ім у Бутырскую турму, што нарабіла шмат шуму ў Маскве, пісалася ўжо дастаткова. Сапраўды, ніхто з вядомых зараз законнікаў такім подзвігам пахваліцца не можа. Аднак у біяграфіі Сібірака нямала іншых цікавых фактаў.

Яго дзяцінства прайшло ў прыгарадзе Брацка. Пятае, малодшае дзіця ў сям'і, дзе не было бацькі, рана зразумела, што ў жыцці можа разлічваць толькі на свае сілы. У семнаццаць гадоў упершыню быў асуджаны за крадзеж, а калі праз год вызваліўся, ужо меў дзве судзімасці (залічылі першую, якую адтэрмінавалі з-за непаўналецця). У той жа год ён пахаваў маці і, спыніўшыся на нейкі час у цёткі, паехаў за грашыма ў Іркуцк.

У 19 гадоў ён заўсёды меў на кішэнныя расходы не адну тысячу (у 1988 годзе гэта былі немалыя грошы). Ён выдзеліўся ў лік іркуцкіх важакоў. Але сапраўдным лідэрам ён адчуў сябе ў 1989 годзе, калі пасля некаторых «гастрольных» паездак па расійскіх гарадах быў затрыманы ў Маскве адразу па чатырох злачынствах — крадзяжу, рабаванню, хуліганству і кіраванню аўтамабілем у нецвярозым стане. Яго пасадзілі ў Бутырку, дзе Сібірак практычна правёў увесь тэрмін — амаль чатыры гады. Менавіта ў Бутырках ён стаў тым Сібіракам, аб якім да гэтай пары ўспамінаць турэмныя стражнікі.

У той перыяд у СІЗО знаходзіліся Завадскі, Мансур, іншыя аўтарытэты. Але Сібірак не згубіўся і, нягледзячы на сваю маладосць, трымаў турэмны «абщак». Злыя языкі сцвярджаюць, што менавіта ён быў гаспадаром усіх карпусоў самага старога сталічнага засценка. У любы час сутак спакойна разгульваў па ўсёй тэрыторыі, хадзіў у дамашняй вопратцы, харчаваўся толькі з базара, прычым яду яму прыносілі па асабістым спісе. У камеры, апрача камп'ютэраў, мужчынскіх часопісаў, стосаў карт, наймодных гарнітураў «ад Версачэ» за паўтары тысячы долараў, вялізнага вентылятара (у турме, якую даўно не рамантавалі, застаялае паветра) і тэлевізара, Сібірак трымаў двух катоў. У звычайныя дні кацінае меню складаў канцэнтрат «Кіцікэт», у святочныя дні выхаванцы ласаваліся курацінкай. З персаналам турмы ў аўтарытэта склаліся таксама добрыя адносіны. «Кумы» заходзілі да яго не дзеля службовага шмону, а каб кульнуць па кілішку, адпачыць, пагаварыць з «разумным» чалавекам. Цікава, што калі Сяргей Сібірак вызваліўся са следчага ізалятара, сустракаць яго прыехала не толькі братва, але ўся не занятая службай змена Бутыркі.

Незвычайная слава Сібірака ў крымінальным свеце прымусіла міліцыю прымяніць надзвычайныя меры ў час апошняга арышту. Спачатку злодзея трымалі ў турме «Матроская цішыня», але потым у больш надзейным ізалятары ў Лефортаве. Паганец і там уладкаваўся нармальна, хаця і правёў аднойчы ў карцэры дзесяць сутак. Увесь час на допыты яго вадзілі ў наручніках.

Сваімі настаўнікамі Сібірак лічыць Завадскага, зладзеяў Ушатава, Шакро-старэйшага, сябруе са Славам Бакінскім. Ён не п'е гарэлкі, не ўжывае наркотыкі, не курыць і мае фенаменальнае здароўе (за адну ноч яго часам сустракаюць у пяці-шасці сталічных казіно)... Калі ўлічваць энергічнасць і растучую папулярнасць (ёсць інфармацыя, што да яго цягнуцца ізмайлаўскія, арэхаўскія і іншыя крымінальныя брыгады), Сяргей Сібірак зможа стаць у хуткім часе самым знакамітым злодзеем «славянскага» крыла ў крымінальным свеце Расіі. Яго «росту» спрыяе і тое, што пасля арыштаў Японца, Пашы Цыруля, смерці Атары Квантрышвілі і Сільвестра крымінальная братва згубіла ярка бачных сваіх лідэраў.

## Тэлебачэнне, 6 жніўня

### Беларускае тэлебачанне

**10.10** «Дамавік і гаспадыня», «У старой скрыні», «Маленькі цуд». Мультфільмы.
**10.50** «Рэкс — верны сябар паліцэйскага». 20-я серыя.
**11.45** «Гэта мы не праходзілі». Эканамічная праграма.
**12.00** Тураб'ектыў.
**12.20** Акалада. Музычная праграма.
**15.00** Навіны.
**15.15** «Фліпер». Тэлесерыял для дзяцей.
**15.40** «Прыгоды Мурзілкі», «Мурзілка на спадарожніку». Мультфільмы.
**16.20** «Мяшчэрская старонка». Дак. фільм.
**16.45** Творцы. Паэт Міхась Шэлехаў.
**17.20** Урокі Наталлі Наважылавай.
**17.50** Музычны антракт.
**18.00** «Начны Эрмітаж». Кінанарыс.
**18.15** «Будзьце здаровы».
**18.25** Эканамікст.
**18.35** «Тройчы па аднаму». Музычная перадача MTV.
**18.50** Навіны (з сурдаперакладам).
**19.00** Вертыкаль.
**19.30** Футбол. Кубак УЕФА. «Дынама» (Мінск) — «Бешыкташ» (Турцыя). У перапынку (20.15) — Калыханка.
**21.20** Панарама.
**22.05** Хроніка жніва-96.
**22.20** Яўген Сідзіхін і Яўген Міронаў у маст. фільме «Апошняя субота».
**23.35** Музычны салон Элеаноры Язерскай. «Джо Дасен — апошні рамантык французскай песні».
**0.05** Навіны.

### ГРТ

**8.00, 11.00, 14.00, 17.00, 22.30** Навіны.
**10.00** Смехапанарама.
**10.30** «Адгадай мелодыю».
**11.10** У эфіры тэлерадыёкампанія «Мір». «Мы і рынак».
**11.55** «Сакрэтны фарватэр». Серыял. 1-я серыя.
**13.00** Мультфільм.
**13.25** Каханне з першага погляду.
**14.20** «Рыцар Адважнае Сэрца».
**14.40** Квар'етэ «Вясёлая кампанія».
**14.50** Мульцітролія.
**15.10** Чароўны свет, ці Сінема.
**15.40** «Элен і хлопцы».
**16.05** ...Да шаснаццаці і старэй.
**16.30** «Вакол свету».
**17.20** «Новая ахвяра».
**18.10** Гадзіна пік.
**18.35** «Адгадай мелодыю».
**19.00** Тэма.
**19.45** Добрай ночы, малышы!
**20.00** Час.
**20.35** Праграма передач.
**20.40** Алег Відаў і Камакі Курыхара ў меладраме «Масква, каханне маё».
**22.30** Навіны.
**22.40** Музычная праграма «Па дарозе ў Галівуд».

### «Расія»

**7.00, 10.00, 16.00, 19.00, 22.00, 23.20** Весткі.
**16.20** Твар з вокладкі. Група «Іванушкі».
**16.35** Залежыць ад цябе.
**16.50** «Чэленджэрс». Серыял для падлеткаў.
**17.15** Тэлечасопіс «Здароўе».
**17.30** Свая гульня.
**17.55** Надзвычайны канал.
**18.25** Нічога акрамя...
**18.40** «Цёмная» для І. Рыбкіна.
**19.35** «Санта-Барбара».
**20.30** «Гарадок». Забаўляльная праграма.
**21.00** Надвор'е.
**21.05** «Капітал, ці Як зрабіць грошы ў Польшчы». Маст. фільм (Польшча).
**22.40** Подыум.
**23.10** Навінкі ад ТВ медыа.
**23.35** Музыка ўсіх пакаленняў.
**23.50** Начное жыццё гарадоў свету.

### Санкт-Пецярбург

**11.55, 12.55, 13.55, 14.55, 16.55, 18.55, 21.55** Інфарм ТБ.
**12.05** «Першае каханне». Серыял.
**13.10** Тэрмін адказу — сёння.
**13.40** Парады садаводам.
**14.05** Дэтэктыў. «Шпік» (Швецыя).
**15.05** «У лясным гушчары». Мультфільм.
**15.25** С. Радзівонаў. «Крымінальны талент». Тэлеспектакль. 2-я частка.
**16.40** Тэлеслужба бяспекі.
**17.05** «Фіалсофія па Філу». Серыял для падлеткаў.
**17.25** «Цікаўнае сланяня». Мультсерыял.
**17.35** Стыль жыцця.
**17.40** Паказвае Ленінградская АТК.
**18.40** Вялікі фестываль.
**19.15** Спорт.
**19.20** «Першае каханне». Серыял.
**20.10** «Таямнічая кніга перамен». Дак. фільм.
**20.40** Тэлеслужба бяспекі.
**20.55** Спартыўны агляд.
**21.05** Дэтэктыў «Шпік» (Швецыя).
**22.15** «Груз-300». Маст. фільм (Расія).

### НТБ

**6.00, 18.00, 21.00, 23.00** Сёння.
**11.25** Алімпійская гадзіна з Рускага дома.
**12.20** Маст. фільм «Заўтра 3 красавіка...»
**17.00** Дак. фільм «Дзікая прырода: барацьба за жыццё».
**17.30** Жаночыя гісторыі. «Каханне і нянавісць». 5-я серыя.
**18.35** Дак. фільм «Імкненне да нябёсаў: гісторыя авіяцыі».
**19.00** Маст. фільм «Хлопцы з каталіцкага каледжа» (ЗША).
**20.45** Доктар Вугал.
**21.35** Гадзіна серыяла. «Каханне блакітнае і ружовае» (ЗША). 1-я серыя.
**22.30** Часінка.
**23.20** Вялікі рынг.
**23.50** Меламанія: Джаан Баэз».

*СВЕТАГЛЯД*

# СУСТРАКАЙЦЕ: ЕДУЦЬ ЭГАІСТЫ!

**Маленькі чалавек у чорным ляжыць пад жалезнай аркай на вялізнай сцэне. Здаецца, у нейкай змушана-пакутлівай позе ён заснуў і ўжо нішто не здолее прымусіць яго прачнуцца. Але гучыць насцярожана-ўрачыстая музыка, і чалавек пачынае падымацца. Падымаецца напружана, робячы рэзкія рухі, нібы змагаючыся, скідваючы з сябе тое, што перашкаджае яму ўстаць, сутаргава зрывае з сябе паўпразрыстую павуціну, якая ахутвае яго. І калі, нарэшце, яму ўдаецца вырвацца і ўстаць на ногі, музыка з трывожнай становіцца вясёлай, а за спінай чалавека ў чорным з'яўляюцца прыгожыя дзяўчаты ў яркім адзенні...**

Так пачынаецца шоу-праграма Тэатра Моды Сашы Варламава. Чалавек у чорным — асоба, якая прачынаецца ў кожным, хто вырашае раптам скінуць з сябе павуцінне штодзённасці і агульнапрынятага стандарту. Нумар называецца «Нараджэнне эгаіста», а ўся шоу-праграма — «Бенефіс эгаістаў». Пастаноўшчык праграмы Саша Варламаў не лічыць гэту якасць чалавечай натуры заганнай, хутчэй — наадварот. Усе ўдзельнікі шоу — таксама.

## НАРАДЖЭННЕ ЭГАІСТАЎ

Хто ж яны такія, эгаісты, якія не саромеюцца называць сябе так? Імя кіраўніка Тэатра Моды Аляксандра Варламава вядома не толькі ў нашай краіне, але і за яе межамі. Ён галоўны рэжысёр Тэатра Моды ў далёкім Берліне, а ў Беларусі лічыцца вядучым стылістам. Кампазітар Сяргей Хвашчынскі доўгі час займаўся фальклорам, а цяпер піша песні для Тэатра Моды (некаторыя, заўважу, на словы самога кіраўніка). А выконваюць гэтыя песні (агульналюбімымі шлягерамі яны, бадай, не стануць, але як музычная аздоба шоу-праграмы гучаць нядрэнна) салістка Тэатра Моды Ірына Нікітчык, якая сваім сцэнічным імем абрала мужчынскае, праўда, на французскі манер — з націскам на апошнім складзе — Нікіта́, і небезвядомы Віталь Жукаў (ён жа Віталі Жукофф), які нядаўна вярнуўся з Парыжа і мабыць таму любіць, калі яго называюць шансанье (а калі прасцей, па-беларуску,— спявак)... Самыя «дзелавыя» эгаісты — фірмы, якія пастаўляюць тэатру касцюмы, касметыку, парфуму, дэкарацыі, дапамагаюць пераязджаць з усім гэтым з аднаго месца ў другое...

Самыя «рухавыя» з усёй кампаніі эгаістаў — танцор Аляксандр Савіцкі (той самы чалавек у чорным), які паспявае танцаваць і ў тэатры, і ў «Харошках», і шоу-балет пад кіраўніцтвам народнай артысткі Валянціны Гаявой (яны таксама з «Харошак»)... І, нарэшце, эгаісткі і эгаісты самыя прыгожыя (ужо без іх дакладна ніякай праграмы не было б) — мадэлі. Сярод іх «маленькія» мадэлі — невысокага росту, мініяцюрныя, падобныя на зграбных лялек дзяўчаты, подыумныя мадэлі — эфектныя прыгажуні, фігуры якіх найбольш адпавядаюць еўрапейскім стандартам, і «тоўсценькія» мадэлі (гэта іх так называюць спецыялісты-мадэльеры, а на самай справе дзяўчаты носяць 46-48 памеры), самыя любімыя гледачамі, бо адзенне, якое яны дэманструюць, пасля паказу могуць набыць многія аматаркі моды, балазе, памер падыходзіць... Ёсць сярод мадэляў і мужчыны, праўда, іх толькі трое, але, як кажуць, галоўнае — якасць. А якасць, на маю жаночую думку, прысутнічае...

Дык вось, усе гэтыя эгаісты, людзі, якія лічаць, што могуць і проста павінны сказаць сваё адметнае слова ў любімай справе, сабраліся разам і наладзілі свой бенефіс. Пад гэтай назвай яны аб'ядналі моду, тэатр, музыку. Гульня фарбаў, ліній, святла, сілуэтаў, вобразаў, гукаў і — што самое галоўнае — уяўлення гледача.

Чаму — галоўнае? Таму што глядач — не недзе там далёка, глядач — гэта мы з вамі, шаноўныя суайчыннікі. З 25 ліпеня Тэатр Моды Сашы Варламава са сваёй шоу-праграмай «Бенефіс эгаістаў» гастралюе па ўсёй Беларусі. У «малы круг гастроляў эгаісты ўключылі ці не ўсе населеныя пункты краіны, у якіх ёсць прыстойныя дамы культуры. Па правінцыі тэатр будзе гастраляваць да кастрычніка, а пасля адразу распачне «вялікі круг» выступленняў — у яго ўвойдуць абласныя цэнтры. Трэці круг пачнецца з Мінска перад Калядамі, а пасля «Бенефіс» паедзе ў Варшаву і іншыя суседнія сталіцы. Карацей, паглядзець шоу змогуць усе, хто не палянуецца і ў каго знойдуцца ў кішэні лішнія грошы (не такія ўжо і вялікія) — значыць, мяркую, многія. Таму не лішнім будзе расказаць пра праграму больш падрабязна.






## «БРЫЗ З ШАМПАНСКІМ»

Не трэба блытаць выступленне Тэатра Моды са звычайным паказам мадэляў. У апошнім выпадку прыгожыя жанчыны прыгожа і паважна ходзяць па подыуму, дэманструючы прыгожае адзенне. Здаецца, не больш таго... У «Бенефісе эгаістаў» подыум становіцца сцэнай, мадэлі — акцёрамі: на тое ён і тэатр. Яны павінны танцаваць, пераўвасабляцца то ў людзей, якія бесклапотна адпачываюць, то ў жыхароў вялікага горада, якія ўвесь час кудысьці спяшаюцца, то ў мітуслівых служачых вялікай канторы, бо ўсё шоу складаецца з невялікіх сцэнічных абразкоў і замалёвак.

Адзін блок паказу «... і карункі, што хвалююць кроў!!!» выклікаў бы ў занадта кансерватыўнага гледача абурэнне: дзяўчаты дэманструюць жаночую бялізну. Выклікаў бы, калі б... Калі б не тэатральная пастаноўка. Манекеншчыцы выходзяць то захінуўшыся ў вялізныя «цыганскія» хусткі, то ў тонкі, празрысты поліэтылен. І толькі нібы выпадкова выпушчаная з рук хустка ці ўяўны вецер, які быццам бы расхінае поліэтылен, дазваляюць убачыць тую самую бялізну. І прыгожа, і загадкава, і даволі сціпла...

## ... І УСЁ Ж ТАКІ — МОДА!

Але не трэба блытаць спектакль звычайнага тэатра з прадстаўленнем Тэатра Моды. У першым выпадку акцёры проста нешта іграюць, і гэта — адзінае і галоўнае. Галоўная мэта «Бенефіса эгаістаў» — паказаць праз тэатральную пастаноўку моду. Таму, паглядзеўшы праграму, аматары ісці з гэтай самай модай у нагу даведаюцца, што:

У наступным годзе будзе модным спалучэнне чырвонага, чорнага і белага колераў, але яны не цалкам выцесняць пастэльныя фарбы, якія былі «піскам» сёлета;

Не трэба баяцца ярка апранацца: «кіч» моды ў Еўропе — спалучэнне зялёнага, жоўтага, сіняга і чырвонага. Але калі пачуеце, што вас абазвалі папугаем, не ківайце на моду — вы ўсё-такі ў нечым «перабралі»;

Самыя модныя калготкі — каляровыя: усё тыя ж чырвоныя, сінія, зялёныя, зусім не празрыстыя, шчыльныя;

На летніх лёгкіх сукенках — і хатніх, і вячэрніх, і дзелавых, пераважаюць кветкі — ад дробных букецікаў да вялікіх яркіх ружаў і гваздзікоў. Сілуэт сукенак — свабодны, можа быць сабраны завязкамі ззаду. Даўжыня — ад прыстойна кароткай да «па пяты»...

А наогул — мода застаецца па-ранейшаму ліберальнай і можна проста кіравацца прынцыпам: апранай што заўгодна, калі табе гэта да твару.

***

А можа, усё-ткі дарэмна арганізатары і ўдзельнікі Тэатра Моды завуць сябе эгаістамі? Як ні круці, ёсць у гэтага слова і негатыўнае значэнне. А яны не толькі для сябе — для людзей працуюць.

**Алена ЛЯЎКОВІЧ.**

**На здымках:** момант з мініяцюры «Дарога на пляж»; спявае Нікіта.

(Кадры з генеральнай рэпетыцыі).

**Фота Яўгена ПЯСЕЦКАГА.**



# ШАХМАТЫ

**Пад рэдакцыяй майстра спорту Уладзіміра СЫЧОВА**

## ГАДАВЫ КОНКУРС СКЛАДАННЯ

### ЗАДАННЕ № 13

**Віктар ВАЎНЕЙКА *(Мінск)***



**Белыя:** Kpd7, Фg1, Cb8, п. d3 (4). **Чорныя**: Kpd5, пп: a2, c2 (3).

Мат за 2 хады.

### ЗАДАННЕ № 14

**Мікалай БЕЛЬЧЫКАЎ *(Барысаў)***



**Белыя:** Kpb7, Фg4, Лb4, Ле7, Cd6, Kd7, Ke8; пп: b3, b5, e3 (10). **Чорныя**: Kpd5, Фd3, Ла4, Cg2, Kb2, Kh8; пп: a7, f5, f6, g7 (10).

Мат за 2 хады.

## ЗАПРАШЭННЕ ДА КОНКУРСАЎ

Газета «Саратов» аб'явіла конкурс складання эцюдаў у гонар 50-годдзя А. Хаіта (ён жа — суддзя). Эцюды ў двух экземплярах дасылаць да 31.12.1996 г. на адрас: 410071, Саратов, Волжская, 28, рэдакция газеты «Саратов» з паметкай «Конкурс Хаит-50».

* * *

Часопіс «Смена» праводзіць конкурсы складання мініяцюр (#2, #3, #n) з прызавым фондам 1.500.000 рублёў. Суддзя — В. Чапіжны. Задачы ў двух экземплярах дасылаць да 1.09.1996 г. на адрас: 123103, Москва, Живописная ул. 18, корп. 2, кв. 128, Чепижному Виктору Ивановичу.

* * *

У Латвіі праводзіцца III конкурс двухходовак «Latvijas Zeme». Устаноўлены тры прызы (50, 30 і 20 $ ЗША).

Задачы пасылаць да 1.09.1996 г. на адрас: Redakcia gazety «Latvijas Zeme», Republikas Laukums 2, LV-1068 Riga, Latvija, з паметкай «Schach».

* * *

«Магаданская правда» аб'явіла конкурс складання #2, #3, #4, #3 — мініяцюр з чорным ферзем. Устаноўлены грашовыя і кніжныя прызы. Задачы ў двух экземплярах дасылаць да 1.03.1997 г. на адрас: 685000, Магадан, ул. Пролетарская, 11, редакция «Магаданская правда» з паметкай «Шахматы».



**ЗАСНАВАЛЬНІКІ:**
**Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь, калектыў рэдакцыі газеты «Звязда».**

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.

Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, В. ЖДАНКО, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.

Рэгістрацыйны нумар 1.

*НАШ АДРАС: 220013, гор. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда».*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 32-38-02, 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 32-31-21, 68-29-68, палітыкі — 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, беларускай дыяспары — 68-28-27, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Паставах — 22-400; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-31-98.*
*ФАКС: 32-04-52, 68-28-77. E-mail: daily@zwyazda.belpak.minsk.by*

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннем рэдакцыі.

Адказнасць за змест рэкламы нясуць рэкламадаўцы.

Рэдакцыя пакідае за сабой права не ўступаць у перапіску з чытачамі.

Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 91852.
Індэкс 63850.
Зак. № 4311.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.